Гэта — адзін. А другі, не менш сур'ёзна:
— Дзіва што! Чай — гэта ж самая лепшая пішча!..

П'яны нарачанскі рыбак расказвае пра зяця-крамніка, што ён — баязлівец. Ішоў па лесе з грашыма, запынілі «нейкія смаркачы», напалохалі — аддаў, а сам цяпер захварэў на сухоты.
— Які ж ты пасля гэтага беларус? — абураецца цесць перад выпадковымі слухачамі.— Даруйце маю няскромнасць і дурату, але, як быўшы ў контрразведцы мікалаеўскай арміі, я лічу, што мясцовы наш беларус павінен быць такі. З куста гавораць: «Я воўк, я цябе з'ем». А ён павінен адказаць: «Калі ты воўк, дык я леў, і я не баюся цябе!..» А то што!..

Студэнты праходзяць у клініцы практыку. Хворым не вельмі падабаецца быць аб'ектаміназіранняў. Раз, другі, і нарэшце старому абрыдзела. Разбурчаўся перад урачом:
— Глядзець — няхай сабе глядзяць, а гіяграфіі болей расказваць не буду!..

На сямейным застоллі малады гаспадар, вясёлы і спраўны калгасны шафёр, расказвае пра свае пчолы:
— Паабсякаюць яны трутням крылы — ляжаць тыя ўхаджоры, як збанкі. А раней як жа іх хораша запрашалі туды!.. От дзе, браточкі, наша мужчынская доля!..

Стары рыбак, пад чаркай, раіць маладому дачніку:
— Калі, не дай бог, што здарыцца, дык не бяры ты, браток, удавы. Ведае яна, зараза, усе ходы і выхады!.. Бяры лепш зноў маладую.

Старшыні калгасаў у раённай цырульні. Адзін сядзіць ужо намылены, другі чакае чаргі.
Намылены:
— Федзьку Капусціна мы вывучылі на баяніста.
З чаргі:
— Ну і колькі ж ён вам дае на сто гектараў ворыва?

Кавалер з другое вёскі, каб паказаць сябе, насыпаў у кішэню портак дробязі. Скача польку са звонам.
А падшыванцы бегаюць, хіхікаюць, крычаць:
— Дзядзька, дай цвік!

— У Мікалаеўшчыне, браце, і бабы баявыя,— успамінае дзядзька.— Неяк там нашы мужчыны ішлі ды прылеглі над Нёманам адпачыць. Іхнія бабы раку з таго боку ўброд пераходзілі. Пападнімаліся, вядома. А наш Сёмка Самусік — аж вылупіўся, так глядзіць. І сораму няма, нібы блазнюк. Адна, што першая ішла, выйшла на бераг — стаіць, як багіня.
— Ну што,— пытаецца ў Самусіка,— як, хараша?
— Ого,— кажа ён,— яшчэ як хараша!
А тая павярнулася кругом:
— Дык на яшчэ і барыша!..

Шафёры сумуюць на ганку райвыканкома. Спёка. Начальства пакуль што нікуды не едзе — нарада. Лена перабрэхваюцца, мала рагочуць.



Вось едзе вуліцай на матацыкле нейкі хлопец або дзядзька... Не пазнаць — даўно не голены, ледзь не да самых вачэй абвязаны хусткай.
Ленае слова самага веселуна:
— Гэты ўжо, хлопцы, лішняга слова не скажа.
І вялыя ўсмешкі.

Вясёлы дзядзька, калгаснік:
— Калісьці маці мая ішла замуж, дык не магла дастаць панчох пад вянец. Паперы накруціла беленькай у хадакі... Спадніца доўгая — яно і не відаць, як там вышэй. А цяпер у аднаго мяне тры дзеўкі модныя. Дальбог, братко, мяхі старым капронам завязваю!..

— Яшчэ пасля вайны, як толькі калгасы арганізоўвалі, быў у нас конік Аршын. Збракавалі яго потым і прадалі на беражэнскія хутары. Аднаасобніку. Дык ён назад уцякаў, у калгас. Дзядзька, што купіў, верхам на суседскага каня і — наўздагон. Пёр, пёр наш Аршын, а потым, хлопчыкі — брык! — і інфаркт! Са страху, што трэба вяртацца на хутар. Сазнацельны!..
Рагочуць рабочыя міжкалгасбуда.

Пра прымака, які ўзяў у хаце ўладу:
— Учора купалі яго. Жонка шаруе плечы, цешча грэе каля грубы споднікі, а цётка стаіць каля дзвярэй, каб дзеці холаду не напусцілі...

Сусед, вучоны хлопец, прыехаў з горада ў госці на сваёй машыне. Лісліва бапцістачка ажно рукамі развяла:
— А дзякуй табе, госпадзі мілы, што ты хоць аднаму чалавеку ў нашай вёсцы даў такую павозачку!..

Назаўтра пасля вяселля ў свёкра пытаюцца:
— Ну, як нявестка?
— Дай бог усім добрым, ого!..
Усе рагочуць.

Начальніка гэтага трэба яшчэ ўмець пачаставаць. Ён табе правай курынай лапкі есці не будзе!..
— Чаму?
— Бо курыца ж сядзіць заўсёды на правай лапцы. Дык левая — мякчэйшая.

Памёр сусед, пажылы чалавек. На хаўтурах старэйшых мужчын запрашаюць пралазіць на покуць. Весялейшы:
— Ну што ж, кандыдаты, пайшлі!..

Мужчыны-калгаснікі на вячорках.
— Лось, казалі, ішоў цераз поле. Пад вечар. З-за Грыбавага хутара і проста загуменнем...
— Які табе лось! Гэта ж Аўдоля барану калгасную ўкрала ды тарабаніла на сабе!..

Сталічны тэатр на гастролях у далёкім калгасе.
У час спектакля нейкі дзядзька ўсё ўставаў,— устане, пастаіць, зноў сядзе, пачакаўшы, зноў устае...

Усхваляваны рэжысёр спектакля падышоў на пальчыках і шэптам, з надзеяй спытаўся:

— Што, дзядзька, падабаецца?

— Не, проста «цётка» забалела.

Грандыёзная дама, што пабывала ў адказнай замежнай камандзіроўцы, расказвае з трыбуны пра сваё падарожжа. На выдатным узроўні спеласці:

— Пасля, таварышы, мы паехалі глядзець Елісейскія палі. Факт застаецца фактам — яны даволі прыгожыя... Амерыканскія цукеркі і торты — зусім, таварышы, не смачныя, і гэта — факт...

Муж у хоры, а жонка ў танцавальнай групе ансамбля. Сёння зноў пасварыліся, ды так, што яна аж не спала, прыйшла заплаканая, як ніколі дагэтуль. А тут адказны спектакль!..

Хормайстар і балетмайстар разбіраюць справу. Асабліва абураецца другі, за танцаўшчыцу:

— Праз гадзіну ёй выступаць. Што — яна зможа мне сёння забяспечыць належную ўсмешку?!.

Старшыня калгаса і пісьменнік аж з Масквы аглядаюць новы цагельны завод. Старшыня вельмі рад. Пісьменнік творча заклапочаны. Глядзіць — з коміна звісае дрот громаадвода.

— Што ж гэта так у вас? — пытаецца, амаль што нездаволены пісьменнік.

Кульгавы дзед, вартаўнік, таксама не лыкам шыты, бывалы.

— Ды гэта,— кажа ён,— ведаеце, усялякія ліца тут, бывае, цягаюцца...

Два работнікі Акадэміі навук, суседзі па дачах, сварацца за грады. Сварка ідзе на высокім інтэлектуальным узроўні. Па дапаможніках.

— У вас, магчыма, ёсць нават Даль?

— А што ж вы думалі — няма?

— Ну, дык ідзіце паглядзіце там на літару «г». Адно слова. Яно вас датычыць!.. Яно адпавядае вашай гнюснай сутнасці!..

У пуставатым вакзальным рэстаране джазгае аркестр. Барадаты, бязногі, бедны і п'яны аматар класікі не вытрываў, крычыць з-за століка:

— Не наганяй на душу таямнічы змрок — іграй Чайкоўскага!

Выкладчык беларускай мовы ў вясковай школе, тоўсты, вясёлы мужчына, сам прыдумвае сказы для дыктанта:

«Яна ляжала на печы і дрыгала нагамі».

«Ад ранку еў я дранку».

Наменклатурны таварыш, якога ўжо трыццаць год кідаюць то на дзёгаць, то на оперу, усюды разбіраецца аднолькава. Але ж усюды кіруе. Цяпер, кіруючы выхаваннем будучых жывапісцаў ды графікаў, прыехаў праверыць, як паводзяць сябе студэнты-мастакі на летняй практыцы.

— Чаго седзіцё тут, а не рысуеце?

— Натуршчыкаў чакаем, Аляксей Міхайлавіч.



Суровы, важны позірк з-пад капронавага капелюша:

— Ну дык пакуль што рысуйце фон!..

Заклапочаны, сумны літаратар зарагатаў, калі прадаўшчыца — у магазіне мастацкіх вырабаў — прапанавала яму «вельмі цікавы» пісьмовы прыбор з... люстэркам. *Пішы і любуйся сабой!..*

Вусаты, салідны дзядзька, калгаснік, хваліцца прыезджаму інжынеру:

— Мой пляменнік таксама ў Мінску вялікі чалавек: іграе ў оперным тэатры на трубе нумар адзін.

Дырэктар аднаго з выдавецтваў забракаваў фальклорны зборнік з-за прадмовы, дзе гаварылася, што і да Кастрычніцкай рэвалюцыі нашы фалькларысты мелі пэўныя поспехі.

— Як гэта так! — абурыўся «падкаваны» таварыш.

Калі ж яму падсунулі, як прыклад, Шэйна і Карскага, гэта яму «нічога не сказала». Сваё рашэнне ён абгрунтаваў:

— Талстой, Леў Мікалаевіч,— вялікі пісьменнік? Бясспрэчна, вялікі. Але ж мы гэта не падкрэсліваем.

Артыстка і на пляжы іграе — ролю прыгожа, пяшчотна адпачываючай. Пачне ў ваду заходзіць — проста танец німфы на каменьчыках!..

Атрымаўшы званне заслужанай, яна пакінула свайго старога мужа, рэжысёра.

Матылёк выпырхнуў, а кокан застаўся.

Стары прадавец у кніжна-газетным кіёску ніяк не можа знайсці фота кіназоркі, якое просяць дзве школьніцы. Пачынае іх далікатна адгаворваць:

— Яна, вы знаеце, такая шчупленькая... Нічога асаблівага!..

Недзе ў трылогіі Сянкевіча крымскі хан, слухаючы паслоў, жаваў сабе бананы. Потым вялікі меў ласку загаварыць. Ён выплюнуў недажаванае на далонь, падаў яго бліжэйшаму візіру. Той з паклонам прыняў, стаў з глыбокай пашанай дажоўваць...

Калісьці, пры кульце, гэта напамінала мне некаторых «філосафаў».

У клубе аднаго з заходнебеларускіх калгасаў адбываецца сустрэча са сталічнымі дзеячамі культуры. У прэзідыуме — побач з даяркамі, конюхамі, пастухамі — сядзяць пісьменнікі, кампазітары, мастакі. Нічога дзіўнага. Але старая настаўніца вельмі хвалюецца. Падсухая, жывая цётачка, устаўшы побач з тоўстым, вялым мастаком, яна захоплена выступае:

— Хіба ж гэта пры панах было так калі-небудзь, каб пісьменнік які ці мастак ды прыехаў да нас, мужыкоў? А цяпер вось іх можна не толькі ўбачыць, але ж і памацаць!..

Цешча прыйшла з юбілею зяця-пісьменніка.

— Ну ж і хвалілі яго... ну, проста ўсякімі словамі!..

На экзаменах у вясковай дзесяцігодцы.

Здаровы хлопец, басам:

— Старая Ізергіль была ў маладосці маладой цыганкай і нічога не рабіла, толькі кахала. Цікава паставіць пытанне і разглядзець, каго яна кахала. Аднаго папа кахала, але ён быў вельмі тлусты...
Другі — жвавы, бойкі хлапчына:
— Чычыкаў, гэта быў такі чалавек... такі памешчык, што ездзіў па Расіі са шкатулкай і займаўся шпікуляцыяй.

Пачатак дамскага рамана:
«Бацька ляжаў на ложку і ціха змагаўся сам з сабою...»

У Маскве на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы з павільёна ў павільён хадзіў пенсіянер і ўсюды пакідаў у кнізе водгукаў запісы вершам. Накшталт такога:

Электротрактор — не кобыла,
Сильней кобылы в сотни раз.
Наш курс направлен к изобилью,
Исполним родины приказ!..

Далей быў подпіс, прафесія, дакладны адрас, дата.

Радыёканцэрт па заяўках. Дыктар гаворыць службова-расчулена:
— Іван і Марыя Акулёнкі з горада Гродна просяць перадаць іх музычнае прывітанне маці-калгасніцы, у сувязі з яе сямідзесяцігоддзем. Слухайце, паважаная Сцепаніда Васільеўна, гэтае прывітанне.
Паўза і — бас Міхайлава:

«Чую смертный час...»

Былы старшыня сельсавета:
— Пасля вайны гэта штосьці было... Ну, але, я толькі другі год, як дэмабілізаваўся. З пазыкай бяда — не дацягнуў ажно пятнаццаць тысяч!.. Сяджу, бядую, а тут прыходзіць Сівы... Тып у нас адзін такі ёсць. Я — чалавек не тутэйшы, людзей яшчэ добра не ведаў. «Хачу,— кажа ён,— падпісацца, таварышы, на заём. Дваццаць тысяч». Я ажно вочы вылупіў. І рад, вядома!.. Падпісаў я яго, унёс ён дваццаць пяць рублёў, а рэшту, кажа, у панядзелак. З перавыкананнем вас, думаю, Ілья Іванавіч!.. А потым паехаў я да таго дзядзькі: «Гані, браток, астальныя 19 тысяч 975 рублёў». Ляжыць, падла, на печы, рагоча: «Вам мала, што я вас выручыў з бяды? Яшчэ і грошы вам давай?..»

Цётка-гром, «старшыніха» калгаса, тры месяцы пабыла дэпутаткай.
Пасля пасяджэння да яе падышоў малады карэспандэнт і ветліва папрасіў пяць мінут.
— Не, не магу вас сягоння прыняць. Я очынь фстала.

Дзядзька-малакавоз, у якога на пункце не прынялі пракіслага малака, прыйшоў у райком, да першага сакратара.
— Скажыце мне, калі ласка, якім малаком мы будзем даганяць Амерыку — толькі салодкім ці і кіслым таксама?
Сакратар быў у вясёлым настроі.
— А гэта як хто любіць. І кіслае малачко таксама добра.
— Ну дык пазваніце вы, таварыш сакратар, тым абармотам, каб прынялі маё малако.



Ліслівы старшыня калгаса, выступаючы на сходзе:
— Як я выйду на вёску, дык ты, другі, ад мяне ўцякаеш... А чаму гэта я — як толькі ўбачу сінюю «Пабеду» таварыша старшыні райсавета, дык сам бягу, бо ведаю, што ад гэтай «Пабеды» толькі дабра можна чакаць!..

Беларускія турысты ў парыжскім аўтобусе. Як звычайна бывае далёка ад дому, у адпачынку: «Таварышы, давайце, будзем пасля прыезду дружыць, сустракацца!..» Згода і захапленне. Старшы групы і тут адчувае сябе адказным таварышам.
— Арганізацыю гэтай справы я бяру на сябе. Мне гэта — проста: вазьму ў БРК прафсаюзаў вашы адрасы, даручу свайму сакратару абзваніць усіх і збяромся.
Малады, вясёлы скептык:
— Міхаіл Сямёнавіч! І я на гэты час найму сакратара. Каб ён дагаварыўся з вашым.

У паліклініцы.
— Здарова, Зойка, што ты тут робіш?
— Я — па пытанню зубоў.
Гэта — не жартам. Дзяўчына — на кіруючай рабоце.

Старшыня калгаса, хамаваты, захвалены выпівака, выступае на камсамольскім сходзе. Моладзь — амаль уся з сярэдняй асветай, а ён ім вярзе:
— Стары ты ўжо, таварыш Крэнь, на загадчыка клуба. Так, як карова: старой цана дзвесце, а за маладую даюць, нябось, чатырыста. Можа не так?
І сам рагоча.
Каб жа толькі сам!..

Упаўнаважаны:
— Крычым, крычым за план, а ўвечары сяду вячэраць і... масла есці не магу. Здаецца, усё яно нашым матам насычана.

Сын вельмі падобны да нябожчыка-бацькі. І вочы з нейкім сумам, і хада тая самая... Пазычыў дзесяць рублёў і... не прыходзіць вось ужо трэці год. Ох, як ён і сапраўды падобны да бацькі!..

Ціхі, стары чалавек, пакуль хлапчукі латошаць ягоныя грушы:
— Рвіце, рвіце! Паглядзім, што вы будзеце рваць, калі яны паспеюць!..

Толькі ж гадоў са два таму назад гэта быў цуд нашай тэхнікі— ТУ-104. А цяпер ужо бабка (бачыў сам у Хабараўску) стаіць у чарзе на пасадку і жміндзіць:
— Білеты ўзялі на сто чатырнаццаць, столькі чакалі, а вось ляцець даводзіцца на гэткай дрэні...

Сорак сёмы год. На заставу прыведзены парушальнік — абдрыпаны дзядзька з таго боку граніцы. Канваір далажыў камандзіру заставы.
— Таварыш маёр! Перасылаю парушальніка. Затрыманы — нямко. Мімікай і жэстамі паказаў, што імкнецца ў СССР у пошуках лепшага жыцця.

Чорная бухта. Кажуць, бяздонная. А ён, найлепшы ў вёсцы майстар лавіць рыбу рукамі, набраў паветра, ажно надзьмуўся, і, падскочыўшы, апусціўся на дно.

Ці дастане?.. Глядзіць на гэта мноства голых — мужчын, дзецюкоў, падлеткаў і драбязы. Доўга няма — ажно вусцішна. Усе затаілі подыхі, нібы дапамагаючы яму не дыхаць — там.

І вось, нарэшце, ён паказаўся над вадой, аберуч трымаючы перад сабою — з гэтай пары легендарна «вялізнага» — язя!..

Малады, сімпатычны в'етнамец, студэнт нашага інстытута, заходзіць у цырульню і, павітаўшыся шырока-ўсмешлівым «дра-туйце», звяртаецца да адзінага ў чакальні кліента:

— Каму канец? Вам? Ха-га-сё. Я за вам.

У вагоне прыгараднага цягніка фабзаец частуе аднавяскоўца лімонам. Абабралі яго, як апельсін, і смокчуць, жуюць.

— Не магу, брат,— кажа нарэшце аднавясковец.— Кіслоцце нейкае, аж сцепае...

— Трэба прывыкнуць,— сур'ёзна, з пачуццём перавагі, кажа юнец, гараджанін з гадавым стажам.

У міжгароднім аўтобусе — элегантная дамачка з мужам-афіцэрам. Наша, мясцовая моладзь. Ды ўжо толькі па саломінцы на яе паліто — пакуль яна яе не заўважыць — можна і здагадацца, што на аўтобусны прыпынак бацька са свёкрам прывезлі іх у развалах.

У маскоўскім кафэ.

Загарэлы, стомлены палкоўнік глядзіць на тоўсты карак і азадак маладога афіцыянта і, уздыхнуўшы, з прыціскам кажа:

— Эх, паганяць бы хоць тыдзень!.. Яны тут — усе сардэчнікі. А пражыве такі трыста гадоў, як крумкач!..

Даўно было.

Карчма над Нёманам, на ўскраіне маленькага заходнебеларускага мястэчка. Стары Абрам-Эля прыехаў са станцыі, прывёз у крамку тавар. Нашылася суседскай дзетвары. Просяць, каб расказаў, як ён бачыў цягнік. Расказвае, з добрай усмешкай у барадзе:

— Машынке хап а пружынке, пружынке хап а машынке, машынке хап а паравоз, паравоз хап а калёс, калёс хап а вагон, вагон хап а пасажыр, пасажыр хап а чамадан, чамадан хап а вешч... Кандуктар — а грэйсэ пуза, а клэйнэ дудочке — фю-ю-ю!! І ўшо...

Увішны аграномчык, недавучка. Пры Польшчы, кажа, закончыў «ральнічую школу», але... «згубіў дыплом». Цяпер бегае з партфелем па знаёмых і збірае **падпісі**.

Чалавек гэта быў настолькі культурны і чысты маральна, што саромеўся адчуваць сябе дзедам — з-за... непрыстойных паводзін сваіх дзяцей...

Як дабірацца да сэнсу мянушак?

На дзядзьку кажуць Куныла. Чаму? Аказваецца, ён вельмі любіў калісьці песню:

«Звонок-к-к уныло прозвенел...»



У Паўла і Пятра, двух гультаёў, даўно ўжо цякуць хаты. У дажджлівыя ночы, сплючы, Пятро накрываецца непрамакальным плашчом. А Павел, як менш культурны, лезе ў печ.

Дама такая тоўстая, што хочацца начапіць паперку: «Асцярожна! Не кантаваць!»

У самалёце, абапал століка, сядзеў я са здаравенным, вахлакаватым і нахабным армянінам, доктарам навук. Увесь час ён таптаў мае ідэальна начышчаныя туфлі і не прасіў прабачэння. Так і хацелася спытаць:

— Скажыце, у вас дзве нагі ці чатыры?

Можаш напісаць эпапею, зрабіць незвычайную хірургічную аперацыю, выдумаць звышвадародную бомбу,— усё адно не будзеш такі важны, як дама-мяшчанка, калі яна едзе ў тэатр ці на рынак ва ўласнай машыне.

У вагоне, убачыўшы першую горную рэчку, дзяўчынка ўскрыкнула:

— Ах, мама, Церак!..

Мама ў раскошнай піжаме:

— Гэта не Церак. Церак я ведаю. Я ў Цераку ножкі мыла.

Мардатая, рыжая, непрыгожая маладзіца, што прыйшла ў вёску замуж з калісьці багатага хутара, з «ганаровай сям'і», расказвае:

— Урбанок хацеў нашу Маню ўзяць. Вельмі ж хацеў дастаць нашай пароды.

Як парасят породзістых дастаюць.

Дзве святыя сям'і вельмі дружаць. У адной — сын жаніх, разумненькі, адкормлены, вясёлы здаравяк; у другой — дачка на выданні, мілавідная, з тоўстаю залацістай касой. Дачы побач. Купацца ходзяць павольненька. Там перакусваюць. А пад вечар — таксама ціха і радасна — ідуць з гарадскімі сумкамі... у калгасны гарох.

Тоўстая дачніца ў шахеразадным халаце велічна праплыла па вёсачцы з трыма лісічкамі ў манерна ўзнятай руцэ. Сама знайшла!..

За ёю — муж. З кошыкам. Сухашчавы, у паласатай піжаме. Як вязень канцлагера.

Пажылая шляхцянка, кругленькая, няросла баба, нездаволена тым, што і ў «хамскай вёсцы», куды яна прыйшла замуж, пачалі культурна называць дзяцей.

— Падумаць толькі, гаспада! — гаворыць яна суседкам каля студні.— Валерык... Генік... Такія імёны шкада кідаць у такое...

Разбрыджаная пры немцах мяшчаначка, амаль нявеста пажылога дырэктара райкамунгаса, былога партызана, калі ён працверазіўся і парваў з ёю адносіны, напісала яму вялікае, поўнае сілы і прыгажосці пісьмо:

«Ты ведь разбил хрустальную вазу нашей любви!..»

На бацькоўскім сходзе дама выказвае настаўніцы сваё культурнае абурэнне:
— І як гэта вы маглі напісаць маёй дачцы: «Папрасі **тваю маць** прыйсці заўтра ў школу»?..

Пра свайго другога мужа яна, нарэшце, справілася ў народнага артыста:
— Ці вялікая будучыня ў майго Васіля?
— Не думаю,— адказаў ёй народны.
Яна сабрала мужу чамадан, правяла яго да дзвярэй, абняла і ледзь не заплакала:
— Праводжу цябе, Васілёчак, як на курорт...
Маладая, прыгожая, энергічная, адна дачушка ў разумнае мамы— яна цяпер шукае трэцяга.
А малады акцёр, сяк-так таленавіты, вялы вясковы целяпень, пад чаркай бубніць пра няшчасце...

Афіцэрская жонка, прыгажуня і модніца. На людзях — ну, проста флакончык з духамі, а дома грызе свайго капітана:
— Ах, ты мне зарплату прыносіш!.. Думаеш, гэта яе табе даюць? Мне, мне даюць! Затое, што я штодня гляджу на тваю паганую морду!..

Бывалая і важная курортніца хадзіла ў шторм па беразе. Адна.
— Мора так шуміць, так шуміць!.. Проста станеш ды думаеш... Ах, ды хіба ж гэта хто-небудзь зразумее!..

Здаравенны, адкормлены, а на курорт паехаў. Жонка хваліцца потым суседцы, па тэлефоне:
— Лёва не ўзяў ні кілаграма. Толькі вельмі пасвяжэў.
А Лёва, стоячы побач, толькі пацее ды задыхаецца.

Дачная дама ідзе пазіраваць знаёмаму мастаку. Партрэт будзе толькі да пояса, а ўсё ж такі яна абула новенькія басаножкі.

Поўненькая, вясёлая жанчына-гід, ачмурэлая ад спёкі і таўкатні, расказвае групе турыстаў у рымскім музеі:
— У гэтай ванне, як кажа легенда, жонка Нерона купалася ў асліным малаку...

Сваты прыйшлі, а дачка яшчэ маладзенькая. Бацькам гонар:
— Ды што вы, сваточкі, яна ж у нас яшчэ ў рэшаце спіць!..

У лесе на Глушчыне. Былыя партызаны прыехалі з горада і шукаюць свой лагер. Смешна, але трэба спытацца ў баб, што збіраюць ягады.
— Не ведаю,— кажа адна.
Другая — не мясцовая:
— Я і сама сюды не трапіла б, а вось з **гатоваю бабай** прыйшла.

Калгасны заатэхнік гаворыць **следавацяльна** замест **пасля**:
— Зрабіў карове ўкол, а следавацяльна пайшоў дахаты.

Цешча ў трамваі:
— Мае пасварыліся. І спяць асобенна, і ядуць асобенна.



Фабзаец на вясковых вячорках:
— Будзем, хлопцы, спяваць. Скінь толькі, Сцёпка, гумовыя боты, а то рэзанансу не будзе.

З газетнага нарыса:
«Тут яна праявіла ўвесь свой незрасходаваны розум сялянкі...»

— Хто тоненька, хто тоўсценька, а я і зусім маўчу, дык мне прыходзіцца ў апошнюю чаргу!

— Яна пяцёрку за дыктант прынесла. А ты? — крычыць маці.
Бацька, як больш памяркоўны:
— Далі б ёй, дык і яна прынесла б. Чаго ты крычыш?..

Сын, літаратар і выпівака, вярнуўся дахаты ў пяць гадзін раніцы.
— Разбудзі мяне, мама, заўтра як найраней.
— Калі заўтра, сынок,— заўтра заўтра ці сёння заўтра?..

Унук:
— А я, дзеду, болей з'ем за цябе!..
Дзед:
— Я ўжо, браце, за век наеўся.

У прыгарадным цягніку. Салдат купляе ў бабы яйкі. Куды ж іх падзець?.. Адчыніў чамадан. Баба — усцешана, дабрадушна:
— О, мілы, у цябе ж там столькі яшчэ памяшчэння!..

Вясковы актывіст на нарадзе селькораў:
— Я вельмі рады, што мне ўдалося выступіць з гэтай высокай турбіны...

Якія табе дакументы, калі ў мяне і кішэняў няма!

Жыве ён бедна — рабіць лянуецца. Не п'е — і піць лянуецца.

На пошце ў райцэнтры. Камандзіровачны звоніць у таксапарк:
— А скока вы бяроце зарплаты за адзін кіламетр?

Згружаюць нешта цяжкае.
— Во, брат, людзей! Мне, нясмеламу, дык і ўляпіцца недзе!..

П'яны, усадзіўшы ноччу галаву ў чужое, адчыненае акно:
— Людзі, устаньце, скажыце мне, дзе я і хто я?..

— І вы, бабуля, па гэтую рыбу ў чарзе стаіце? Адна душой жывучы?
— А што ж, мілы, і адно вока хоча спаць.

— Як ты жаніўся: па любві, з разліку?
— Я? Па суседству.



# МАЛЕЧА

Ляцім над акіянам. Дзесяць тысяч метраў.

Уверсе — блакіт, унізе — цьмяна-попельныя хмары. Паміж блакітам і хмарамі — ззаду за намі — вячэрняя зара. Чорнае крыло самалёта. Успамінаецца Рэрых.

Ноч. Непраглядная бездань за акном. Толькі нашы адлюстраванні на шыбе.

Пасля — звястунка раніцы — адзінокая зорачка. Зноў рэрыхаўская зара, ужо з усходу. Зноў чорны меч — крыло. Унізе — зноў шэры насціл хмар, пад якімі яшчэ ўсё акіян. Меч, бліжэй ад акна, спакваля пачынае паблісквацъ. Зару замурзваюць воблакі.

Светла-попельны колер хмар пад намі нагадвае то густы шарош на вадзе, то нядаўна астрыжаную аўчыну.

Зара разгараецца. Стала ўтварацца вялізная ракавіна — з неба ўверсе і мармуровых хмар над намі.

Сонца!

У падвяснои калысцы прачнуўся чарнавокі французік і, з валасатай галоўкай на маміным плячы, паплыў над галовамі пасажыраў. Чорныя вочкі ўсміхаюцца...

І хочацца на ўсіх мовах адразу сказаць яму:

— Добрай раніцы!

У хаце — першы сынок, першы ўнучак. Ён увайшоў у жыццё ўсёй сям'і паўнаўладна, як рэфарматар. Нават граматыку сваю ўвёў. Гаворыць пра сябе — толькі ў трэцяй асобе, з поўнай важнасцю заяўляючы:

«Валодзя хочаш спаць».

«Валодзя не хочаш есці»...

Бацьку не спіцца і ён любуецца сынам у калысцы. А што ж вы думалі! — вось ён рашуча і ваяўніча гукнуў камусьці праз сон:

— Іванаўніць!

Сваё імя па бацьку. І ўсміхнуўся. Дзякуй, сыне!..

Чырванашчокі, вочы блішчаць, рукі — усе падрапаны да крыві. Шчаслівa хваліцца бацьку, як забаўляўся з катом:

— Ён мяне лапкай, а я яго — люцькай!..

І столькі радасці, смеху!..



Стаміўшыся на вуліцы або ньючы дома, хлопчык, чатыры гады, вельмі любіць гартаць перакідны каляндар.

Пасля неяк маці, вярнуўшыся з працы, ласціцца з ім:

— Вось і вясна. І як жа я цябе ў вёску да цёці адпраўлю? А сама буду плакаць?..

— Я без цябе не паеду. І цяпер не паеду, і на другі каляндар не паеду!..

Сынок дамагаецца стрэльбы ці «пашталета». А бацька не любіць такіх цацак.

— Вось пачакай,— кажа ён, на поўным сур'ёзе,— пашлю я цябе ў ААН. Нашы там б'юцца за раззбраенне ў Нью-Йорку, а ты мне тут... І наогул, браток, я працую. Ідзі гуляй.

От, адмахнуўся — і толькі. А сын не забыўся. Назаўтра просіць маму:

— Пазвані мне Мішку.

Трохгадовыя грамадзяне, яны звоняць адзін аднаму яшчэ пры дапамозе дарослых. Балбочуць, пакуль не спыніш, а няма чаго гаварыць, дык пачынаюць кукарэкаць або гаўкаць і залівацца найшчырэйшым смехам.

Сёння ў іх пачалося вось з чаго:

— Мішка, мне пашталет не будуць купляць.

Паўза гаворыць пра тое, што на другім канцы провада задаецца пытанне — у суседнім пад'ездзе, таксама стоячы на табурэтцы, здзіўляецца такі самы мілітарыст. Наш адказвае:

— У Нью-Йорку сабраліся дзядзі і б'юцца, а тата мой кажа, што не трэба... Га?.. Я вазьму мячык... Мама, на павесь трубку. І апрані мяне.

Хлопчыку пяць гадоў. «Як мужчына мужчыне» — бацька расказаў яму, што такое ў сапраўднасці Дзед Мароз. І малы паверыў. Аднак, калі яму мама вярнула Дзеда — сказала, што тата пажартаваў, што Дзед прыходзіць, прыносіць пад ёлачку падарункі — хлопчык быў рады, вядома, яшчэ больш.

Дзецям патрэбна казка. Яна не разбураецца сапраўднасцю.

На піянерскую ёлку хлопчыка ўзяла старэйшая сястра. Найбольш уразілі яго вялікі мішка і ліса, што разам з дзецьмі танцавалі вакол ёлкі. У перапынку ён убачыў, як ліса — зняўшы маску — піла ў буфеце піва. Спацелы дзядзя!.. Цягне з кухля, аж но лісіны хвост падрыгвае... А ўсё ж і пасля гэтага малы расказваў пра лісу — як яна з імі весела, пацешна вырабляла ў карагодзе!..

Гаварыў па міжгароднім тэлефоне з сынам.

У яго вялікі клопат. Заўтра трэба ехаць з мамай у грыбы, бо яго няма з кім пакінуць дома. І трэба вельмі раненька ўставаць... Голас — амаль праз слёзы.

А прычына, вядома, не ў гэтым. На суседні двор, месца іхніх баталій, прыйшоў экскаватар. І так жа добра глядзець, як ён капае канаву! Глядзець — не так сабе, не як-небудзь, а з даху гаража. Хоць мама і крычыць за гэта, хоць бацька — па тэлефоне цяпер — угаворвае быць асцярожным ды паслухмяным.

Пагаварылі мы з ім пра ўсё гэта, і так мне міла, і смешна, і пасур'ёзнаму добра было на душы ад нашай дружбы!..

А ўвечары — званок. Мой друг, аказваецца, не вытрымаў салідні. Знайшоў адзін баравік і годзе: «Буду сядзець у машыне».

Прыйшлі грыбніцы, глядзяць — яго няма. А потым голас — куды там ужо да геройства! — «Ма-ма» з самай верхавіны сасны... Страшна, вядома, страшна было, пакуль ён злазіў адтуль, і ручкі дрыжалі, і мама з цёткамі зміралі ўнізе, з усёй сілы трымаліся, каб не ахнуць ды не спалохаць яго...

— Ты што ж гэта, стары, экскаватар убачыць хацеў?

Разумею становішча, стараюся пытацца весела. Ды ў трубцы голас — поўны належнай пакоры, і вечнае:

— Я больш не буду.

Будзеш, хлопец! Хоць і страшна, хоць я і павінен казаць, што не трэба, але — будзь!

Ад новых непрыемнасцей па радыё, ад думак пра пагрозу новай вайны — сон быў цяжкі, кашмарны. Здаецца, я за горадам, у лесе. На Мінск упала атамная бомба, там ужо нікога няма, а мы тут толькі паслеплі. Таўкуся паміж дрэў, крычу. І гэта — горш за смерць!..

Прачнуўшыся, думаў пра сына: што я сказаў бы яму, калі б пачалася вайна, як растлумачыў бы ўсю яе страшную недарэчнасць?

А потым ён абудзіўся, прыбег да мяне,— доўгі, шчарбаты, цёпленькі,— і ў перамежку паміж двума шчаслівымі снамі паведаміў:

— У Ірачкі паслязаўтра дзень нараджэння.

— Ты яе любіш?

— Ага.

— Мы ёй купім з табой шакаладку і ты занясеш?

— Ага.

Ірачцы, што гуляе з бабуляй на нашым двары,— два гады.

І ўсё гэта, вядома, вельмі, вельмі важна.

Па радыё перадаюць пра забойства Кенэдзі, а потым біяграфію яго наступніка. Хлопчык, сем год, пытаецца — зусім сур'ёзна, заклапочана:

— А ён харошы?

Навокал лісце і кветкі, а на руках у маладога бацькі — яго першая кветка, дачушка. Яна яшчэ ўсё маўчыць, відаць, ніяк не могучы пераступіць той парог, за якім, побач з разуменнем жыццёвых з'яў, будзе яшчэ і магчымасць падзяліцца з кім-небудзь першымі ўражаннямі і зародкамі думак. Яна маўчыць, наглядае ці проста глядзіць, час ад часу захоплена махае ручкай і вымаўляе нейкія мілыя, таямнічыя, смешныя падабенствы слоў. А потым, нібыта прагнаўшы ад сэрца шчаслівы, але цяжкаваты зарад уражанняў, зноў пачынае маўчаць...

Таму, што ў кожнай хвіліне нашага існавання бацьку хочацца бачыць няспынны рост яго дзяўчынкі, яму здаецца цяпер, што маўчанне і задуменны позірк яе — гэта першыя, ледзь бачныя адзнакі сталасці. І хлопцу чамусьці хочацца быць больш дзяцінным, чым яна. Ён прысядае з ёю на руцэ і з роснай травы ў сасновай засені падымае на сонца фарфорава-белую кветку рамонка. Ручка працягваецца да яе і смешна маленькія пальчыкі зацiскаюць у жменьку зялёнае каліва. Зацiскаюць і — так жа пацешна! — падаюць кветку ў рот, на першы, таксама фарфоравы зуб. Што ж ты зробіш,— такі ўжо спосаб праверкі на трэцяй сотні пражытых дзён!..

І вось ізноў яму радасна ад думкі, што яна, яго наступніца, пачынае жыццё ад пачатку, што ён паможа ёй пачаць яго лепш, прыгажэй, чым сам ён пачынаў.



Дзяўчынка так і пільнуе, калі той тата зноў будзе закурваць. Яна тады тушыць запалку. І робіць гэта вельмі ахвотна, вельмі пацешна. Пацешна і тое, як яна хукае, не могучы сагнаць з канца танюсенькай палачкі агеньчык, і, яшчэ больш — яе ўпэўненасць, зусім сур'ёзная, у тым, што яна — памагае.

Уранні, як толькі ён, малады паэт,— калі з прыемнасцю, калі бязлітасна памыўшыся да пояса халоднай вадой,— заходзіў у свой рабочы пакойчык (яшчэ ўсё смешна было называць гэты куток кабінетам), адразу яго сустракала дачка. Партрэт на акне за пісьмовым сталом.

Харошая! Падперла кулачкамі твар і зажурылася. Такія сур'ёзныя вочы. А губкі ўмеюць так пацешна надзімацца. Не злосна, ад клопату.

І подпіс пад фота: «Памагаю тату думаць».

У кіслым настроі ён нават фыркаў: «Сентыментальнасць, бабскія штучкі...» Часцей, аднак, вітаўся з памочніцай, і працавалася весялей.

Яна яшчэ спала б, хоць мухі роймя гудуць, дакучаюць, кусаюцца, хоць Васіль разроўся ў калысцы, што ледзь бабуля яго супакоіла. Ды вось прыйшоў Шурыкаў дзед. З бядою — учора малыя гулялі на іхнім двары і зацягнулі кудысьці аброць. Мілачку будзяць і шмат разоў, на ўсе лады гавораць ёй пра аброць. Вочы малое сонна моргаюць, і гэтак жа клоніць зноў на падушку! Але Шурыкаў дзед яшчэ ўсё пытаецца:

— Ну і што, дзе аброць?

Прыходзіцца ўсё ж такі ўспомніць, што яна, «гэты во», мусіць там, на прыгуменні, дзе ляжыць перавернуты воз, дзе кошка несла вераб'я, а яны, «гэты во», пабеглі за ёю, забыўшыся пра гульню ў «коні»...

— Вось і ўсё, маладзец,— кажа Шурыкаў дзед.

Міла сядзіць у нерашучасці: ці спаць яшчэ ці ўжо ўставаць?

— А ўжо ж,— кажа бабуля,— разбуркалася трохі, дык і ўставай за адным скрыпам.

Памыкаўшы трохі, малая даецца апранаць яе. Рукі старое дрыжаць, а ўнучка ўжо шчабеча. Нібы здагадваючыся пра тое, што і ўдзень, і ўначы мучыць яе бабулю, Міла расказвае сон:

— Я сплю, бабка, ляжу сабе і сплю, і сню — здаецца, нашы дзверы ры-ып і адчыніліся, а дзядзька Хведар — тыц у хату!..

Старая глядзіць на сваю шчабятуху, сумна ўсміхаецца і кажа:

— Ах ты, Аршулька!..

Міла ўжо ведае, што Канцавая Аршуля — старая ілгунка. «Ілжэ і не круціцца,— кажа пра яе бабуля.— Нібы казку табе расказвае. Прыйшлі, кажа, надоечы сем ваўкоў, пад'елі на нашым двары са свінога карыта з рабым кнырчуком і палеглі на возе паспаць... І сон яна табе сасніць на ўсякую патрэбу —толькі слухай...»

Унучка сарамліва аблізваецца і моргае, ужо не соннымі, вачыма. Але не каецца, што салгала,— яна ж хацела зрабіць сваёй бабцы прыемнае.

Потым старая мые яе, выцірае, ставіць голымі каленкамі на падлогу і пачынае «маліць». Міла і сёння зноў памыляецца, за што цяпер дзякаваць бабінаму «бозі» — за «шчаслівы дзянёк» ці за «шчаслівую ночку». А баба зноў злуе:

— Нябось, пра рэпку дык ты не забудзешся!..

Па снеданні пачынаюцца гулі — сонца, трава, вясёлыя вочы, прыгажэйшы за ўсякую музыку смех. Ды вось зімой нарадзіўся Васіль,

і трэба яго калыхаць, пільнаваць... Співаючы яму пра ўсё тое стракатае, рудое ды вусатае,— пра курачку-рабку, пра лісічку, што падмятае хату, пра Ваську-ката, пра ўсё, што Міла навучылася ад бабы,— нянька думае часта, як гэта добра будзе, калі іх Васіль сам навучыцца тэпаць. Яна тады выведзе яго з сабой на вуліцу, як Жэнька іхнюю Зосю. А часта яна, не могучы супакоіць свайго разяваку, кліча бабу ці маму з двара і з прыплачам крычыць:

— І што мне рабіць з гэтым дзіцем? Ідзі сама ды глядзі!..

Таксама лёгка, як салгаць бабулі, што сніла пра дзядзьку Хведара, Міла ўмее ўцячы ад Васіля, пакуль ён спіць або мармыча каля маміных грудзей.

Так яно выйшла і сёння. Пакуль мама карміла малога, нянька ціхенька шмыганула за дзверы.

Дзе ж гэта наша бабуля?..

Хутка поўдзень. Каровы з ранак прыйшлі. За гумнамі кветкі цвітуць у высокай траве. А ў небе — хмаркі калмыкамі, белыя, як пух.

Колькі тут трэба для ціхага шчасця!.. Старая вырвалася ад унукаў ды гаршкоў, ужо зацяжкіх на спрацаваныя рукі, узяла даўгаваты кавалак тычкі і пагнала за гумно Падласку. Карова галодная, як звер,— паша ўжо голая, вытаўклі,— і старой вельмі добра глядзець, што тут трава — любата, што скацінка пад'есць. Сама ж прысела ў траве, ад цэлага, каб не пускаць карову далёка, і думае, глядзіць, адпачываючы душой...

Ды Міла і тут яе знайшла.

— Бабо-о, го-оў! — гукае яна ўсцешана і — эх, чык, чык, як верабей — бяжыць. Абышла асцярожна Падласку, зайшла ў траву і павісла ў бабулі на шыі.

— А дай ты мне свет! — бароніцца тая. І ўжо смяецца, а потым пытае пра Васіля.

Міла кажа, што ён сабе спіць, а мама ў хаце... Але робіцца брыдка, што мама, можа, у грады пайшла... Нянька аблізваецца і слёзна моргае доўгімі вейкамі.

Бабуля добрая. Яна кажа, што маці паглядзіць там малога і сама,— заплача, дык і з гароду можна пачуць. Нічога ёй, пані, не зробіцца, пакалыша.

— А дзе наш тата?

Ну дык і што, калі яна ўжо, Міла, ведае пра гэта?

— Пайшоў канюшыну касіць,— спакойна адказвае баба.

— Куды?

— Куды ж, туды — у поле.

Старая нават рукой паказала.

Далёка, мусіць, тое «туды»? Вунь аж дакуль трава, а потым поле, потым лес... Усё ў лёгенькай, зыбкай імгле, ажно лень пазіраць — не паднімаюцца вочкі на сонца. А тут вось — кветкі!

— Бабка, я кветак нарву?

— От калі хіба, нарві!

І пачалася Мілiна сапраўдная малітва.

У мутнаватым блакіце звоняць, не сціхаюць жаўранкі. А нізам, па густой і глыбокай траве сігае цыбатымі, загарэлымі ножкамі бабіна Міла, збірае кветку да кветкі і моліцца песняй. Словы просяцца самі:

— Кве-та-чач-ка ма-я,
ха-ро-шань-ка-я!..—

дрыжыць над травою песня, трошкі падобная да звону жаўранкаў.



А потым — эх, матыль! Вялікі, жоўценькі, ён лётае з кветкі на кветку, садзіцца, зноў ляціць...

— Ма-ты-лё-ча-чак,
Ха-ро-шань-кі!..—

дрыжыць песня ўдагон матылю.

Міла ўжо вунь як далёка ад бабы. А кветак у яе руцэ — усё больш ды больш.

Зіначка ледзь не трапіла пад машыну.

Чула сігнал з-за паваротки, але ж ніяк не спыніла свой веласіпед. Ездзіць яна — яшчэ не на сядле, а «нагу пад раму», і так не вельмі зручна тармазіць.

Шафёр разгубіўся, рвануў улева, зламаў стары плот і паехаў у бульбу. Ужо і спыніцца не мог,— сябар, што побач сядзеў у кабіне, націснуў на тормаз...

Бываюць цуды! — і дзяўчынка жывая кудысьці ўцякла, і веласіпед цэлы, і легкавушка — потым убачылі — цэлая. Плот паставілі — проста ўмомант. І плакаць хацелася дзядзьку-шафёру, а ён усміхаўся...

Толькі Зіначку не адразу знайшлі. Дый не знайшлі б — сама яна прыйшла аж з трэцяга гароду. Калі ўжо і тая машына даўно паехала, калі ўжо і баба крычала, крычала ды сціхла. Баялася, распусніца, што баба будзе біцца. За тое самае — што «лётае на гэтым лісапедзе, як шалёнае».

Зіначка есць малако з хлебам і ўжо расказвае:

— А я, бабка, у Сымонавай бульбе ляжу і ножкі свае гладжу, гладжу, а яны ўсё дрыжаць!.. А яны ўсё дрыжаць!..

Ён пакрыўдзіў яе, сваю дзяўчынку, і горка думаў, што цяпер трэба будзе прыдумаць нейкі падыход, каб памірыцца.

А яна паплакала трохі і ўвечар, вяртаючыся са школы, купіла там, у школьным кіёску, два аркушы зялёнай паперы. На ягоны і свой пісьмовыя сталы. Чыстай, зялёнай, як маладзенькая рунь...

Што гэта, ад чаго — ад думак яе, васьмігадовага чалавека, ці проста пачуццё, любоў?

Жнівеньская раніца. У рэдкім лесе — заліты сонцам папаратнік. Пад адным такім парасонам хітра схаваўся вялікі падасінавік.

Дзяўчынка хадзіла, хадзіла па лесе і надарэмна толькі стамілася. Прылегла адпачыць, пасля расплюшчыла вочы — ён!.. Прыгожы, любы — як казачны прынц!..

Успамінаю даўняе, з заходнебеларускай вёскі.

...Гразь сцягнулі, нарэшце, першыя прымаразкі. Надвор'е сёння яснае, здаровае. Сад падасланы жоўтым лісцём. На клёне яго ўжо амаль што няма, а бяроза яшчэ ўсё калыша ад ветрыку доўгімі залацістымі косамі.

Я абкопваў яблыні, ціха мармычучы ў добрым настроі...

А потым да мяне — вядома ж, цераз плот — прыйшоў сусед. Худзенькі, абадраны Сашка, з рэдкімі, светлымі валасамі, з-за якіх яго і празвалі Лысым. У Сашкі нямоглы бацька і тоўстая сястра, гультайка Марта. Маці памерла — як на памяць шасцігадовага хлопчыка — вельмі даўно.

Сёння Лысы таксама ў добрым настроі. Можа таму, што ўвечары

«дзяды» — поліўка з пеўнем, капуста, яечня, аладкі... Дванаццаць страў! І ўсё трэба есці — ад «кануны», накрышанай булкі ў салодкай вадзе, да густой пансаковай кашы, якая ставіцца на стол дванаццатай. Хоць лыжку адну, а вазьмі. Спрадвечны звычай памінак, «дзядоў», на ядзе ўжо толькі і трымаецца. Хіба толькі бабка якая ў каго і памоліцца за душачкі ўмарлыя, а так — садзяцца людзі і сапуць над місамі — за ўсё недаяданне — у дванаццаць столак!.. Ну дык як тут і Сашку не цешыцца?..

Лысы выняў з кішэні падвойную костку пеўневай нагі, адцягнуў кавалак сырамяткі, прывязанай за гузік, пакланіўся і пытаецца:

— Можа вам што сыграць, пане Сцяпане?

— Ну, ну...

— Січас, пачакайце, настрою гармошку.

Сеўшы на камені каля плоту, ён зайграў. Шморгаў, як смыкам, косткай па сырамятцы і, пераймаючы не скрыпку, а гармонік, галёкаў:

— Тува, тува, тува-ва!.. Тува, тува, тува-ва!..

Так паўтаралася бясконца. І на кожным «тува-ва» бледны твар Лысага аж крывіўся ад смакаты, як ад болю, аж вочы плюшчыліся, аж закідалася назад і весела пагойдвалася галава!..

З вуліцы, цераз брамку, прыбеглі Сыты і Худы. Адразу ж далучыліся да музыкі. Худы, рухавы і спрытны малец, Сашкаў аднагодак, махнуўся па садзе, падняў канчар нейкай дошкі і камень, прысеў і пачаў барабаніць. А меншы, тоўсценькі карантыш Сыты, з нястачы хоць якога струманту, паўсаджваў адубелыя ручкі ў кішэні і, прысеўшы ад стараннасці, верашчаў з усёй сілы Лысаму ў тон. Тое самае «тува-ва» — то басам, аж гарлякі надзімаліся, то падрываючы ўгару, ды так высока, тоненька, нібыта хочучы, каб іх пачуў увесь свет!..

Я — ледзь не лажуся ад рогату. Маці Худога і Сытага, Каваліха, выйшла з вёдрамі па ваду, спынілася на вуліцы, слухае і смяецца. Тоўстая Марта таксама пачула музыку, выйшла на двор.

— Пайшоў дахаты, здыхоцце ты! Я скажу, нябось, бацьку!

А малыя — яшчэ мацней!

Крычала, крычала Марта, ды — глядзіце! — ужо і яна рагоча. Успёрлася локцямі на нізкі плот і аж заходзіцца, ажно тоўстыя плечы ды тарбаватыя грудзі трасуцца.

— Божа мой, божачка! — кажа ледзь не праз слёзы.— І калі ў цябе будзе які-небудзь розум!..

...Ціхі, марозлівы вечар. Яшчэ зара не пагасла зусім, а зоркі ўжо відаць — адна, другая, трэцяя... «Дзяды» яшчэ не давараны — агні гараць пакуль што толькі ў кухонных вокнах.

Стаю на вуліцы, каля брамкі, маўчу. Кавалішын Толя, старэйшы брат Худога і Сытага, выйшаў трохі пазней, не заўважыў мяне і таксама стаіць — цераз вуліцу, перад сваім гародчыкам.

Ды вось направа ад мяне, каля суседавых варот, адліпла, запішчала завесамі, стукнула брамка, і на сярэдзіну вуліцы выйшаў Лысы. Стаў і свішча, няўмела яшчэ, па-малечы.

— На, Цюлік, на! — падмацаваў ён крыкам свіст.— На цю, на!..

— Навошта ён табе? — спытаўся Толя.

Сашка падышоў да яго і прыцішана, па-дзелавому пачаў:

— Цюлік недзе прапаў. Ты толькі не кажы нікому, Анатоль, бо Марта будзе біцца. Яна сёння два пеўні зарэзала, нашага і Якубавых. Трэба Цюліку кішкі аддаць, каб было шыта-крыта! Дзяды, панімаеш?.. На, Цюлік, на!..



Успамінаю крык і таўстаморды смех над шэрымі штакетамі:
«Божа мой, божачка!..»
І сам смяюся ціха. Толькі з іншага.

Хлопчык гасцюе ў вёсцы, у дзядзькі-мастака. Бацька прыехаў адведаць малога. Вудзяць у рэчцы рыбу.

— Ну, як табе падабаецца дзядзька Іван? Што маўчыш? Добры ён, дзядзька, ці не?

— Дзядзька Іван бывае на літару **ф** спачатку і на літару **і** ў канцы.

— Як гэта?

Пасля вялікай паўзы:

— Фсякі — і добры, і не.

Рыба не бярэцца.

— Эх,— уздыхае малы.— Надаела. Як тады, калі мяне дзядзька Іван пасадзіць і рысуе.

А праз тры месяцы, ужо як першакласнік, малы прыходзіць дахаты і радасна паведамляе бацьку:

— Буду хадзіць у палац піянераў вучыцца рысаваць. Нарысую тады дзядзю Івана!

Смяецца — рад, што адпомсціць.

Наша турыстка, сентыментальная дамачка з сякой-такой французскай мовай сустрэла ў Парыжы школьніка:

— Ну, як ты вучышся — на выдатна?

— О не, мадам, ёсць і благія адзнакі.

— А чаму ж ты так? Трэба вучыцца толькі на выдатна!

— О, мадам, але ж у жыцці так многа цудоўнага!..

Расказвае вясковая суседачка, пяць з палавінай гадоў і хустачка завязана «пад бараду»:

— Мама паліла ў печы, каб трошачкі, дык загарэлася б у нашым коміне. І мы вельмі спалохаліся. А таты не было. Ён самагонку гнаў. Тады ён прыносіць яе ў мяшку і кажа: «Давай вып'ем па чарцы. Дзякуй богу, што так абышлося». І мама таксама піла. А я не ўзяла ні грама.

Сямігадовы хлопчык:

— Хто табе, дзядзька, куртку чарнілам абліў?

Расказваю, як наша цётка, госця з далёкай вёскі, таўханула незнарок этажэрку і адтуль на куртку звалілася чарнільніца.

— І цётка ваша тады адразу дахаты пайшла?

Няньцы чатыры гады, меншай сястрычцы два. Госці ў бабулі на хутары, яны ідуць па садзе. Большая па прывычцы дае «нашай малой» чарговае настаўленне:

— Днём свеціць сонца, а вечарам лямпа...

Праз дзірку ў плоце вылазяць з саду на пашу. Воддаль пасецца кабыла з жарабём. Туды не можна, а вельмі хочацца. І нянька гукае:

— Коська-а, ідзі сюды! І з рыжыбёнкам! Толькі не задаўляйце нас!..

Настаўніца:
— Ну, падумайце, дзеці, якія птушкі адлятаюць у вырай?
Другакласніца, падумаўшы, радасна:
— Верабей!..

Дзяўчаткі:
— Што табе з годаў найбольш падабаецца?
— Вясна.
— І мне вясна.

Пажылы артыст выступаў у школе.

Пакуль ён грымеў сваім падношаным ужо, рыпучым басам, сямі- і васьмікласніцы хіхікалі з яго грымасаў. Пасля цікавалі праз дзверы, як ён за кулісамі частаваў сваю акампаньятарку цукеркамі з партфеля — «нібы з конскай торбы»,— а потым пераабуваўся з туфляў у валёнкі. І шкарпэткі яго — былі абедзве без пят...

Бацька адной з дзяўчатак расказаў пра гэта на рабоце.

Таварыш яго аказаўся суседам артыста. Пасмяяўся з гэтага дома, толькі з жонкай, калі ўжо іхняя малая спала.

Назаўтра малая, што «спала», сустрэлася з басам на лесвічнай пляцоўцы:

— Дзядзя Бора, а чаму ў вас, калі вы спяваеце, усе шкарпэткі без пят?..

У дзіцячым доме выступалі паэт і празаік. Пасля выступлення адзін з астрыжаных пад машынку аматараў сур'ёзнай літаратуры звярнуўся да паэта:

— Дзядзя, вы таксама пішаце кнігі ці толькі вершыкі?
Збянтэжаны паэт:
— Ну, разумееш... з вершаў таксама складаюцца кнігі...
Вучань:
— Кнігі — гэта кнігі...

У піянерскай газеце надрукавана анкета КЦС — «Клуба цікавых сустрэч».

Праглядаю дзіцячыя пісьмы, адказы на анкетныя пытанні.

Пытанне:

«З кім са слаўных людзей нашай рэспублікі ты хацеў бы сустрэцца ў новым навучальным годзе на пасяджэннях нашага клуба? Чым цябе зацікавіў гэты герой?»

Адказ вясковага сямікласніка:

«З таварышам І. А. Грыбовічам. Ён не адказаў на два мае пісьмы».

Таварыш Грыбовіч — салідны, заакуляраны супрацоўнік рэдакцыі, адзін з арганізатараў таго КЦС.

•

Хлопчык з чацвёртага класа піша ў піянерскую газету пра непаладкі ў іхняй школе.

— Здольнасці ёсць, але ж залішне ён нейкі сур'ёзны, не па гадах,— кажа сваім супрацоўнікам цёця рэдактар, поўная, строгая дама. І яна вырашае заняцца гэтым талентам сама.

«Напішы нам, Васілёк, як вы святкавалі ёлку».



У адказ апісана ёлка ў вясковай школе, а потым — прыпіска:

«Наш дырэктар, Мікалай Пятровіч Чыжык, купіў на сабраныя вучнямі грошы цукерак і большую палавіну забраў сабе...»

Цёця рэдактар піша яшчэ больш педагагічны ліст:

«Напішы нам, Валодзя, пра вясну — як яна прыйшла ў ваш калгас, колькі радасці яна прынесла рабятам вашай школы. Паспрабуй апісаць гэта вершам».

Вершык прысланы доўгі, грунтоўны і... з празаічнай прыпіскай:

«А наш дырэктар усё ж такі злодзей».

Цётка-рэдактар пакуль што ў часовым адчаі.

У доме адпачынку. Шчаслівая мяшчанская пара корміць на людзях сына, здаравеннага дванаццацігадовага пестуна.

— Што ж ты, Вова,— гэта ж не дома. Можа, хоць каву будзеш піць?
Вова — басам:
— А яна натуральная?

Заплаканая дзяўчынка зусім ужо механічна зубрыць «Бородино»:

...Не смеют что ли командиры
Чужие изорвать мундиры
О русские штаны?..

Разрагаталася. І ўсё яе гора — мамін «крык» за гультайства — прайшло.

У хаце вечарынка. Хлопчыкам — па шэсць, па сем гадоў — дазволена любавацца з печы. Наглядзеліся, насмяяліся, і пацягнула на філасофію. Гавораць пра ікону «Нараджэнне Хрыста».

— А думаеш, было гэта?
— Было!
— Ты ведаеш!..— з пагардаю да меншага.
Той, раззадораны:
— Майго бацькі дзедаў дзядзька быў там і сам бачыў!..
Скончыўшы з гэтым, пераходзяць на іншую тэму.
Такога не падслухаеш. Гэта я ўспомніў пра сябе.

Гаспадыня крышыць капусту, а кватарантка, настаўніца-яўрэйка, сядзіць побач з малой дзяўчынкай на руках. Малая цягнецца да капусты.

— Раечка, не чапай!
— Ты ж ведаеш, мама, што малыя дзеці наогул любяць усё чапаць.

Хлопчык глядзіць на маладзік. Дадумаўся:
— Ён прабіў трохі неба і вылез!

Сюжэтны малюнак сямігадовага мастака: танк лупіць у чалавека з гарматы, чалавек падняў рукі. Подпіс: «Кашылёк!!.»

І так можна акрэсліць валютны курс:
— Тата, а з крайцара многа здачы?

Бабуля:
— Укленч за сталом ды еж!
Унучка:
— Калі ж бо мае кленчы баляць!..

Слесараў сынок, пяцігадовы, даволі-такі распусны хлапчук не любіць бабулю.
— Яна такая пагнутая, памятая...

— Што ты спяшаешся — яшчэ не вясна,— надзень зімовае паліто! Падумаеш — паненка, пяты клас!..
— Зімовае... Надзену і буду, як памідор на дзвюх запалках!..
Паліто шырокае, а ногі тонкія.

Мамы доўга няма. Хлопчык глядзіць у акно і спявае:

— Дожджык, дожджык, секані,
Бабаў з поля прагані!..

Расказвае сябрукам казку, якую самому яму ўчора дома прачыталі:
— А потым Кашчэй Бессмяротны дагнаў іх і павёз у сваё кашчэйства...

— Куды ты падзеў свой шарык?
— Я яго ўчора лопнуў.

Малая, што пяты месяц ходзіць у першы клас:
— Было ў мяне трохі двоек, але ўжо ўсе звяліся.

Напярэдадні быў дождж, хлопчык, чатыры гады, налазіўся па макрэчы, а цяпер чаравічкі не лезуць на нагу. Ён робіць вывад:
— Пахудзелі.

Ляжыць на канапе і крычыць раз-поразу «ўра!».
Маці, з другога пакоя:
— Што ты там робіш?
— Ура́каю!

Пра старэйшых сястрычак:
— Аню люблю да самага сонца, а Нінку толькі да правадоў.

Мама прыйшла!.. Хлопчык сядзіць побач з ёю на сваім бальнічным ложку, есць салодкую булку, махае ножкаю ў гіпсе і радасна расказвае:
— Сястра казала, што я такі худы, што няма дзе банькі ставіць — адны косці. А паставіла, дык палавіну банькі мяса нацягнула!..

У паляшуцкай хаце — з вышытымі ручнікамі на сцяне, з прыёмнікам на століку — шасцігадовая дзяўчынка любіць мачаху, як маму.
Мачаха — маладзіца і праўда вельмі прыемная, але ж... Малая



памятае сваю матулю ў труне і лічыць, колькі год ужо, што маладая мачаха — мама яе, якая вярнулася...
Як яно будзе далей?

Пасля купання ў маляўнічай Біры, за якою, пад самымі спякотна-зялёнымі сопкамі, здорава адгукаецца рэха, паехалі ў піянерскі лагер.
Акунуліся ў цудоўны свет усюды любых — куды там кветкі! — дзяцей. Выступалі перад імі, і зноў шкадаваў, што не пішу, што так мала пісаў для малых. Хадзілі лугам да возера, дзе мноства абдрыпаных хлопчыкаў і акуратных дзяўчатак наперабой даставалі нам з вады, на ўспамін, калючыя вадзяныя арэхі і ракушкі.
Мілая наіўнасць!.. Адзін хлопчык, пакуль мы выступалі, усё абмацваў мяне сваёй увагай, як чужаземца, пытаўся шэптам:
— Дядя, а цифры на ваших часах — белорусские?..
Потым абедалі ў лагернай сталоўцы, елі гарачы флоцкі боршч, рысавую кашу з качкай, пілі кампот. Гарачыня, вялізныя порцыі. Я прасіўся ў дзяжурнага, што не з'ем. І ён — пацеха наша, «любімец усяго лагера», маленькі, рабенькі яўрэйскі Фімка ў белым фартушку — паблажліва, на поўным сур'ёзе паляпваў мяне па плячы і гасцінна падбадзёрваў:
— Ешьте, ешьте, дядя, ничего!..
Здымаліся з дзецьмі. І Фімка, пры ўсёй сваёй сур'ёзнасці, не пярэчыў, калі я, пад агульны смех адабрэння, узяў яго («Я перешёл в четвёртый класс») — на рукі.
Бацька малога — загадчык нейкай базы. Чым пахнуць прафесіі?— можна спытацца следам за Радары. Фімкавы шансы ў маіх (і нашых, як высветлілася ў пазнейшай гутарцы) вачах значна панізіліся. Шкада стала, што ён не столяраў, не калгаснікаў сын, як быццам кожнаму загадчыку базы **ныне и присно** наканавана быць злодзеем.
Дзяцей тут найбольш яўрэйскіх, і гэта стварае, нарэшце, нейкі больш-менш выразны бірабіджанскі каларыт.

Благенькі васьмігадовы хлапчук паехаў з мамай на кірмаш. Упершыню ў жыцці. Там яму маці, бедная ўдава, купіла першыя чаравічкі. А тады яшчэ — «Хто ж цябе пашкадуе, заморка?» — узяла за дробязь чатыры цукеркі.
Усю дарогу з горада малы, седзячы ў перадку, усміхаўся, глядзеў на чорныя наскі сваіх бліскучых чаравікаў,— ужо, вядома, на нагах,— а ў жмені заціскаў чатыры цёплыя карамелькі. Старэйшаму брату, старэйшай сястры і суседскаму хлопцу. Толькі адну збіраўся, разам з усімі, з'есці сам... Так і давёз — за цэлых дзесяць кіламетраў!..
У шчасці людзі дабрэюць?
Ці — толькі дзеці?

Мароз і сонца. У клетках гараць вясёлай чырванню снегіры, таўкуцца шэрыя чачоткі, як сонечныя зайчыкі скачуць на пруцiках шчыглы. Шмат галубоў. Непаэтычна неяк, груба гавораць пра іх галубятнікі,— нібы гэта ў іх сапраўды толькі гандаль, а не паэзія.
Самае незвычайнае, што я ўбачыў там, на птушыным рынку, за ўсе гады:
Хлопчык доўга стаяў, любаваўся, прыцэньваўся, пасля купіў ча-

чотку — па грашах,— адышоўся трохі з натоўпу і выпусціў яе з рукі. Глядзеў услед. Нават пасля таго, як знікла...

«Хрэстаматыйна-сентыментальнае» — у жыцці бывае па-сапраўднаму прыгожым.

Успомніў свайго цыбатага, загарэлага хлопчыка і маленькае шэрае вякала-кацяня, з якім ён там дружыць, у вёсцы.

Яно занудліва нягоднае, лезе пад рукі, на стол, на падаконнік, колькі яго не скідай, і ўсё кавэнчыць, скрабе па душы.

А мой герой абураецца, калі яго крыўдзяць — скідаюць, кешкаюць, ганяць — бярэ на рукі, шкадуе, выносіць і здзіўлена глядзіць на ўсіх, асабліва, здаецца, на бацьку...

Не праваронь ты, бацька, чагосьці ў яго выхаванні, не разбурай таго, што сам узводзіш — чытаннем, гутаркай, прыкладам!..

У міжгароднім аўтобусе. За маёю спіной хлопчык гаворыць з бабуляй:

— А чаму ў цябе такі ногаць вялікі?.. Бабка, пагладзь маю ручку, пагладзь!..

Якая ж прорва, бездань паміж гэтай чыстай душой і нячыстай рукой яго бабы — нядаўна скінутай з пасады старшыні калгаса. «За злоўжыванне службовым становішчам...»

Сталі у мястэчку. Франтаваты рыжы сабака сядзіць на асфальце, на самай сярэдзіне шашы. А хлопчык непакоіцца, ледзь не да слёз:

— Цюцьку машына зарэжа!.. Бабка!..

Не адчуеш так поўна і непасрэдна. І шчэбет ягоны — амаль непаўторны, бо ён не паддаецца перадачы словамі дарослага.

Думаў пра абнаўленне душы самай высокай паэзіяй — паэзіяй маленства. Безліч граняў гэтай паэзіі, як безліч сонечных промняў і пырскаў расы ў гэтых промнях.

Адпяваюць старога Навума. У хаце, дзе ўжо спявалі — па радыё — і Робсан, і Казлоўскі, і Ларэці, гудзе старэнькі поп, а дзве пеўчыя цягнуць калісьці прыгожымі галасамі пра «житейское море» і «тихое пристанище».

І ўсё гэта гучыць як не з гэтага, не з нашага свету. А потым ціхая паўза, і з сяней, таксама забітых людзьмі, чуецца голас малога, з бацькавых рук:

— А дзе дзед Аюм?

І па людзях-суседзях, што ведаюць малога Коліка, які вельмі сябраваў з нябожчыкам, пайшоў ціхенькі, толькі ў думках, смяшок.

А то, можа, мне проста здалося?

Адзін брат, бяздзетны багацей, хваліўся другому, бедняку, як ён гуляе па сваіх пакоях з «залатымі калясцамі».

А бядняк той пазычыў міску мукі, зварыў сваім дзецям заціркі — эх, разгулялася тая малеча ад радасці!..

— Вось табе,— кажа ён,— залатыя калясцы!..

Васемнаццацігадовая, дробненькая дзяўчына, хатняя работніца:

— У каго я, цётачка, малых не няньчыла — усюды яны на мяне ўсе падобныя! Люблю я іх, хоць яны мне з самага малку рукі, цётачка, паўрывалі...



Цудоўны дзень,— з глыбокім снегам, што лёг учора, з марозікам, сонцам, з прыволлем, якім я толькі што любаваўся з гары, з цішынёй, што так добра лажыцца на душу,— цудоўны!..

Зайшоў на котлішча прыдарожнага хутара. Стаяў у зарасніку дзядоўніку. Як італьянскія пініі, разгалісты і высокі, у рост чалавека.

Думалася пра шчасце пазнавання свету, пра майго хлопчыка з яго бясконцымі, нястомнымі «чаму?»

Як ён глядзеў бы на шматфарбны цуд — шчыгла ці снегіра на гэтых шчодрых шышках!..

Добра, што і мне яшчэ хочацца так пазіраць — яго вачыма, з яго ўсмешкай. Не баючыся, што «брыдка» — калі б хто ўбачыў — «не салідна» мне лезці сюды цераз глыбокі, завалены снегам меліярацыйны роў.

У Находцы, аглядаючы порт, суднарамонтны завод і горад, я адчуваў яшчэ раз — да захаплення выразна, маштабна — магутнасць нашай краіны. Была пасля багатая прыгажосць нашых двухсот кіламетраў — паміж зелянінаю сопак, на арліных перавалах, у далінах, прастрэленых вячэрнім сонцам. Быў пасля шум у паўцемры — шумела Японскае мора. Была цішыня — у тайзе, калі мы спыняліся і ўражана глядзелі на бясконцыя поблііскі ў цемры казачных светлячкоў...

А я вось, прачнуўшыся ў нумары ўладзівастоцкай гасцініцы, успомніў,— як найлепшае з усяго перажытага ўчора,— смяшлівага, замурзанага, босага хлопчыка-карэйца, што ў вёсцы, дзе мы спыняліся, разам з рускімі сябрукамі гуляў у «хавачкі». І рагатаў сардэчна, і сарамліва маўчаў, і вельмі ж смешна было яму, ну, проста не стрываць, калі адказваў на мае пытанні...

Чаму — падумалася цяпер — за сімвал міру ўзяты голуб, а не дзіця? Замурзанае, рассмяянае дзіця!..

**1944—1964**





# Камарын

Ён прыме кожнага гасцінна,
Як дарагога земляка.
Такой зялёнае мясціны,
Напэўна, цяжка адшукаць.

Нідзе не ўбачыш пляж такі ты,
Як тут, ля даўніх пераправ,
Дзе прыбярэжныя ракіты
Абмыты хвалямі Дняпра.

Тут іншы раз не знойдзеш словы
Удзячнасць выказаць сваю,
Калі ўручае гай вясновы
Блакітны ранак салаўю,

Калі вясенні буйны шолах
Абдыме гулкія бары.
Жыві у радасці вясёлай,
Заўжды зялёны Камарын.





акога цудоўнага лета,
Напэўна, не знойдзеш нідзе.
Ад траў аксамітных і кветак
Чаруючы водар ідзе.



Раскідвае золата ліпень
З блакітнай сяўні навакол,
Частуюць духмяныя ліпы
Раз-пораз няўрымслівых пчол.

Куток незабыўны Радзімы!
Тут, быццам у першы прыход,
І думцы — прастор неабдымны,
І ў сэрцы — ружовы усход.



Аляксей ПЫСІН



# Вёска Вылаў*



Як войска, стаялі дубровы,
Дубы — грэнадзёрскі падбор.
А ў Вылаве — ўсё Церашковы,
У кожным двары ці праз двор.
Былое — як прывід міражны,
Былое ўрываецца ў сны.
Перасяленцы на маршы
Расійскай трывожнай вясны.
Багі ў пазалочанай фользе
З абозам сялянскім плывуць.
Адны Церашковы — на Волзе,
Другія — над рэчкаю Друць.
Каб ведаў, дзе лепшы лёс вылавіш,
Як рыбу з пунсовым пяром.
Вярнуцца не позна ў Вылаў —
Чакае на рэчцы паром.
Паклон пасылалі парому,
Нібы ў адчуванні таго,
Што Волга — бліжэй к касмадрому,
Паўвека ўсяго
Да яго.
Матулі люлялі дзяўчатак,
Матулі ўявіць не маглі,
Каторая стане той Чайкай,
Што будзе шукаць на зямлі
Не новай сядзібы, не хлеба,
А выйдзе на Млечны бальшак:
Якое навобмацак неба,
Які ў яго колер і смак?..
Вітаючы ж вас, Валянціна,
Мы ўсе разумелі адно:
У небе працуе дзяўчына,
І стане утульней яно;
Менш будзе маланак бясплодных
І айсбергаў — хмар ледзяных
На ўсіх небасхілах высотных,
У сэрцах і справах людскіх.
А ў Вылаве спелі парэчкі,
І нейкі малы Церашкоў
У цёплай суглiністай рэчцы
Рукамі лавіў шчупакоў.

---

* У вёсцы Вылаў Бялыніцкага раёна да перасялення на Яраслаўшчыну (1913 г.) жыў бацька лётчыцы-касманаўта Валянціны Церашковай.



# Знойдзены патрон



Даўно ўжо вылаўлены міны
Сапёрным гнуткім вудзільном.
Чакаў патрон сваёй часіны
То пад аўсом, то пад ільном.

Мяняліся пасевы, травы,
Дажджы і колеры вясны.
А ён — іржавы і каравы,
Не баявы, не запасны.

Відаць, дваццатае ўжо лета
Плыве ў баронах цёплых ён.
Ты апусці руку, кабета,
Пад свой даспелы, чысты лён.

...І вось запіска прад вачыма,
Аж скалыхнуліся ў жальбе
Збанкі ільну:
«Мая Радзіма,
Я паміраю за цябе...»

Тугіх збанкоў — званкоў мільёны
Ледзь зазвінелі у цішы:

Нібы хтосьновыя патроны
Перабіраў каля шашы.





Не прадавалі ў нас ніколі
Рамонкі з белых паплавоў
І не трымалі у няволі
Пяюх з Канарскіх астравоў.

Навошта кенары? Ў дуброве
На кожным дрэве — салавей:
Прыйдзі і слухай на здароўе,
Ад шчасця хоць асалавей.

І дзіўна мне, калі букеты
Хтось носіць на кірмашны рад,
З пялёсткаў круглыя манеты
Чаканіць — і бясконца рад.

Мы упляталі ружы ў аркі —
Насустрач сонцу і дажджу.
На кветкі, што ў руках гандляркі,
Як на нявольнікаў гляджу,—

І бачу між платоў закутак,
Дзе нават чмель не праляціць,
Дзе тужаць вочы незабудак:
Хто мог бы выкуп заплаціць?

# Помнік ваўку



Калі ваўкі затрубяць моцна,
Нібы архангелы, ўначы,—
Тады ад жаху ўстане мёртвы,
Тады жывому не ўцячы.
Нажамі сінімі дастануць,
І будуць сыты — неўпрадых.
Святыя банды ку-клукс-клана,
Відаць, вучыліся ад іх.
А днём ваўкі ўсёй скурай чуюць —



Ідзе пагоня па слядах.
І толькі ногі іх ратуюць
Ды цёмны лес — яловы дах.
Даўно суд чалавечы вынес
Ім
  канчатковы прыгавор.
Таму ваўкі начамі выюць
На маладзік і свечкі зор:
Бо з нараджэння — вінаватыя,
Бо з нараджэння — грэх цяжкі.
Прасуе стэпы авіяцыя,
У лясах — наперарэз — сцяжкі.
Прынады, пасткі ўсюды робяць,
Аблавы — лета ці зіма.
Я чуў, што дзесьці у Еўропе
Ужо ніводнага няма:
Апошні воўк у гордай позе
Ступіў на цвёрды п'едэстал,
Застыў у мармуры ці ў бронзе,
Ашчэрыўшы нямы аскал.
А зла нямала на вяку
Было і, мусіць, яшчэ будзе.
І, мусіць, не таму ваўку
Вы помнік збудавалі,
                    людзі.
На род людскі смерць
                    робіць стаўку,
Каб мець татальны свой барыш.
Вы
  бомбе атамнай пастаўце,
Архангелам вайны пастаўце
Манументальны,
            вечны
                крыж.





Нагосьці ў роднай вёсцы не знаходзіш,
Хоць прымірыўся з стратай не адной.
Ага, вось тут засыпаны калодзеж,
Што хваляваў трывожнай глыбінёй...

Ён слухаў споведзь самай ціхай жонкі,
Хаваў сузор'е днём на цёмным дне.
На белых зорах выраслі рамонкі,
Вясною кожны топча іх і мне.

Відаць, калодзеж хтосьці апаганіў,
І людзі адракліся наўсягды,
Засыпалі зямлёю без ваганняў,
Каб больш ніхто не піў з яго вады.

Нялёгкая работа земляная —
Праз сто пластоў далонь падаць вадзе.

Вас, землякі, я вельмі добра знаю,
Вы шчодрыя і цвёрдыя ў бядзе.

Нічога вы гатовага не бралі,
Усё здабывалі ўласным мазалём.
Але яшчэ ніколі не трымалі
Калодзежы пад вартавым замком.

# Баркалабаўскія салаўі


Цячэ рэчанька,
Цячэ быстрая,
Скочу-пераскочу.
Аддай мяне,
Мая мамачка,
За каго я хочу...»
Красуня белазубая
Йдзе да сваёй ракі.
Нялюбаму
ці любаму
У ёй мые ручнікі?
Ля чорнай кладкі плавала
Гусінае пяро.
Дзяўчынку з Баркалабава
Павезлі
за Дняпро.
Палонам ёй і згубаю
Той род чужы
і дом.
Лепш кукаваць зязюляю
У матулі пад акном.
«Борам ляцела —
Сучча ламала
Шызымі крыламі.
Полем ляцела —
Поле драбіла
Дробнымі слязамі...»
І, мусіць, старарэчышча —
Дарога
гэтых слёз.
Вядуць бабулі «Рэчаньку» —
Пра свой уласны лёс.
А ўнучкі
саманадзейныя
Іх песню не бяруць,
Салісткі самадзейныя
Пра Ангару
пяюць.



Свая рака — рахманая,
У ёй карасям лафа.
Ніякае рамантыкі —
Лаза ды крапіва.
Над крапівой пякотнаю,
З якой хоць пугі ві,
Рулады дапатопныя
Усё круцяць салаўі.
Пласцінка даўгавечная,
Адзін і той жа бок:
— Цыган, цыган вечарам
Сала пёк, пёк, пёк, пёк...
Не цыгана —
Вярбоўшчыка б
Дзяўчатам
з Ангары.
Пад зеленню вярбоваю
Ўздыхаюць да зары.
...Стань, рэчанька, раўніваю,
Не помсці ты, а ўсё ж
Паджгай, паджгай крапіваю,
Як выйдуць
басаnож.




Над ракой казахскаю Табол —
Разнамоўны рэстаран «Табол».

А няма сухога ў ім закону,
Можна піць віно
Усім
Законна;

Можна нават болей, чым дазволена,—
Паднясе з паклонам Ніна Злобіна.

На падносе тонка звоняць чарачкі,
Чары ў Ніны, быццам у шынкарачкі.
У яе пярэднік накрухмалены,
Шчокі, вусны густа нарумянены.

Сыплюць кампліменты і падзякі
Дэзерціры,
Летуны,
Бадзягі.

Ім не трэба грому і маланкі,
Хопіць берагоў звычайнай шклянкі,
Што адбіла ў сіняй глыбіні
Рэстарана белыя агні.

«Палюбі нас, Ніначка, бяздомных.
Прыплылі мы на сваіх пад'ёмных».
«Думалі
мы: цаліна —

Залаты Кландайк,
Дзе зусім не трэба — на,
Ведай толькі — дай».

Ды — здаецца палубай падлога,
Ды, здаецца, хваля б'е пад ногі.
Раўнавагі пругкай не стае,
Хтосьці ўжо сігналы падае.
Выплывае ўсё з няцвёрдых рук,
І — патрэбен ратавальны круг.

Не ўтрымае, хлопцы, круг вас пробкавы,
Больш надзейны плуг, што дадзен продкамі,
Ён у стэпе самы лепшы якар —
Зрушыць з месца можа толькі трактар.

Там няма бязважкасці, гайданкі...
Я ж — са змовай да сваёй бялянкі;
Па табе у стэпе я сумую,
Я цябе украду, не святую.

Стэп калоссі спелыя калыша,
А Табол — клінковую лазу.
Я цябе украду без калыма,
На Табол сапраўдны
павязу.

## Магілёўская таворка



Не пазнаю вас у маўчанні,
Сябры мае, магіляўчане.

Ды ўсюды з вамі ў звонкім ззянні
Ёсць слова дарагое — сянні.

— Куды, сусед, хадзіў ты сянні?
— Мядзведзя пасвіў на аўсянні.

Не раз былі з табой спатканні,
Як полаз выгнутае — сянні.

І часам нават генерала
Яно ў бяседзе выдавала.

Ці ж дзіва, што каля Тургаю
Сваіх зямлячак сустракаю.

Тут стэп напоўнен галасамі:
— Камбайны

Выязджаюць
Сянні.



Лідзія АРАБЕЙ

Мастак
Ілья НЕМАГАЙ

# Ларыса

Аповесць

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### У ДАРОГУ

1

Ларыса стаяла каля люстэрка і ўважліва сябе разглядала. Сёння яна здавалася сабе не такою, як заўсёды. Можа прычынаю была празрыстая блакітная хусцінка. Як накінула Ларыса хусцінку сабе на плечы — адразу нейкая іншая зрабілася, прыгожая і амаль дарослая.

У дзверы пастукалі. Ларыса адскочыла ад люстэрка. У пакой прасунуўся круглы ружовы твар, на якім была радасная, аж да вушэй, усмешка.

— Волечка! — кінулася Ларыса да сяброўкі.— Вось добра, што ты прыйшла. Я адна дома. Заходзь, заходзь жа.

— У мяне ніяк задачка па фізіцы не выходзіць,— паскардзілася Воля, хоць твар яе і ў гэту хвіліну не страціў радаснага выразу.— Я думала, разам будзем рашаць, але калі ты ўжо рашыла, то дай мне

Заканчэнне. Гл. № 5.

паглядзець... Якая ў цябе хусцінка прыгожая,— убачыла Воля Ларысіну хусцінку.

— Ой,— усхапілася Ларыса,— у мяне ж на кухні суп варыцца. Вазьмі сама сшытак па фізіцы ў партфелі,— крыкнула яна, выбягаючы з пакоя.

Калі Ларыса вярнулася, Воля канчала перапісваць задачку.

—А вашы ж дзе ўсе? — спыталася яна, прамакаючы чарніла ў сшытку.

— Мама з дзяўчынкаю ў кансультацыю пайшла. Сярожка са школы яшчэ не вярнуўся, а Лёня на вуліцы бегае,— адказала Ларыса.

— Добра вам,— уздыхнула, загортваючы сшытак і ўстаючы, Воля. У вас так многа дзяцей. А я так хацела б, каб у мяне быў брацік ці сястрычка. Я б яго так любіла.

— Ай, дзе там яно добра,— махнула рукою Ларыса.— Мне дык яны ўжо надакучылі. Адно падрастае — другое зусім малое...

Воля ўжо стаяла каля люстэрка і пераплятала касу. Яна паклала яе вянком сабе на галаву, павярнулася да Ларыскі, спытала:

— Хараша мне так?

Ларыска паглядзела на сяброўку.

— Хо-араша,— сказала яна, любуючыся Воляй.

Ларыса падышла да Волі, абняла за плечы. Цяпер дзве дзяўчынкі разам пазіралі ў люстэрка.

— Вось ты дык высокая, поўная, ружовая,— уздыхнуўшы, сказала Ларыска.— Зусім як дарослая. А я нейкая малая і белая. Я б хацела быць такой, як ты.

— Ты таксама прыгожая,— павярнулася да Ларысы Воля.— У цябе, ведаеш, прыгожыя вочы... І вусны нішто. Нос, праўда, крыху бульбінкай...

— Але малая вось я... Бачыш, па плячук табе.

— Мо ты яшчэ трохі падрасцеш... А помніш,— адхінулася ад люстэрка Воля, абняла Ларысу,— помніш, як мы з табою, калі малыя былі, па лузе разам бегалі?

— Помню, дзіва што,— адказала Ларыса.

— Вось добра, што мы ў адной школе вучымся, —гаварыла Воля.

— Гэта нам пашанцавала, што пасёлак на нашым лузе пабудавалі. А так, можа, і забыліся б адна аб адной, каб у розных школах вучыліся.

— Магчыма,— згадзілася Воля. Пасля крыху памаўчала, уздыхнула.— Вось ты кажаш, што мне зайздросціш, а я дык табе зайздрошчу вельмі... Ты так добра вучышся, табе ўсё так лёгка. А я — як дурніца якая,— засмяялася Воля, — больш як тройку ў фізічкі атрымаць не магу.

— Ну, не такая ты ўжо і дурніца,— супакоіла сяброўку Ларыса.— Па геаграфіі і па гісторыі ў цябе ж таксама пяцёркі.

Дзяўчынкі сядзелі, абняўшыся, на канапе. Ларыса — чарнявая, цемнавокая, з кароткаю касою і невялічкаю грыўкаю, якая прыкрывала высокі, крышку пукаты лоб. Ларысін твар быў адухоўлены, ясны і разам сур'ёзны. А побач з ёю Воля — сама шчырасць, дабрата і неўтаймаваная радасць жыцця. Здавалася, усё, што ні трапляе на вочы гэтай дзяўчыне, прыносіць ёй найвялікшую асалоду.

У Волі таксама была каса, але светлая, і валасы ў дзяўчынкі на скронях і над ілбом крышку кучаравіліся. На ружовых шчоках, калі яна ўсміхалася, а ўсмешка амаль не сыходзіла з твару дзяўчынкі, з'яўляліся сімпатычныя ямачкі. Воля выглядала намнога старэйшая за сяброўку і гэта прымушала Ларысу пакутаваць. Каму не



хочацца барджэй вылузацца з дзяцінства, набыць выгляд дарослага, сталага чалавека.

— Яшчэ два гады, і школа ўсё, скончана,— задуменна гаварыла Воля.— А далей — інстытут. Я паеду ў гідраграфічны, што ў Ленінградзе. Там мой стрыечны брат вучыцца. Ён піша, што там так цікава... І я паеду, я гэта цвёрда вырашыла. А ты куды? Яшчэ не прыдумала?

Ларыса нічога не адказала. Яна ўстала з канапы, прайшлася па пакоі.

У гэты час стукнулі дзверы ў калідоры, і ў пакой увайшла маці з дзіцем на руках. Твар у яе быў бледны. Коска, у якую яна нядаўна пачала заплятаць свае валасы, раскідалася.

— Ох, і стаміліся ж мы,— уздыхнула яна, кладучы дзіця на канапу. На хаду распранаючыся, яна пайшла ў другі пакой. Ларыса пачала раскручваць малую.

— Якая яна тоўсценькая, смешная,— цешылася Воля.

Ларыса прынесла кашульку, пялёнкі, пачала пераапранаць дзяўчынку. Тая весела пазірала перад сабою сінімі вочкамі, усміхалася, паказваючы два маленькія вастранькія зубікі.

На хаду прычэсваючы валасы, са спальні выйшла маці.

— На цэлы кілаграм прыбыла,— паказала яна на малую.— А есці ты зварыла? — заклапочана глянула яна на Ларыску.

— Ага, суп гатовы, мусіць,— падалася тая на кухню.

Воля пачала збірацца дахаты.

— Прыходзь сёння вечарам да нас,— шапнула яна Ларысе ў калідоры — Я пласцінкі новыя купіла. Такая музыка харошая.

— Не ведаю,— паціснула плячыма Ларыска.— Калі час будзе, прыйду.

— Прыходзь, прыходзь абавязкова,— яшчэ раз шапнула Воля.

Калі Ларыса вярнулася ў пакой, маленькая Жэнечка ляжала ў калысцы з соскаю ў роце і праз сон пасмоктвала яе, а маці сядзела за сталом. У руках яна трымала невялікі зялёны кашалёк, а каля яго на абрусе ляжала дробязь.

— Вось,— павярнулася яна да Ларыскі.— Усё, што засталося да палучкі.

Ларыса нічога не адказала, яна ўзяла з этажэркі кнігу, села на канапу.

— Зноў пазычаць трэба будзе... Можа ты, Ларыска, сходзіш да Волі і папросіш у цёці Зосі. Скажаш, у палучку аддамо. Бацька ж казаў, што гэта палучка ў яго добрая будзе, тады і даўгі ўсе аддамо.

Ларыса апусціла кніжку. У вачах у яе загарэліся нядобрыя агеньчыкі.

— Дзіва што прынясе,— рэзка сказала яна.

— Ён жа абяцаў...

— Дзіўлюся табе, мама,— паціснула плячыма Ларыска.— Ну, як ты яму ўсё верыш? Усё жыццё ён табе кажа, што прынясе добрую палучку, і заўсёды прапівае, а ты ўсё верыш. Усё жыццё ён табе абяцае, што кіне піць, і не кідае. А ты ўсё верыш.

— А можа гэты раз і прынясе...

— Слухаць моташна,— падняла да вачэй Ларыса кнігу.

— Ну, добра, але ты схадзі, папрасі ў цёці Зосі рублёў дваццаць.

— Не пайду,— буркнула Ларыса.— Сорамна вечна пазычаць у людзей.

— Сорамна, сорамна, а што ж рабіць?

Нос у маці пачырванеў, на вачах заблішчалі слёзы.

— Не хапала яшчэ! — зноў рэзка кінула Ларыса.— Вечна яна плача!

— Як ты з маткаю гаворыш! — крыкнула маці і ўсхліпнула.— Грубіянка!

— Я не грубіянка! — успыхнула Ларыса.— Але цярпець не магу, калі ты вечна плачаш.

— Што ж мне рабіць, калі я такая дурная,— змахваючы з твару слёзы, з крыўдаю сказала маці.— Вы ўсе такія разумныя, адна я дурная...

— Ніхто табе так не казаў,— агрызнулася Ларыса.

Маці пайшла ў спальню, на хаду выціраючы вочы.

Сапраўды, у апошні час яна вельмі часта плакала. За кожнае не так сказанае слова яна крыўдзілася. Нават варта было Сярожку або Лёньку не паслухацца, як яна пачынала плакаць. Ларысу вельмі раздражняла гэта, але разам з тым яна адчувала і востры жаль да маці. І ўсё ж не магла стрымацца ад рэзкасці, калі бачыла, што ў мацеры на вочы набягаюць слёзы.

У пакой, расхрыстаны, з ададранаю шлейкаю ад кароткіх штонікаў, усунуўся Лёня. У руках ён трымаў жалязяку.

— Есці хачу,— яшчэ з парога заявіў ён.

Маці выйшла са спальні. Вочы ў яе былі чырвоныя, але ўжо сухія.

— А мурзаты, божа мой,— успляснула яна рукамі. — А што гэта за жалезіну ты прыцягнуў?

— Гэта я самакат рабіць буду,— гледзячы на маці шырока расплюшчанымі, блакітнымі, як у бацькі, вачыма, адказаў Лёня.— Такі, як у Ігара. Мне Сярожка паможа зрабіць. Толькі ты раней мне есці дай.

— Хадзем памыю хоць, мурза ты,— усміхнулася маці сыну.

Праз некалькі хвілін Лёня, вымыты, з прычэсанаю светлаю грыўкаю, сядзеў за сталом і што сілы дзьмуў у лыжку, поўную гарачага супу.

Маці наліла сабе і Ларысе.

— Кідай кніжку, ідзі есці,— паклікала яна дачку.

Ларыса яшчэ з хвіліну чытала, пасля паклала кніжку, пайшла да стала.

— Я сёння вечарам пайду да Волі папрашу ў цёці Зосі грошай,— сказала яна, нахіляючыся над талеркай.

Маці ўздыхнула.

— Папрасі, дачушка...— Нос у маці зноў пачырванеў. Ларыска заўважыла гэта, але нічога не сказала, хоць ёй і зноў зрабілася прыкра.

## 2

У Волі вечарамі часта збіралася моладзь. Калі прыйшла Ларыса, там ужо была Надзя Біцяй, вучаніца іх класа. Каля патэфона завіхаўся Ваня Заянчкоўскі. Прыйшоў Ігар Навatoраў — вучань дзевятага класа. Ігар нядаўна пастрыгся пад нулёўку, састрыг свой прыгожы залацісты чуб. Ён збіраўся ісці ў вайсковае вучылішча, а там, як пераконвалі яго сябры, усіх навічкоў «пад нуль» стрыглі. Вось ён і рыхтаваў сябе, паказваў сваю гатоўнасць ісці на любыя ахвяры, абы трапіць у вайсковае вучылішча.



Ларыса стаяла каля кніжнай шафы і разглядала Воліны кнігі. Яна вельмі зайздросціла Волі, што ў яе такая вялікая ўласная бібліятэка. Ларысе маці ніколі не купляла кніг. «У бібліятэцы ж узяць можна»,— казала яна. Ларыса і сама ведала, што купляць кнігі — непасільны выдатак для іх сям'і, а таму і не прасіла ніколі.

Ларыса вымала з шафы кнігі, гартала іх, а сама прыслухоўвалася. Яна ні за што і нікому не прызналася б, што чакае, калі прыйдзе Валодзя. А разам з тым, кожны раз, калі недзе стукалі дзверы, сэрца яе трошкі сціскалася, і яна папраўляла на плячах хусцінку. «А можа сёння ён і не прыйдзе,— думала Ларыса.— Можа рыхтуецца да экзаменаў? Ён жа не ў восьмым класе, як мы, а ў дзевятым, у яго і экзамены страшнейшыя...»

Але Валодзя прыйшоў, і Ларыса адразу адчула, што ён тут, хоць яшчэ не бачыла яго, не чула яго голасу. Яна яшчэ ніжэй нахілілася над кніжкаю, нібы гэта для яе цяпер было самае цікавае.

Хоць і не азіралася Ларыса, але адчула, што Валодзя стаіць ужо каля яе, проста ў яе за спіною.

— Добры вечар,— пачула яна яго голас.

— Добры вечар,— на міг апусціла Ларыса кніжку, але пасля зноў узняла яе да вачэй. Не, Ларыса ні ў якім разе не хацела, каб нехта заўважыў, што яна хвалюецца. Яна наўмысля абыякава павіталася з Валодзем.

Ваня завёў новую пласцінку. Ігар з Воляю пайшлі танцаваць.

— Ларыса, кінь, нарэшце, кніжку,— гукнула Воля, пазіраючы на яе цераз плячо Ігара.— Валодзя, адбяры ў яе.

— Давай патанцуем,— запрасіў Валодзя.

— Што ж, давай.

Яны пайшлі танцаваць. Ларыса даставала Валодзю толькі да пляча. Яна не бачыла яго твару, пазірала на значкі, якія былі на Валодзевай куртцы. Значок ПВХО на невялічкім тоненькім ланцужку і значок ГТО першай ступені.

Прыйшлі яшчэ хлопцы і дзяўчаты з іх школы — Коля Муравей, Вера Сіліцкая, Ваня Гудзімаў. У прасторным вялікім пакоі было ўжо нават цеснавата.

— Вось каб убачыла фізічка, як мы вытанцоўваем, усім бы нам па двойцы паставіла,— жартаваў Ігар.

— Ой, не палохай,— зрабіла круглыя вочы Воля.— Пры адным слове «фізіка» ў мяне сэрца спыняецца.

— Нічога, дзевачкі,— супакоіла ўсіх Надзя Біцяй.— Сёння яшчэ патанцуем. А вось пасля свята ўжо засядзем за кніжкі. Экзамены на носе.

Ларыса танцавала з усімі — з Ігарам, з Воляю, з Колем. Але кожную хвіліну яна адчувала, дзе Валодзя і што ён робіць. Ёй здавалася, што і Валодзя ўвесь час глядзіць на яе. Некалькі разоў іхнія позіркі сустракаліся, і тады Ларысіна сэрца замірала ад нязнанай дагэтуль радасці.

— Ты сёння нейкая асаблівая,— абняла яе Воля.

Ларыса шчаслівая засмяялася.

Неяк вельмі скора праляцеў гэты вечар. Трэба было збірацца дахаты. Ларыса ўспомніла, што абяцала мацеры папрасіць у цёткі Зосі грошай, і радасць яе адразу патухла.

Калі ўсе пачалі развітвацца, яна зайшла ў кухню, дзе яшчэ гаспадарыла Воліна маці. Гаспадыня мясіла цеста. Рукі ў яе былі ў муцэ, цёмны фартух таксама быў запэцканы мукою.

— А, Ларыса,— прыветліва ўсміхнулася яна дзяўчынцы.— Ну, раскажы, як маешся.

— Ды нічога, цёця Зося, дзякуй,— адказала Ларыса, камечачы ў руках рог хусцінкі.

— Як дома, як мама, дзеці ўсе здаровы? — пыталася цётка Зося.

— Дома ўсё ў парадку... Цёця Зося,— пачала і замкнулася Ларыса.— Мама прасіла...— І зноў Ларыса змоўкла. Прыветлівая ўсмешка знікла з твару гаспадыні. Яна, відаць, здагадалася, чаго хацела Ларыса. А дзяўчынка, убачыўшы, як адразу зацвярдзеў твар жанчыны, ужо вельмі шкадавала, што паслухалася маці і абяцала ёй папрасіць грошай. Але адступаць было няёмка.— Ці не пазычылі б вы дваццаць рублёў,— скарагаворкай кончыла Ларыса.— Да палучкі...

Было відаць, што Воліна маці вагаецца, не ведае, што сказаць, ці адмовіць ці ўсё-такі пазычыць.

— Бачыш, у нас саміх цяпер не вельмі... вунь, туфлі Волі новыя купілі, сукенку справілі...— Але добра,— нарэшце выпрасталася яна і пачала нажом здымаць цеста з пальцаў.— Пазычу.

Хаваючы ў кішэню грошы, Ларыска думала, што ніколі ў жыцці не будзе больш прасіць, каб ёй пазычылі. Няхай сварыцца, плача мама, а яна не будзе, і ўсё.

З адчуваннем, нібы зрабіла нешта нядобрае, выйшла Ларыса на ганак. Яе абдаў свежы вясновы вецер.

Быў канец красавіка, калі зямля, напоеная шчодрымі вясновымі водамі, сагрэтая сонечным цяплом, гатова ўспыхнуць зялянінаю, зацвісці духмянай квеценню.

Быў пярэдадзень Першамая, калі радасць вясны адчуваецца з асаблівай сілай, калі асабліва ярка блішчаць зоры, калі сэрцы поўняцца толькі добрымі надзеямі і жаданнямі. І таму Ларысе адразу зноў стала лёгка. У небе вісеў празрысты, нібы абведзены цыркулем, круг месяца. Ад вялікага куста бэзу, што рос пад акном Волінага дома, на ганак клаўся ўзорысты цень. Цень варушыўся — гэтаківаліся на ветры галінкі, з гатовымі распусціцца ліпкімі пупышкамі.

Ларыса пачула, што нехта паклікаў яе. Яна азірнулася. З-за куста бэзу выйшаў Валодзя.

— Я чакаў цябе,— падышоў ён да дзяўчынкі.— Позна ўжо. Хацеў цябе правесці...

Валодзя не бачыў, як агнём успыхнуў Ларысін твар. Яшчэ ніколі ў жыцці ніякі хлопец не чакаў яе, не праводзіў.

Моўчкі пайшлі яны па вуліцы. Абодва не ведалі, што гаварыць, і абодвум было нялоўка.

— Які ў вас першы экзамен? — спытаўся нарэшце Валодзя.

— У нас? — Ларыса ішла, трымаючы хусцінку за ражкі і то завязваючы іх у вузялок, то развязваючы.— У нас першы — рускае сачыненне.

— Калі я быў у восьмым класе, дык пісаў сачыненне на тэму «Мой любімы герой». І пісаў пра Валерыя Чкалава.

Ларысіна сэрца пачынала біцца раўней. Гаворка пра школу, пра экзамены была такою звычайнаю, блізкаю.

— Дык жа Чкалаў — гэта не літаратурны герой, а з жыцця,— пацiснула плячыма Ларыска.

— Ён і з жыцця і з літаратуры. Я тады, памятаю, акурат кніжку пра Чкалава прачытаў... І наогул Чкалаў — гэта сапраўдны герой. Я вось закончу дзесяцігодку і абавязкова ў лётную школу пайду.



— А калі ў нас такая тэма будзе — «Мой любімы герой», то я напішу або пра Паўла Карчагіна або пра рускіх жанчын з паэмы Някрасава.

— Гм,— невыразна хмыкнуў Валодзя.— Пра Паўла Карчагіна — я разумею, а вось наконт гэтых княгінь... Не ведаю, ці добрая гэта тэма.

— Ты так думаеш? — спыталася Ларыса.

Яны зноў некалькі мінут ішлі моўчкі.

— Не,— пачала Ларыса, нібы ў думках яна спрачалася з некім, а цяпер прыйшла да поўнага пераканання.— Гэта таксама вельмі цікава. Мне хацелася б напісаць сачыненне пра гэтых жанчын... Ты разумееш... Яны ж маглі жыць у раскошы і без усялякіх клопатаў, а вось пайшлі следам за сваімі мужамі на катаргу. Падзялілі з імі іх цяжкі лёс. Яны хацелі аблегчыць долю сваіх блізкіх... А колькі здзеку і гора прыйшлося ім перажыць... Не, яны сапраўдныя гераіні.

— Ну, я не кажу, што яны не гераіні, але так...— пачаў здавацца Валодзя.

— А я дык вельмі люблю гэтую паэму.

Ларыса з Валодзем павярнулі ў другую вуліцу і, не спяшаючыся, ішлі па тратуары. Ларыса зняла хусцінку з галавы і накінула яе сабе на плечы.

— Табе холадна? — спытаўся Валодзя, убачыўшы, што Ларыса перасмыкнула плячыма.

— Не, што ты, мне цёпла,— адказала Ларыса, хоць ёй сапраўды было халаднавата.

Валодзя хуценька зняў свой пінжак і накінуў Ларысе на плечы.

— Не трэба, не трэба,— памкнулася скінуць пінжак Ларыса, але Валодзя трымаў яе за плечы, і Ларыса, якой зрабілася вельмі нялоўка ад гэтага дотыку, згадзілася ўзяць пінжак, абы Валодзя скарэй апусціў рукі.

Збянтэжаныя, яны зноў моўчкі пайшлі побач. Ларыса адчувала цеплыню Валодзевага пінжака, і разам сорамна і радасна было ёй. Яна ішла з хлопцам, як дарослая. Валодзя ўкрыў яе плечы... Аб гэтым Ларыса толькі ў кніжках чытала ды часам бачыла, як гулялі так з хлопцамі вялікія, дарослыя дзяўчаты. Каб зараз сустрэў яе нехта знаёмы, Ларыса згарэла б ад сораму.

— Давай будзем з табою дружыць, Ларыса,— сказаў Валодзя і нейкім, аднаму яму ўласцівым рухам, паправіў валасы.

Ларыса збоку глянула на Валодзю.

— Вось,— сказала яна.— Мне пінжак аддаў, а сам у адной майцы застаўся. Табе ж цяпер холадна.— Ларыса сказала гэта самой ёй незнаёмым, мяккім голасам.

— Што ты, я ж спартсмен,— крыху выпучыў грудзі Валодзя.— Мне ніколі не бывае холадна.— Пасля, памаўчаўшы крышку, перапытаў: — Дык ты згодна?

— Давай,— прашаптала Ларыса.

Яны падышлі ўжо да Ларысінага дома. Перад вокнамі тут быў разбіты невялікі палісаднік, хутчэй клумба, абкладзеная рубам пастаўленымі цаглінамі. Паміж клумбаю і сцяною дома стаяла драўляная лавачка.

— Пасядзім крыху? — сказаў Валодзя.

Ларысе і хацелася пабыць з Валодзем яшчэ і было боязна, што час вяртацца дадому. Але Ларыса згадзілася, і яны селі.

Каля дома было пуста і ціха, толькі з аднаго акна чуўся голас рэпрадуктара. Раптам у канцы тратуара, які вёў да Ларысінага дома, паказалася чалавечая постаць. Чалавек ішоў павольна, праз кожныя некалькі крокаў спыняючыся. У адзін міг Ларыса пазнала айчыма. Так, гэта ён позна вяртаўся дахаты і, вядома, п'яны. Ларысе было хоць скрозь зямлю праваліцца. Зараз Валодзя ўбачыць яго... Каб гэта быў нават зусім чужы чалавек, і то Ларысе сорамна было б сядзець з Валодзем і глядзець на яго. А тут яе айчым, яе бацька...

А той набліжаўся. Ён ішоў, пятляючы з аднаго боку тратуара на другі. Нібы ногі ў яго былі спутаныя, і ён ніяк не мог вызваліцца ад вяроўкі, якая звязвала іх.

Ларыса ўся сціснулася ў камяк, прытулілася да сцяны. «Хай бы Валодзя не бачыў яго, хай бы не бачыў»,— думала яна.

Валодзя заўважыў, што Ларыса з жахам пазірае на п'янага чалавека.

— Спужалася? — шэптам спытаўся ён.— Не бойся, хай толькі паспрабуе нам што дрэннае зрабіць...

Ларыса з палёгкаю ўздыхнула. «Ды ён жа не ведае, што гэта мой айчым»,— з радасцю падумала яна. Але ліхаманка, якая адразу пачала калаціць яе, не праходзіла.

Айчым прасунуўся каля іх, не заўважыўшы Ларысы, і знік у пад'ездзе. Ларыса чула, як грукалі ў калідоры яго боты, як стукнулі дзверы.

— Дык ён у вашым доме жыве? — спытаўся Валодзя.

Ларыса нічога не адказала, нібы не чула Валодзевага запытання.

— Ну, я пайду дахаты,— сказала яна, калі зноў усё зрабілася ціха.

— Што ж,— сказаў Валодзя, устаючы.— Сапраўды позна ўжо.

Яны развіталіся за руку, і Валодзя пайшоў. Ларысе ж цяпер ніяк не хацелася ісці дадому. Яна ўяўляла, што цяпер рабілася ў хаце, і проста не хацела, не магла ісці. Яна зайшла ў пад'езд і прытулілася спіною да сцяны. «Перачакаю,— думала яна,— пакуль там сцішыцца, пакуль улягуцца».

Але стаяць у пад'ездзе адной было нялоўка. Маглі выйсці суседзі, мог хто-небудзь вяртацца дахаты. Сапраўды, на другім паверсе зарыпелі дзверы. Ларыса ціхенька выслізнула з пад'езда. Куды ісці? Прыйшла была думка вярнуцца да Волі і не начаваць сёння дома. Але маці будзе непакоіцца, не будзе ведаць, дзе яна дзелася.

Пахадзіўшы крыху каля дома, Ларыса, падышла да акна, зірнула ўсярэдзіну. Палову акна закрываў вазон — Ларысін агеньчык зрабіўся вялікім разгалістым кустом. Цяпер ён рос у драўляным цабэрачку і цвіў мноствам яркіх малінавых кветак.

Скрозь лісты вазона Ларыса ўбачыла маці, якая стаяла пасярод пакоя і рогам хусткі выцірала вочы.

— Зноў плача,— з раздражненнем падумала Ларыса.— Дала б яму добра,— сціснула яна кулакі.

Ларыса адышла ад акна і пачала хадзіць па тратуары. Апусціла руку ў кішэню, намацала грошы, якія ўзяла ў цёткі Зосі.

«А яна яшчэ кажа — палучку добрую прынясе...— падумала Ларыса пра маці.— Прынясе ён табе... Але што ж далей будзе?.. Жыць як?.. Няўжо вечна пазычаць грошы?.. Які сорам... У арцелі мама мала зарабляе. Часу ёй няма многа шыць. Жэнька малая...» — снавалі думкі ў Ларысінай галаве, пакуль сама яна снавала каля дома.



Ларысе было холадна. Тонкая хусцінка амаль зусім не грэла. Але ісці дадому не хацелася.

«Ох, каб я магла дапамагчы,— думала Ларыса.— Але пакуль яшчэ тую школу скончу...»

І раптам думка, як маланка, мільганула ў яе. Думка была такой нечаканай, што Ларысе ад яе ажно горача зрабілася. «А навошта канчаць школу,— падумала яна.— Гэтым летам мне будзе шаснаццаць год... Атрымаю пашпарт... Кончу восем класаў і — працаваць...»

У Ларысы закружылася галава. Яна зноў пачала хутка хадзіць па тратуары.

«Пайду працаваць на завод,— думала Ларыса.— Буду зарабляць грошы, і маме адразу зробіцца лягчэй...»

Усё гэта раптам здалося такім простым і так радасна зрабілася Ларысе, што яна ледзь не загаварыла ўголас.

«І праўда, як гэта я раней не дадумалася... Вось пройдзе свята, пасля здам экзамены... А потым... Усё будзе добра, мама. Помніш, некалі ты казала, што я табе добрая памочніца, што на адну мяне ў цябе надзея. Так што дазволь мне самой прымаць рашэнні. А я цяпер ведаю, што мне трэба рабіць».



## 3

Першамайская раніца. Увесь горад у яркай чырвані сцягоў. Дамы блішчаць чыста вымытымі шыбамі. Агарожы свежа пабеленыя, пафарбаваныя. Каля іх зялёная траўка, як вожык, стаўбурчыць свае востранькія іголкі. На дрэвах набухлі — вось-вось раскрыюцца — тугія клейкія пупышкі. А над усім — яркае, нібы таксама вымытае, начышчанае на свята, сонца. Чуецца музыка — гэта ўжо збіраюцца дэманстранты. Скора, калонамі, са сцягамі і плакатамі людзі пойдуць да цэнтра горада. І Ларыса спяшаецца, бяжыць у школу. Ёй здаецца, што яна ўжо спазнілася, хоць ведае, што выйшла ў час, што яшчэ рана.

Каля школы — шумны натоўп. Дзяўчынкі ў белых, старанна адпрасаваных блузках, з яркімі чырвонымі гальштукамі, у сініх або чорных спаднічках. Хлопчыкі таксама ў белых кашулях, таксама з чырвонымі гальштукамі, непрывычна акуратныя, падцягнутыя. Ува ўсіх у руках галінкі, на якіх распусціліся свежа-зялёныя лісткі. Так

дамовіліся прыйсці на дэманстрацыю, каб калона выглядала прыгожай.

І на Ларысе белая блузка і сіняя спаднічка ў складачку. Мама спецыяльна пашыла ёй на свята новую. Учора да дванаццаці гадзін ночы сядзела за машынкаю. Канчала шыць.

— Воля! — крыкнула Ларыса, убачыўшы сяброўку.

— Ларыса! — адгукнулася тая. Вясёлая заўсёды, сёння яна, здаецца, аж свяцілася ад радасці.— Ідзі сюды. Тут ужо ўсе нашы! Мы ў адной шарэнзе пойдзем,— гаварыла яна, махаючы Ларысе зялёнаю галінкаю.

— Надзя! Са святам! Пеця, Ігар, са святам! — віншуе Ларыса сяброў.— Ой, глядзіце, у Ігара на галінцы кветка распусцілася!

Усе абступілі Ігара, кранаюць рукою пунцовую папяровую ружу, якую ён прывязаў да сваёй зялёнай галінкі.

— Ой, шкода, мы не надумаліся,— перажывае Надзя.

— А вунь у Валодзі, глядзіце, шары! Ды якія вялікія,— убачыла Воля Валодзю, які прабіраўся да іх.

— Валодзечка, дзе ты ўзяў! Валодзечка, дай шарык,— кінуліся да яго дзяўчаты.

Толькі Ларыса стаіць убаку, пазірае на Валодзю. Які ён сёння прыгожы. Як да твару яму белая кашуля. Ён трымае на доўгіх нітках шары, шары — вялікія, рознакаляровыя — сіні, жоўты, чырвоны... Але Ларыса не папросіць шар... Не папросіць...

— Са святам, дзяўчаткі,— віншуе іх Валодзя.— Ды ціха, не хапайце шары. Я вам і нёс іх. На,— падае ён Волі вялікі сіні шар.— На! — падносіць ён шар і Надзі.

Ларыса глядзіць, як раздае Валодзя шары дзяўчатам. Яна верыць, яна ўпэўнена, што зараз Валодзя і ёй дасць шар. Недзе патаемнаю птушкаю нясмела б'ецца думка — Валодзя сюды, да іх, падышоў таму, што яна тут...

— А вось гэта табе,— падае Валодзя Ларысе чырвоны... самы прыгожы, самы вялікі...

— Валодзя, ты — рыцар,— крычыць Воля.— Кожная з нас вечарам падаруе табе па вальсу!

— Лаўлю на слове! Каб пасля не адмаўляліся,— усміхаецца Валодзя і знікае ў шумным натоўпе.

Ларыса, шчаслівая, не адпускаючы доўгай ніткі, падкідае шар угору. Ён лёгкі, ён рвецца ў неба, і Ларыса, здаецца, каб магла, разам з ім паляцела б да воблакаў.

Гарніст зайграў збор.

— Строіцца, строіцца,— далятае каманда.

Хвіліна сумятні, беганіны, і вось ужо школа пастроілася ў калону. Белыя блузкі і цёмныя спаднічкі, чырвоныя гальштукі, зялёныя галінкі. Наперадзе чырвоныя сцягі. Наперадзе школьны аркестр. І барабан адбівае дроб. І як лёгка, хораша ісці, кал поруч, каля цябе, сябры, калі іграе музыка, а ў руцэ чырвоны шар. Нібы само сонца, трымае ў руках Ларыса.

— Левай, левай,— чуецца каманда. Іх фізкультурнік Алег Барысавіч — тоўсты, нізенькі — прабег уздоўж калоны. Глядзіць, ці хораша, ці добра ідуць вучні. Алег Барысавіч усміхаецца. Значыць, задаволены імі.

З іншых вуліц і завулкаў, як веснавыя раўчукі, плывуць і плывуць калоны дэманстрантаў. Чым бліжэй да цэнтра горада, тым шырэйшым робіцца паток. Нібы рака, якая ўбірае і ўбірае ў сябе новыя воды.



Цяпер іх школа ідзе з перапынкамі, Крыху пройдуць і стануць. Яшчэ пройдуць і зноў стануць. Бо многа, вельмі многа людзей.

— Глядзі, глядзі,— паказвае Воля Ларысе.— Вунь завод ідзе. Станкабудаўнічы. Станок вязуць.

Ларыса глядзіць на машыну, прыбраную дзеразою і плакатамі. Машына павольна едзе наперадзе калоны рабочых. У адкрытым кузаве — станок, а каля яго жанчына ў камбінезоне, у чырвонай касынцы, завязанай накругла.

«Мусіць, стаханаўка,— думае Ларыса.— Кепскую работніцу не паставілі б наперадзе калоны».

За машынай ідуць рабочыя. На грудзях ва ўсіх банты з чырвонай матэрыі. Рабочыя нясуць лозунгі, сцягі. Зусім малады рабочы, амаль юнак, нясе плакат — чырвонаармеец абдымае селяніна, свайго брата з Заходняй Беларусі.

Сонца ўзнімаецца над горадам усё вышэй. Цёплае, ласкавае першамайскае сонца. Гучаць урачыстыя маршы. З рэпрадуктара чуецца голас дыктара, які расказвае аб тых, што праходзяць перад святочнай трыбунай.

А калоны ідуць і ідуць. Студэнты... Вучоныя... Артысты. Зноў рабочыя...

— Тата! Татачка! — закрычала раптам Воля.— Паглядзі, вунь мой тата,— схапіла яна Ларысу за руку.

Ларыса паглядзела туды, куды паказвала Воля, і ўбачыла Волінага бацьку. Удваіх з другім рабочым яны неслі плакат, на якім было напісана: «Выканаем пяцігодку ў чатыры гады».

За музыкаю, за галасамі, ён не адразу пачуў, як клікала яго Воля. Але вось убачыў дачку, засмяяўся, замахаў ёй рукою.

Воля адчайна махала яму зялёнаю галінкаю, а Ларыса раптам адчула, як зайздрасць і боль апяклі яе сэрца. Як тады, шмат гадоў назад, калі яны з Воляю былі зусім малыя і Волін бацька прынёс Волі цукеркі, Ларыса помніць, як яна тады заплакала ад крыўды. Ей крыўдна было, што ў Волі ёсць бацька, а ў яе — няма. Цяпер яна зноў зайздросціла Волі. Балюча. Да слёз. Волін бацька разам з усімі ідзе ў калоне. Нясе плакат. Волін бацька махае Волі рукою, і вунь якая яна шчаслівая... А чаму той... айчым, не разам з людзьмі... Чаму яго няма тут. Калі Ларыса збіралася на дэманстрацыю, ён яшчэ спаў...

І чаму сярод добрых, харошых людзей ёсць такія?.. Чаму яны псуюць людзям жыццё?.. Псуюць свята. Ларыса ж была такая шчаслівая, пакуль не ўспомніла пра айчыма...

— Хадзем,— схапіла яе Воля за руку.— Вунь, нашы зноў строяцца.

Яны пабеглі назад, у сваю калону. І скора рушылі зноў. Цяпер іх аркестр іграў не спыняючыся. Усё бліжэй была плошча Леніна з велічным помнікам перад Домам урада.

Самае галоўнае было цяпер — добра прайсці перад гэтым помнікам, перад трыбунаю. Трэба, каб на трыбуне ўбачылі, якая харошая іх школа, якія яны ўсе дружныя. І Ларыса старалася ісці ў нагу з усімі, старалася роўненька трымацца ў шарэнзе.

— Няхай жывуць савецкія школьнікі! Няхай жыве наша будучыня! — віталі іх з трыбуны.

— Ура! — дружна крычалі яны.

І Ларыска таксама моцна крычала «ўра». Яна зноў была шчаслівая. Шчаслівая, бо разам з усімі ішла па плошчы. Бо разам з усімі і яе віталі з трыбуны, называлі «нашай будучыняй».

А будучыню сваю Ларыса ўяўляла цяпер вельмі ясна. Яна скора будзе хадзіць на дэманстрацыю з калонаю рабочых. Можа, некалі і яе паставяць на абвітай дзеразой машыне каля станка... Можа, некалі і ёй даручаць несці сцяг наперадзе калоны... Яна будзе працаваць так, каб заслужыць гэты гонар... Яна будзе старацца...

## 4

Малая Жэнечка залівалася рогатам.

— Ідзе каза рагатая, рагатая, пузатая,— прыгаворвала Ларыса, падносячы да дзяўчынкі выстаўленыя пальцы, і хоць рука яе была яшчэ далёка ад Жэнінага жывоціка, тая ўжо рагатала.

— Мама, яна такая харошая робіцца, такая смешная,— павярнула Ларыса свой ажыўлены твар да маці.

Была субота, і ўся сям'я сабралася дома. Маці, як заўсёды, шыла. Сярожка, прымасціўшыся каля яе за сталом, чытаў кніжку. Ён сядзеў, падпёршы кулакамі шчокі. Віхор тырчаў на яго бялявай макаўцы — нібы ўзняўся і застыў ад захаплення, якім быў перапоўнены хлопчык. Лёня ў спальні майстраваў сабе з кавалка дроту нешта накшталт качаргі, якою дзеці на вуліцы качалі жалезныя абручы.

Бацька таксама быў дома. Ён спаў.

— Законная кніжка,— сказаў Сярожка, загарнуўшы апошнюю старонку.— Скажы, Ларыска, а можна і ў нас такі «Наўцілус» набудаваць?

— Канечне, можна,— адказала Ларыска. Яна хадзіла па пакоі з Жэняй на руках і, гаворачы з Сярожкам, забаўляла яе цацкаю — круціла перад дзяўчынкай чырвонае гумавае колца.— У нас і не такую падводную лодку пабудаваць можна. А лодкі, пра якую тут напісана, і не было.

— Як не было? — вочы Сярожкі зрабіліся квадратныя.

— А так, не было,— засмяялася Ларыска.— Гэта ўсё Жуль Верн выдумаў.

— Хлусіш! — прыўзняўся на крэсле Сярожка.

— Слухай, ты, Жуль Верн,— перабіла размову дзяцей маці.— Нешта я твайго дзённіка даўно не бачыла.

Сярожка ўздыхнуў.

— А што там дзённік?..— абыякава сказаў ён.

Але маці гэта абыякавасць здалася падазронай.

— А ну, пакажы дзённік,— ужо больш настойліва патрабавала яна.

— Н-на што ён табе? — не ўставаў з месца Сярожка.— Там нічога цікавага няма.

— Вось я і баюся, што цікавага там мала,— паклала шытво маці.— А ну нясі сюды!

Сярожка неахвотна злез з крэсла і паплёўся ў спальню, дзе на цвічку, убітым нізка, было месца яго партфелю. Ён доўга поркаўся ў партфелі, пасля, нарэшце, выйшаў са спальні, несучы перад сабою абгорнуты газетай дзённік.

— А брудны які — скрывілася маці.— Хоць бы ты газету памяняў.

Сярожка маўчаў. Відаць, ён адчуваў, што не так пачне сварыцца маці, калі ўбачыць, што ў дзённіку ўсярэдзіне.

Маці гартала дзённік.



— Кляксы... бруд... а пішаш жа ты... як курыца дрэпае...

— У... у мяне почырк такі,— нясмела апраўдваўся Сярожка.

— Почырк...— Мала я табе па адным месцы пішу, таму і почырк у цябе дрэнны.

Нарэшце яна перастала гартаць старонкі і застыла, пазіраючы на графу, у якой хімічным чарнілам была акуратна выведзена двойка.

Маці апусціла руку з дзённікам.

— Па арыфметыцы,— сказала яна.— Ужо другая... І ў канцы года.

— Гэта настаўніца... гэта яна вінавата,— заікаючыся, пачаў апраўдвацца Сярожка.

— Яму яшчэ настаўніца вінавата, яшчэ на некага віну складае,— трасучы дзённікам перад носам у Сярожкі, з дакорам гаварыла маці.

— Няпраўда, Зінаіда Андрэеўна справядліва ацэнкі ставіць,— сказала Ларыса.

— Я... я... я толькі,— не ведаў, як апраўдвацца Сярожка.

— Толькі, толькі... З самакатам цэлыя дні гойсаеш, такі вялікі хлопец! Ты ж пераэкзаменоўку атрымаеш!

Сярожа стаяў, апусціўшы галаву, і больш не спрабаваў апраўдвацца.

— Ну што мне з табою рабіць, што рабіць? — пыталася ў яго маці.

— Я... я выпраўлю...

— А калі ж ты будзеш выпраўляць? Год жа канчаецца! Сілы ў мяне больш з вамі няма. Цешыш ты, сынок, мяне,— твар у маці пачырванеў, на вочы набеглі слёзы.

Сярожа, убачыўшы, што маці захвалявалася, таксама пачаў хліпаць.

— Во, паехалі ўжо абое,— з прыкрасцю сказала Ларыса.— Ну, чаго вось табе плакаць? — спытала яна ў маці.— Хай ён плача!

— Ён у мяне яшчэ не так заплача,— праз слёзы гаварыла маці.— Як пэцну зараз гэтым дзённікам па носе! — замахнулася яна на сына.

Сярожка адхіліўся і зароў на поўны голас. Спужаная яго плачам, загаласіла і Жэнька.

Бацька павярнуўся на канапе. Расплюшчыў вочы.

— Чаго вас там разабрала,— хрыплым голасам, спрасоння, прабурчаў ён.

— Во, во, бацька, прачніся,— загаварыла да яго маці.— Паглядзі, якія ацэнкі сынок прыносіць! Зноў двойку па арыфметыцы атрымаў.

— Адчапіцеся,— буркнуў бацька і павярнуўся тварам да сцяны.

— От чалавек! — перанесла маці свой гнеў на бацьку.— Дзіва што дзеці другагоднікамі будуць. Спіць п'яны, і ці яго што абыходзіць...

Бацька маўчаў. Ён, мусіць, ужо зноў заснуў.

— Сціхні, хопіць! — крыкнула маці на Сярожку, які роў на ўсю хату.— Я ж цябе яшчэ не біла!

За шумам ніхто не пачуў, як ў дзверы пастукалі. Гэта прыйшлі цётка Стэфа і дзядзька Пятрусь. Яны вельмі рэдка прыходзілі да іх, і з'яўленне такіх гасцей было нечаканым.

— Заходзьце, заходзьце, калі ласка,— гасцінна запрашала іх маці.— Гэта я тут са сваёй гвардыяй ваюю. Клопату з імі ў мяне.

Цётка Стэфа была ў сіняй шарсцяной сукенцы з белым каўнерыкам. Дзядзька Пятрусь у новым касцюме, пад гальштукам. У абодвух у руках былі нейкія пакункі.

— Можа мы не зусім у час прыйшлі,— сказала цётка Стэфа, кладучы свае пакункі на стол.

— Што вы, што вы,— гаварыла маці.— Мы вам заўсёды рады...

Яна падышла да канапы, на якой спаў бацька, узяла яго за плячо.

— Уставай... Людзі вунь прыйшлі,— сказала яна.

Бацька нехаця павярнуўся, але калі ўбачыў гасцей, падняўся.

— Прашу прабачэння,— сказаў ён, праціраючы кулакамі вочы.— Вось, заснуў нейк.

Дзядзька Пятрусь таксама паклаў на стол пакункі.

— Гэта мы дзецям прынеслі,— паспяшалася сказаць за яго цётка Стэфа. Яна разгарнула пакунак. Там былі цукеркі ў прыгожых паперках, піражныя.

— Ой, нашто было столькі грошай траціць,— сказала маці.

Сапраўды, было дзіўна. Раней цётка ніколі не прыносіла столькі пачастункаў. Там якую цукерку прынясе ці на ўсіх адну шакаладку.

Ларыса з малой Жэняй на руках стаяла каля печы і пазірала на цётку з дзядзькам. Яны, здаецца, і цяпер такія, як некалькі гадоў назад. Цётка аніколечкі не змянілася, не пастарэла. Не тое, што мама. Раней яна выглядала куды маладзейшай за сваю стрыечную сястру, а цяпер — нібы аднагодкі.

Ларыса ўспомніла той вечар, калі яны з мамаю, з Сярожкам і з малым Лёнікам прыйшлі да цёткі. Гэта было даўно, яшчэ тады, калі яны жылі ў прыбудоўцы. Сярожка тады плакаў — не хацеў ісці ў прыбудоўку з цёплай хаты. А цётка не сказала ім застацца, не пакінула начаваць. Цяпер Ларыса ўспомніла гэта без крыўды — колькі часу прайшло. А тады яна вельмі раззлавалася на цётку. Нават сказала маці, што хадзіць туды не будзе. І не хадзіла. Толькі цяпер калі-нікалі забяжыць.

— Хадзіце, дзеці, сюды, бярыце,— клікала тым часам цётка Стэфа, паказваючы на цукеркі. Яна ўзяла іх у жменю і насыпала на стале перад Сярожкам.

— Ну, яму то, можа, і не варта,— шматзначна сказала маці.

Сярожка кінуў на яе насцярожаны позірк і нясмела пацягнуўся за цукеркаю. Ён усё ж не думаў, што маці пры гасцях пачне ўспамінаць яго грахі.

Цётка Стэфа паклікала і Лёню, і яму паклала некалькі цукерак.

— Хадзі і ты частуйся,— паклікала цётка Стэфа Ларысу.

— Дзякуй, не хачу,— апусціла вочы дзяўчынка.

— Яна ўжо вялікая, ёй не трэба,— ледзь варушачы языком ў поўным роце, заявіў Лёня.

— Трэба і ёй, не такая яна і вялікая,— сказала цётка Стэфа.— Ідзі, Ларыса, бяры!

Ларыса падышла і ўзяла адну.

Маці прыняла са стала сваё шытво, заслала стол белым абрусам. Пачалася звычайная размова. Гаварылі пра надвор'е, пра родных і знаёмых, як хто жыве, каго дзе бачылі. Але Ларысе здавалася, што і цётка Стэфа і дзядзька Пятрусь сёння нейкія не такія, як заўсёды. Нібы пра адно гавораць, а пра іншае думаюць. Пераглядаюцца паміж сабою, і відаць, што гаворка іх не вельмі цікавіць. Толькі калі Ларыска з малой Жэнечкай падышла да стала, цётка Стэфа ажывілася. Яна павярнулася да малой, твар яе адразу стаў, як цукерка, і яна загаварыла да дзяўчынкі ласкава.

— Маленькая... харошая... Хадзі ж, хадзі да мяне на ручкі.

Жэнечка пацягнула да цёткі пухлыя ручкі, і тая ўзяла яе. Гушкала, прыцмоквала языком, і дзяўчынка весела смяялася.



— Цяжка табе з імі,— уздыхнула цётка Стэфа, глянуўшы на маці. Накарміць усіх, абшыць, абмыць...

— Ой, і не кажы,— згадзілася маці.— Добра вось вам. Жывяце ўдваіх і ніякага вам клопату.

— Ды не, Марусечка,— зноў уздыхнула цётка Стэфа.— Не так ужо гэта і добра.

А дзядзька Пятрусь раптам пачаў гаварыць:

— Людзі жыць не ўмеюць. Трэба ўмець жыць.

Колькі памятае Ларыса, дык дзядзька Пятрусь толькі і гаварыў, што пра тое, як трэба ўмець жыць. І па тым, як ён гэта гаварыў, лёгка было здагадацца, што дзядзька Пятрусь то ўмее жыць, а вось іншыя не ўмеюць.

Ларыса разумее, адчувае, што ў гэтых яго разважаннях папрокі і іх сям'і. Што і яны жыць не ўмеюць. Ларысе прыкра гэта адчуваць. Яна ведае, што ў іх сям'і сапраўды нядобра, і ведае, хто вінаваты, што яны кепска жывуць. Але яна б не хацела жыць і так, як цётка Стэфа з дзядзькам Петрусём. Ларыса не разумее, чаму ёй не падабаецца цётка Стэфа і дзядзька Пятрусь, але сваё жыццё яна б не хацела зрабіць такім, як іхняе.

А дзядзька Пятрусь гаварыў:

— На кожную жывую душу, што на свет прыходзіць, трэба запас мець. Трэба, каб дзіця падрастала, а для яго ўжо сёе-тое было падрыхтавана.

Цётка Стэфа, відаць, поўнасцю згаджалася з мужам, бо ўсё ківала галавою, падтаквала.

Бацька сядзеў на канапе і не ўмешваўся ў гаворку. Сярожка і Лёня грызлі цукеркі. Толькі маці і Ларыса насцярожана прыслухоўваліся да размовы. І хоць у ёй, здавалася, не было нічога асаблівага, маці і Ларыса адчувалі, што сёння ўсё гэта мае нейкае значэнне, што сённяшні прыход гасцей незвычайны.

Цётка Стэфа ўсё гушкала на руках малую Жэнечку, туліла яе да сябе. Пасля раптам сказала:

— А мы да вас сёння з сур'ёзнаю гаворкаю прыйшлі.

Яна сказала гэта глухаватым голасам, і твар у яе стаў адразу чужы — на ім з'явілася не то ўсмешка, не то ніякаватасць, якую цётка хацела схаваць за ўсмешкаю.

У дзядзькі Петруся твар таксама пацвярдзеў. І вусны, здаецца, патанелі.

Маці нічога не адказала, толькі па твары яе было відаць, што яна падрыхтавалася ўважліва слухаць.

— Марусечка,— пасля ніякаватага маўчання загаварыла цётка Стэфа.— Ты ведаеш, што жывем мы нядрэнна... Добра жывем... Дабра хапіла б і нам і нашым дзецям... Толькі вось... Не даў іх нам бог.

Яна спынілася, дастала з кішэні хусцінку, абшытую карункамі, выцерла спацелы лоб, вочы.

Дзядзька Пятрусь сядзеў з апушчанаю галавою і ківаў ёю, пацвярджаючы словы цёткі.

— Дык вось... надумалі мы... Гэта і табе добра і нам... Аддайце нам вашу Жэнечку... Назаўсёды.

Ларыса ўбачыла, як раптам збялелі губы ў маці. Яна варухнула імі, мусіць, хацела нешта сказаць, але не сказала. У хаце зрабілася зусім ціха. Толькі чуваць было, як хрумстаў цукеркі Лёня.

А цётка, убачыўшы, што і бацька і маці маўчаць, і, палічыўшы гэта за добры знак, казала далей:

— У нас яна будзе, як сыр у масле купацца. А ў цябе што... Хіба мы не ведаем, што твае дзеці на адной бульбе гадуюцца?..

— Лепш, канечне, каб яна не ведала, што вы яе сапраўдныя бацькі... Мы б яе за дачку ўзялі,— разважліва дадаў дзядзька Пятрусь.

— Ой, што вы,— нарэшце глуха адазвалася маці.— Яна ж такая маленькая...

— Не такая яна і маленькая,— перабіла яе цётка Стэфа.— Вунь бывае, дзеці зусім без маткі застаюцца, ад дня нараджэння, і то гадуюцца, а ёй ужо сем месяцаў... Коля,— павярнулася яна да бацькі.— Вы скажыце Марусі... Мы ж і вам дабра жадаем...

— Ой, не,— прастагнала маці і падалася да Жэнечкі. Дзяўчынка, убачыўшы матку, пацягнулася да яе ручкамі, але цётка Стэфа, нібы ўжо наважыўшыся не аддаваць дзіцяці, прытуліла малую да сябе. Жэнечка засмяялася, абняла цётку за шыю. Маці, убачыўшы гэта, у нерашучасці адступіла, адышла да сцяны і адтуль спалоханымі вачыма пазірала на дзяўчынку. Цётка Стэфа зноў павярнулася да бацькі.

— Коля, я вас прашу, угаварыце Марусю, скажыце ёй, што так будзе лепш... Для дзяўчынкі... Вы ж ведаеце, што дабра ў нас нямала. А жыццё чалавечае не вечнае. Некалі ўсё будзе яе... А так што... Чужыя людзі скарыстаюць, а нам на старасці і вады не будзе каму падаць...

Бацька ўстаў, прайшоў у кут, дзе вісела яго куртка. Доўга корпаўся ў кішэні, пакуль знайшоў пакамечаны пачак з папяросамі. Выцягнуў адну. Закурыў.

— Як яна,— хрыплым голасам сказаў ён, кіўнуўшы на жонку.

— Што вы ў яго пытаецеся,— раптам у адчаі загаварыла маці.— Хіба ён бацька сваім дзецям! Ён не толькі Ларысе айчым, ён і ім айчым таксама! Ён бы ўсіх іх параздаваў, хіба ён іх шкадуе!

Маці заплакала. Бацька нічога не адказаў. Ён зноў сеў на канапу і моцна зацягнуўся папяросаю.

— Не трэба, Марусечка, не хвалюйся,— падышла да яе цётка Стэфа, абняла адной рукою за плечы, бо на другой яшчэ ўсё трымала Жэнечку.— Мы і не думалі, што так будзе... Мы ж хочам, як лепш... Нам Жэнечка была б такою радасцю...— І цётка Стэфа паднесла да вачэй хустачку з карункамі.

Маці і цётка Стэфа ўсхліпвалі. Дзядзька Пятрусь сядзеў чырвоны, незадаволены.

— Калі ж гэта неяк так нечакана... Я проста не ведаю,— разгублена, праз слёзы, прагаварыла маці. Яна нібы пачала здавацца.

Цётка, убачыўшы, што маці завагалася, зноў загаварыла:

— Падумай, Марусечка, праўда, не адказвайся... Аб дзіцяці, аб яго жыцці падумай,— туліла Жэнечку цётка Стэфа.

— Ды ўжо ж я хіба падумаю,— усхліпвала маці.

— І думаць няма чаго! — раптам рэзка, нават злосна сказала Ларыса.

Усе павярнуліся да яе.

— І думаць няма чаго,— паўтарыла яна.

Ларыса падышла да цёткі і рашуча, без далікатнасці, ледзь не вырвала, узяла дзяўчынку з рук.

— Не аддадзім Жэнечкі! — зноў злосна сказала Ларыса і адышла з сястрою да маці, стала поруч з ёю.

З хвіліну ўсе ў кватэры збянтэжана маўчалі, пасля, нарэшце, цётка Стэфа, ледзь не задыхаючыся ад злосці, прагаварыла:



— Ну, ведаеш, гэта ўжо не твая справа. Няма чаго табе ўмешвацца... Ты сама яшчэ дзіця! На гэта ёсць маці і бацька!

— А вось і мая справа,— адрэзала Ларыса.— І мама таксама не аддасць, бо я працаваць буду. Вось толькі экзамены здам...— адразу аб усім хацела сказаць Ларыса.

Яна бачыла, што маці здзіўлена глядзіць на яе. Ну, канечне. Яна ж толькі цяпер сказала, што збіраецца ісці працаваць. Усё не адважвалася аб'явіць мацеры аб сваім рашэнні.

Але маці не толькі здзіўленая. Яна нібыта ўраз і пасмялела. Вунь, ужо зусім няма ў яе разгубленасці, нерашучасці. Яна падалася да Ларысы, схапіла ў яе з рук Жэнечку, прытуліла малую да сябе.

— Што вы, дарагія мае,— скрозь радасныя слёзы прагаварыла яна.— Хіба ж я змагу... Хіба аддам... Куды ж яе, такую маленькую, крывіначку маю...

Бацька раптам устаў, зусім цвярозымі вачыма паглядзеў на Жэнечку, на Ларысу. Здавалася, ён хацеў нешта сказаць, але махнуў рукою і хуткімі крокамі выйшаў у калідор.

## 5

Ларыса здавала экзамены. Маці старалася цяпер зрабіць усё сама, каб не адрываць дачку ад кніжкі. Экзамены здавала Ларыса вельмі добра. Пакуль атрымлівала адны пяцёркі. За клопатам, за хваляваннем больш нічога не гаварыла пра работу. «Можа, перадумала»,— спадзявалася маці. І сама яна старалася нічым не напамінаць Ларысе аб заводзе. «Хоць і цяжка, вельмі цяжка, але хай бы вучылася»,— думала маці.

Але аднойчы вечарам, калі Ларысе заставалася здаць толькі адзін экзамен — геаметрыю, да іх прыйшла класная настаўніца Кацярына Іванаўна. Маці мыла бялізну і вельмі збянтэжылася, усхвалявалася, калі ўбачыла яе ў дзвярах. На хаду выціраючы ручніком рукі, яна замітусілася па хаце, шукаючы, куды пасадзіць настаўніцу. На крэслах ляжала выкручаная бялізна.

— Выбачайце,— мітусілася маці,— у мяне тут такі беспарадак.

— Нічога, нічога,— супакойвала яе Кацярына Іванаўна.— Гаспадарчыя справы, вядома. Хто імі не займаецца.

Маці села насупраць Кацярыны Іванаўны, склала на каленях яшчэ вільготныя, распараныя ад гарачай вады, рукі. Яна ведала, што настаўніца не прыйшла без патрэбы, што, відаць, нейкая ёсць у яе справа.

Кацярына Іванаўна паклала на стол жоўты скураны партфель, правяла далонямі па цёмных, гладка зачасаных валасах.

— А дзе Ларыса? — убачыўшы, што яе вучаніцы няма дома, спыталася настаўніца.

— Я ў магазін яе паслала,— адказала маці.— Яна скора прыйдзе.

— То я адразу пачну гаварыць з вамі аб справе... Ці ведаеце вы, што Ларыса хоча школу кінуць?

— Ведаю, Кацярына Іванаўна,— уздыхнула маці.

— І вы дазваляеце ёй?

— Ды я б не хацела, але яна так цвёрда наважылася...

— Вы разумееце, Марыя... выбачайце, не ведаю, як вас па бацьку...

— Сямёнаўна,— падказала маці.
— Разумееце, Марыя Сямёнаўна... Ларыса вельмі здольная дзяўчынка. Нам не хацелася б, каб яна кідала школу.
— І я ёй кажу — вучыся... Але яна такая ўпартая,— апраўдвалася маці.
— Я ведаю, што яна ўпартая. Сёння прыйшла да дырэктара і пачала патрабаваць, каб ёй аддалі дакументы. Куды ж яна хоча ісці працаваць?
— Ох, кажа, што на завод хоча... А вунь і яна бяжыць,— маці ўбачыла, што ў акне мільганула сукенка дачкі.— Пагаварыце вы з ёю самі... Мяне яна не слухаецца.
Запыхаўшыся, убегла Ларыса. Убачыўшы настаўніцу, збянтэжылася, паклала на стол пакункі, якія прынесла з магазіна, паправіла чорны цыратавы паясок на кароткай выцвілай сукенцы.
— Сядай, Ларыса, з намі, пагаворым,— сказала ёй Кацярына Іванаўна.
Ларыса села на канапу каля малой Жэнечкі, абкладзенай падушкамі. Узяла пустую шпульку, пачала круціць у руках.
— Што ты вочы апусціла,— з дакорам сказала ёй маці.— Пакладзі цацку. Вось, бачыш, да цябе настаўніца прыйшла.
Ларыса адкінула шпульку, узняла на Кацярыну Іванаўну вочы. У іх ужо не было замяшання. Яны глядзелі ўпарта і крыху дзёрзка.
— Дык ты сур'ёзна наважылася школу кінуць? — спыталася маці ў дачкі.
— Вядома, сур'ёзна — коратка адказала Ларыса.
— То хай бы ты хоць дзесяць класаў скончыла. Га, Кацярына Іванаўна, скажыце вы ёй... Хоць дзесяць класаў няхай скончыць!
— А якая розніца — восем ці дзесяць? — паціснула плячыма Ларыса.— Усё роўна ў інстытут я не змагу пайсці вучыцца.
Усе некалькі хвілін маўчалі.
— Я разумею,— сказала нарэшце Кацярына Іванаўна.— У вас у сям'і не ўсё добра... Ларысе цяжка...
Са стукам адчыніліся дзверы, і ў пакой убег Лёня, а за ім Сярожка. Сярожка, убачыўшы настаўніцу, спыніўся каля парога, прывітаўся.
— О, гвардыя мая,— усміхнулася маці, устала.— Дзе ж ты так выцяўся? — спыталася яна ў Лёні, убачыўшы на яго круглай і ружовай, як яблык, шчацэ свежую драпіну.
— Гэта мы ў граніцу гулялі,— глытаючы словы, пачаў расказваць Лёня.— Сярожка быў пагранічнікам, а я... а я... шпіёнам, дык ён мяне лавіў...
Маці строга паглядзела на старэйшага сына.
— Гэта ён сам, я не вінаваты,— пачаў апраўдвацца Сярожка.
— Ага, не вінаваты,— з дакорам глянуў на брата Лёня.— А што ж ты не ловіш, а піхаеш...
Сярожка зноў хацеў пачаць апраўдвацца, але маці перапыніла яго.
— Добра, добра, часу няма мне цяпер вам суд чыніць. Вось дам па кавалку хлеба і зноў марш на вуліцу. Не перашкаджайце нам...
Маці падышла да шафкі, дастала бохан хлеба, адрэзала дзве ёмкія лусты. Пасля разгарнула адзін з кулёчкаў, што прынесла Ларыса, памазала хлеб тлушчам і дала хлапчукам.
Хлопчыкі шмыгнулі за дзверы, а маці вярнулася на сваё месца, зноў склала рукі на каленях.
Кацярына Іванаўна некаторы час пазірала на дзверы, за якімі зніклі хлапчукі, глянула на малую Жэнечку, якая сядзела на канапе і забаўлялася пустою шпулькаю, пасля павярнулася да Ларысы.



— Мы што-небудзь прыдумаем, каб дапамагчы табе,— сказала яна. Сёння я гаварыла з дырэктарам школы,— яна паглядзела на маці.— Дырэктар вельмі не хоча адпускаць Ларысу і таксама казаў мне, што трэба неяк вам дапамагчы.
— Працаваць я, Кацярына Іванаўна, усё роўна пайду,— зноў беручы ад малой шпульку, упарта сказала Ларыса.— А вучыцца я не кіну... У вячэрнюю школу хадзіць буду...
Кацярына Іванаўна ўстала, падышла да Ларысы. Паклала ёй на плячо руку.
— Добра, Ларыса,— сур'ёзна, як дарослай, як сяброўцы, сказала Кацярына Іванаўна.— Я разумею цябе. Мы што-небудзь прыдумаем.

## 6

Ларыса што было сілы бегла дахаты. Калі ўжо зусім забірала дыханне, яна прыцішала бег і ішла крокам — каб хоць крышку аддыхацца, а пасля зноў бегла. Яна хацела хутчэй, хутчэй расказаць мацеры радасную навіну.
— Мамачка! — закрычала яна, толькі адчыніўшы дзверы,— мамачка,— і кінулася ёй на шыю.— Ты ведаеш, я ў рамеснае пайду, у рамеснае!
— Што ты, пачакай,— адштурхоўвала маці ад сябе дачку.— Якое рамеснае?
— Разумееш? — размахвала Ларыса рукамі ў маці перад тварам.— Я пайду вучыцца ў рамеснае вучылішча... Дырэктар мне сказаў. Яны з Кацярынай Іванаўнай далі мне рэкамендацыю.
— У якое рамеснае, што за рамеснае? — не разумела маці.
— Ах, мамачка, ты ж нічога не ведаеш,— радасна смяялася Ларыса.— Ты разумееш, у гэтым годзе такія вучылішчы адкрываюцца. Там адразу вучацца на якую-небудзь спецыяльнасць. Я наборшчыцай буду... Кніжкі буду рабіць, у друкарні працаваць... І вучыцца буду! Туды не ўсіх прымаюць, толькі тых, хто добра вучыцца. У нас шмат хто з хлопцаў і дзяўчат хацелі паступіць, але месцаў у вучылішчы не многа. Нават Воля прасілася, каб яе прынялі, але ў яе па фізіцы тройка,— расказвала Ларыса.
Маці глядзела на дачку, падпёршы шчаку рукою. Яна не ведала, ці радавацца ёй, ці не.
— Там нам дадуць форму. Разумееш? Гімнасцёрачкі, спаднічкі, чаравікі. А на зіму — шынялі! Вось цікава будзе — я ў форме! — Ларыса перакруцілася перад маткаю, узяўшыся пальцамі за спаднічку, нібы на ёй ужо была форма. І ўсё бясплатна. І форма, і харчаванне. А жыць мы будзем у інтэрнаце!
— У інтэрнаце? — перапытала маці.— Значыцца, ты пойдзеш ад нас? — каля матчыных губ легла сумная зморшчынка.



Цяпер і Ларысіна радасць крыху прытухла. Яна адразу не падумала, што маці балюча будзе пускаць яе з хаты.

— Мамачка,— памкнулася яна да маці.— Гэта ж тут, у горадзе... Я кожную нядзелю да вас прыходзіць буду!

— Што ж,— пасля хвіліны маўчання сказала нарэшце маці.— Так яно, можа, і лепш... Будзеш сытая, адзетая...

А падумаўшы, разважыўшы яшчэ крыху, маці пераканалася, што гэта для Ларысы сапраўды вельмі добра. Лепш чым цяпер, у яе шаснаццаць гадоў, на завод ісці, а вечарамі вучыцца.

А што грошы не адразу пачне зарабляць, дык не пра гэта быў матчын клопат. Неяк дасюль жылі — неяк і далей абыдуцца. Ды цяпер і лягчэй будзе. Пра Ларысу ўжо дзяржава паклапоціцца. А ёй у тым рамесным, канечне, будзе лепш, чым дома. Так што дзякуй тым, хто такія вучылішчы прыдумаў. Гэта ж усё бясплатна — і харчы, і адзежа... І вучаць іх...

— Мамачка, з першай палучкі я куплю табе цёплую хустку! Вось убачыш! — гаварыла Ларыса.

— Добра ўжо, добра,— села на крэсла маці. Ёй ужо было і радасна за дачку, і крыху сумна, што вось не можа ўтрымаць яна свайго дзіцяці каля сябе, пад сваёй, мацярынскай апекаю.

У адкрытым акне паказалася галава Волі. Воля, як заўсёды, усміхалася.

— Воля! — узрадавалася Ларыса, убачыўшы сяброўку.— Хадзі хутчэй, што я табе раскажу!

Але Воля не пайшла ў хату. Яна клікала Ларысу на вуліцу, рабіла ёй нейкія знакі.

Маці паглядзела ў акно паўзверх Волінай галавы. На тратуары каля дома стаяў высокі юнак з дзвюма значкамі на пінжаку і пазіраў на іх вокны.

Кінула на вуліцу позірк і Ларыса. Маці ўбачыла, як успыхнуў твар дачкі.

— Я пайду, мамачка,— скоранька загаварыла яна.— Гэта Валодзя. Яны мяне клічуць.

І, не дачакаўшыся, пакуль маці ёй дазволіць, Ларыса выбегла з хаты.

Праз акно маці бачыла, як павіталася Ларыса з юнаком і як усе ўтраіх яны пайшлі па тратуары. Ларыса пазірала то на Волю, то на Валодзю, і нешта горача ім гаварыла. Вядома, расказвала навіну. Хвалілася, што будзе хадзіць у форме, што скора пачне зарабляць грошы.

## 7

І вось Ларыса апошні дзень дома. Яе ўжо залічылі ў рамеснае. Яна прыйшла забраць свае рэчы — кніжкі, сшыткі, альбом. На Ларысе новая чорная гімнасцёрка з літарамі «РУ» на каўнярах. Чорная спаднічка, новыя чаравікі, форменная шапка. Ларыса парашыла, што цяпер да яе шапкі зусім не пасуе грыўка, і яна зачасала яе на бок, прыкалола заколкаю. Косы ўклала ззаду вяночкам. «Нядобра, калі целяпаюцца з-пад шапкі»,— тлумачыць яна.

Сярожка з зайздрасцю пазірае на сястру. Ён заявіў мацеры, што, як скончыць сем класаў, таксама абавязкова пойдзе ў рамеснае.

Лёню вельмі падабаецца Ларысіна форма. Ён ужо мераў шапку. Яна яму «амаль акурат», толькі крыху налазіць на вочы.



Ларыса складае свае кнігі ў маленькі падрапаны, з адарванаю ручкаю, чамаданчык.

— Мы будзем жыць чацвёра ў пакоі,— расказвае яна мацеры.— Я з дзяўчынкамі пасябравала ўжо.

Маці ходзіць па пакоі. Яна хоча нечым дапамагчы дачцы, але не ведае, чым.

— Можа табе бялізны пакласці з сабою? — пытаецца яна.

— А навошта ж, мамачка,— дзівіцца Ларыса.— Там жа ўсё казённае будзе. Вось хіба сурвэтачку гэту я вазьму,— паказвае яна на вышытую круглую сурвэтку, якою засцелена верхняя паліца этажэркі.— Тумбачку сваю засцялю.

— Вазьмі, вазьмі,— хутка згаджаецца маці і пачынае здымаць пустыя бутэлькі з-пад адэкалону, якія, для прыгажосці, стаялі там.

Сярожка таксама нечым хоча дапамагчы сястры. Ён ходзіць вакол крэсла, на якім стаіць чамаданчык.

— Як жа ты панясеш яго? — паказвае ён раптам на чамадан.— У яго ж ручка адарваная...— І раптам твар у Сярожкі яснее.— Я зараз табе яго адрамантую!

Сярожка бяжыць да століка, выцягвае шуфлядку. У ёй цвікі, ролікі, гайкі. Сярожка стукае жалезам, калупаецца ў шуфлядцы. Нарэшце знаходзіць ладны кавалак меднага дроту.

— Во, зараз я гэтым дротам ручку прыкручу.

Сярожка ладзіць чамадан. Лёня круціцца каля брата, гатовы кожную хвіліну яму дапамагчы. Але Сярожка праганяе Лёню, каб не перашкаджаў.

Сярожка вельмі стараецца. Ён некалькі разоў прыкруціў дротам ручку і цяпер перагінае і перагінае дрот — хоча адламаць кавалак, які застаўся лішні і тырчыць.

— Во, бачыш, як добра будзе,— кончыўшы работу і падняўшы чамадан за ручку, кажа Сярожка.— Цяпер век не адарвецца!

Ларыса сабралася. Ёй хочацца скарэй пайсці. Па-першае, на вуліцы яе чакае Валодзя, а па-другое, ёй больш не хочацца бачыць сёння айчыма. Яна будзе з усімі развітвацца, а калі прыйдзе ён, то трэба будзе развітвацца і з ім, а Ларыса яго ненавідзіць. Гэта ж праз яго столькі пакут прымае мама.

У Ларысы ўсё ўжо было гатова, і яна хацела развітацца, як пачуліся знаёмыя цяжкія крокі. Ішоў з работы айчым. І Ларыса і маці і нават Сярожка па хадзе пазналі, што ён п'яны.

Ціха, насцярожана зрабілася ў хаце.

— Толькі ты не сварыся, мамка,— горача зашаптала Ларыса.— Не сварыся, мамачка... Хай хоць апошні вечар ціха будзе...

Дзверы шырока расчыніліся, і на парозе з'явілася такая знаёмая постаць з апушчанымі плячыма. У руках у бацькі быў нейкі пакунак.

Бацька цяжка прайшоў на сярэдзіну пакоя і апусціўся на крэсла. Пакунак яшчэ крыху патрымаў у руках, пасля паклаў на стол.

Ларыса стаяла каля маці. Айчым доўга глядзеў на яе.

— А ну, пакажыся,— усміхнуўся ён.— У фо-орме.

— У яе і шапка ёсць, во,— узяў з канапы Лёня Ларысіну шапку. Яна і мне добра, паглядзі! — Лёня надзеў шапку. Здавалася, што каб не зачапілася яна за вялікія Лёневы вушы, то ў ёй схаваўся б увесь кірпаносы хлопчыкаў твар.

Бацька зняў у Лёні з галавы шапку. Доўга круціў яе ў руках, уважліва разглядаў.

— Р-рабочы клас, значыцца,— зноў усміхнуўся ён Ларысе.— А я табе вунь што прынёс,— і ён няцвёрдаю рукою пацягнуўся да

стала, узяў пакунак. Непаслухмянымі пальцамі пачаў развязваць вяровачку, але пальцы не слухаліся, і ён разарваў яе. Пасля разгарнуў паперу. Там былі новыя туфлі. Дарагія туфлі. Ларыса ведала, што яны дарагія. Такія былі ў Волі. Ларыса і марыць не магла аб такіх туфлях. Хіба яна магла прасіць маці, каб ёй такія купілі.

— Во, на, гэта табе... На, бяры,— казаў айчым.

Ларыса вільготнымі вачыма пазірала на туфлі. Яна ўсё яшчэ не верыла, што гэта сапраўды ёй куплена такая абнова.

— Бяры, кажу,— ужо строга загадаў айчым.— За тое, што ты Жэньку любіш,— дадаў ён раптам і апусціў галаву.

Ларыса глянула на матку.

Але што гэта... Чаму маці так дзіўна пазірае то на бацьку, то на Ларыску, то на туфлі. У вачах у маці слёзы, але Ларыса не можа зразумець, чаго яна хвалюецца... Вядома, і яна рада, што ў Ларысы новыя туфлі... Ад гэтага слёзы... А можа ёй шкада, што бацька аддаў за іх многа грошай... А можа ёй не шкада грошай, можа гэта таму яна так расхвалявалася, што хоць раз, хоць адзін раз у жыцці бацька прынёс нешта яе дачцэ, падумаў аб ёй... Але не... і не гэта гавораць матчыны вочы...

— Раней трэба было купляць,— нейкім хрыплаватым голасам сказала маці.— А цяпер у яе вунь — казённыя чаравікі...

Ларыса глянула на свае ногі. І тут ёй сапраўды зрабілася крыўдна. Яна ж увесь час будзе хадзіць у форме. А да формы хіба будзе пасаваць такі абутак. Што ж, хіба туфлі будуць ляжаць і чакаць, пакуль яна ўлучыць час абуць іх? Ды ці патрэбны яны цяпер ёй? Цяпер яна абутая. І калі гэтыя чаравікі зносяцца, ёй дадуць новыя.

Але толькі на адну хвіліну зрабілася сумна Ларысе. Пасля зноў радасць запоўніла сэрца дзяўчынкі. Ёй прынеслі падарунак! І гэта радасць была мацней за той смутак, які на хвіліну запоўз у Ларысіна сэрца.

Але Ларысе трэба ісці. З сённяшняга дня яна падпарадкуецца дысцыпліне. У восем гадзін вечара яна павінна быць у інтэрнаце. Заўтра пачнуцца заняткі.

Ларыса трымае ў руках прыгожыя чырвоныя туфлі. Іх шкада аддаваць, але яна падае іх мацеры. Ларыса ў думках уміг парашыла, што трэба з імі зрабіць.

— Ты прадасі іх, мамачка... Бо пакуль я скончу вучылішча, яны мне малыя будуць...

Бацька глядзіць на маці, на Ларыску, і ў вачах яго непадробны сум. Ён пачынае разумець, што падарунак яго непатрэбны. І раптам позірк яго святлее, вочы робяцца зусім цвярозыя.

— Не трэба прадаваць,— сказаў ён і ўзяў у маці з рук туфлі, перадаў іх Ларысе. І рухі ў яго зрабіліся цвёрдыя, як у цвярозага чалавека. Ён палез у кішэню і выцягнуў адтуль пакамечаны пачак грошай.— Я табе палучку прынёс,— сказаў ён мацеры.— Добрую палучку... Усё табе аддаю... Толькі сто грамаў выпіў...— І ён паклаў грошы на стол. Пасля зноў неяк абмяк, апусціў галаву. Ларыса стаяла каля стала, прыціснуўшы да грудзей туфлі, і пазірала на маці, на айчыма.

— Добра, мамачка, схавай іх,— падала яна нарэшце туфлі мацеры.— Дзякуй вам,— сказала яна айчыму. І ў голасе яе былі радасць і надзея.— А пакуль бывайце,— заспяшалася яна.— Мне трэба ісці.

Ларыса падышла да Лёні, зняла ў яго з галавы сваю шапку. Надзела. Узяла ў рукі чамаданчык.



Маці паклала туфлі на стол, побач з грашыма, якія, пакамечаныя, ляжалі на стале. Абняла дачку, пацалавала.

— Ідзі, дачушка,— сказала яна.— Толькі ж не забывай нас. Прыходзь часцей.

— Дзіва што, мамачка.

Ларыса абняла і пацалавала Сярожку, Лёню. Падышла да калыскі, дзе спала Жэнечка.

— Бывай, маленькая,— прашаптала яна, але не пацалавала, баялася разбудзіць.

Айчым сядзеў у крэсле, пазіраў, як развітвалася з усімі Ларыса. Яна падышла да яго. Спынілася. Нейкую хвіліну стаяла, нібы не ведаючы, як з ім развітацца. Пасля абняла, дакранулася вуснамі да калючай, няголенай шчакі.

— Бывайце здаровы,— прашаптала.

— Бывай, бывай,— ківаў галавою айчым.

— Я праводжу цябе,— схамянулася маці.— Пачакай, я зараз,— замітусілася яна па кватэры.

— Ой, не, мамачка, не трэба,— скоранька сказала Ларыска і выбегла за дзверы. Маці, разгубленая, засталася стаяць пасярод пакоя. Пасля падышла да акна, каб праводзіць дачку хоць позіркам.

Яна ўбачыла, як Ларыса выйшла з пад'езда. І тут каля яе, як з-пад зямлі, вырас, апынуўся юнак, што прыходзіў з Воляю. Ён узяў у Ларысы з рук чамаданчык.

Маці, падпёршы шчаку рукою, пазірала, як ішлі яны па тратуары далей і далей.

«Вырасла дачка... Хату пакідае... І вунь, хлопцы ўжо праводзяць... Ой, ці не рана? — ныла матчына сэрца.— Каб жа ўсё добра было...»

Маці доўга глядзела праз акно на вуліцу, у той бок, куды пайшла дачка. А на падаконніку гарэў, цвіў мноствам яркіх чырвоных кветак вазон-агеньчык, які Ларыса некалі сама пасадзіла.





**Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ**







Мы паэты.
Мы ўсе паэты...
Сталявары,
                    расправіўшы плечы,
Пішуць вогненныя паэмы
Каля сталеплавільнай печы.

Мы паэты.
Мы ўсе паэты...
І калгаснік: пад полагам неба
Ён складае барозны ў паэмы,
Прапахлыя сонцам і хлебам.

Касманаўты, віткі за віткамі,
На вачах у здзіўлёнай планеты
Пішуць вогненнымі радкамі
Маладую паэму Сусвету.

І старыя дзяды патроху
Пішуць паэму смерці,
Складаючы важкія строфы
З udараў уласных сэрцаў...

Мы паэты.
Мы ўсе паэты...
Мы ідзём па планеце горда
І суровую пішам паэму
Штосекундна,
                    штодзённа,
                              штогоду.

# НА РЫШТАВАННЯХ



Я, асляплёны ззянем рання
І паланёны сінявой,
Ізноў стаю на рыштаваннях,
Прабіўшы хмары галавой.

І зноў на мне,
                    як знак былога,
Рабочы мой камбінезон.
Перада мной,
                    як перад богам,
Раздаўся ўшыркі гарызонт.

Ад вышыні я — быццам п'яны,
Бо на кароткі міг адчуў,
Нібыта я
                    ў ракетаплане
У бездань сінюю лячу...

Скафандрам мне —
                    мая спяцоўка.
Лячу скрозь дым,
                    агонь
                              і гром.
Растала ўнізе
                    будпляцоўка —
Мой дом,
                    мой першы касмадром.

# СОНЦА



Адны ад сонца
                    хаваюцца пад парасоны,
Другія акуляры вешаюць на нос,
А я гляджу прама ў вочы сонцу,
Я сонца з дзяцінства ў душы пранёс.
Ты помніш, мама,
                    вясну сорак пятага —

Пралескі і радасць
цвілі, як май.
А ты глядзела ўбок вінавата
І ціха праз слёзы шаптала:
— Няма...
Начамі пражэктары
мацалі ўзлескі,
Пранізвалі чорныя хмары.
Яны
Нібыта шукалі таго,
хто без весткі
Прапаў на суровых дарогах вайны.
Начамі —
трывога,
чаканне,
бяссонніца...
Я суцяшаў цябе
як толькі мог,
Казаў табе:
— Заўтра ўзыдзе сонца,
А з ім —
ступіць бацька на родны парог.
І мы не спалі да сёмых пеўняў,—
О, як мы сонца чакалі з табой!..
Я верыў, мама,
я быў упэўнены,
Што сонца з бацькам прыйдзе ў пакой.
Было ў гэтай веры нешта святое,
Празрыстае нешта,
як кропелькі слёз...
Я верыў сонцу
упарта, свядома,
Я верыў у бацькаў шчаслівы лёс.
Я і дагэтуль веру бясконца,
З надзеяй чакаючы кожны дзень,
І праз жыццё ў душы сваёй
сонца
Нясу,
як сімвал жыцця і надзей.

## ПРЫЗНАННЕ

«Там, где вечно дремлет тайна,
Есть нездешние поля.
Только гость я, гость случайный
На горах твоих, земля».

Сяргей ЯСЕНІН.


есяц выгнуўся срэбнай падковай,
Усміхаецца мне здаля...
Не, не госць я, не госць выпадковы
На пасторах тваіх, зямля.
Сыплю зерне па чорнай раллі,
Каб шумелі жыты,
каб бярозы
І вяргіні заўсёды цвілі;

Сам на сам я выходжу з тайгою,
Злым марозам наперакор,
Быццам волат, рассоўваю горы
І спраўляюся з бурнай ракой.
Я іду, малады і суровы,
Каб тваю зберагчы красу;
І, як пашпарт бестэрміновы,
Я рабочыя рукі нясу.








**І. І. ЛЮДНІКАЎ,**
**генерал-палкоўнік,**
**Герой Савецкага Саюза**

# ВІЦЕБСКІ НАПРАМАК

У маі 1944 года лінія фронта ў Беларусі праходзіла па возеры Нярэчэрда, на паўночны ўсход ад Віцебска, на паўднёвы ўсход ад Чавус, на ўсход ад Ковеля. Вялізны віцебскі выступ, павернуты на ўсход, утварыўся ў выніку Смаленскай наступальнай аперацыі, праведзенай Калінінскім і Заходнім франтамі ўвосень 1943 года. Гэты выступ абараняўся сіламі групы армій «Цэнтр» і меў важнае стратэгічнае значэнне для праціўніка. У ім знаходзілася большая частка Беларусі з яе прыроднымі багаццямі, шляхамі зносін і аэрадромамі; ён прыкрываў Прыбалтыйскі, Усходне-Прускі і Варшаўскі аперацыйныя напрамкі, навісаючы з поўначы над войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронта, якія дзейнічалі ў раёне на поўдзень ад ракі Прыпяць.

Характарызуючы стратэгічную абстаноўку ў маі 1944 года, начальнік штаба Вярхоўнага камандавання ўзброеных сіл Германіі Кейтэль пісаў: «...На ўсходнім фронце становішча стабілізавалася. Можна быць спакойнымі, бо рускія не хутка здолеюць пачаць наступленне. Зыходзячы з даных аб перагрупіроўцы сіл праціўніка і агульнага вайсковага і палітычнага становішча, трэба лічыць верагодным, што рускія свае галоўныя сілы сканцэнтруюць на паўднёвым участку фронта. Яны цяпер не здольны адначасова весці баі на некалькіх галоўных напрамках».

У сувязі з такой ацэнкай галоўныя танкавыя сілы і рэзервы фашысцкіх войск знаходзіліся на паўднёвым участку ўсходняга фронта. Гэта быў буйны стратэгічны пралік.

Вырашаючы задачу поўнага вызвалення савецкіх зямель у летняй кампаніі 1944 года, Вярхоўнае камандаванне Савецкай Арміі мела на мэце разграміць нямецкую групу армій «Цэнтр» і вызваліць Беларусь. Планам Стаўкі прадугледжваўся адначасовы пераход савецкіх войск у наступленне на Віцебскім, Аршанскім, Магілёўскім і Бабруйскім напрамках. Намячалася раздрабніць абарону праціўніка і знішчыць яго флангавыя групіроўкі ў раёнах Віцебска і Бабруйска, а потым, развіваючы імклівы наступ у глыбіню, абкружыць чацвёртую нямецкую армію ў раёне Мінска. Такім чынам, разгром праціўніка на Віцебскім напрамку з'явіўся важнай састаўной часткай нашага агульнага стратэгічнага плана.



У баі пад Віцебскам. Фота А. Дзітлава.

Віцебскі плацдарм быў апорай левага крыла варожай групіроўкі «Цэнтр». Звязваючыся з паўночнай групіроўкай, ён прыкрываў шлях у Прыбалтыку і Усходнюю Прусію. Для яго абароны былі вылучаны лепшыя кадравыя злучэнні 53-га армейскага корпуса ў складзе адной пяхотнай дывізіі і адной авіяпалявой дывізіі, а таксама адной пяхотнай дывізіі 6-га корпуса. Абарона тут рыхтавалася доўга; траншэі і хады сувязі, адсечныя пазіцыі цягнуліся на 8—12 кіламетраў. Горад быў падрыхтаваны да доўгай і ўпартай абароны. Па асабістаму загаду Гітлера камандзір 53-га армейскага корпуса генерал ад інфантэрыі Гальвітцэр быў прызначаны ваенным камендантам Віцебска. Было загадана трымаць гэты раён да апошняга чалавека і патрона.

Разгром Віцебскай групіроўкі праціўніка ўскладваўся на 43-ю армію 1-га Прыбалтыйскага фронта і 39-ю армію 3-га Беларускага фронта.

У часе віцебскай аперацыі я камандаваў 39-й арміяй, якая змагалася з праціўнікам у складаных умовах. У ходзе наступлення нам давялося прасоўвацца па лясах і балотах, фарсіраваць раку Лучосу з абрывістымі берагамі і балоцістымі поймамі, прабірацца праз шматлікія рачулкі і раўчукі, дзе вораг мог наладзіць і ў кароткі тэрмін арганізаваць абарону.

На віцебскім выступе перад фронтам нашай арміі, на рубяжы Руба—Языкова, абарону займалі 6-я авіяпалявая і 206-я пяхотная дывізіі 53-га армейскага корпуса, 197-я і часці 299-й пяхотнай дывізіі. Гэта былі адборныя дывізіі, якія яшчэ ў пачатку вайны дзейнічалі ў складзе асноўнай групіроўкі нямецкіх войск, што рваліся на Маскву. Праўда, за гэты час іх склад значна абнавіўся, але ў іх яшчэ моцна трымаўся «дух непераможнасці», асабліва ў афіцэраў і генералаў.

Праціўнік старанна ўмацаваўся на ўсім абаранляльным рубяжы. Было збудавана 3—4 лініі траншэй з кулямётнымі пляцоўкамі, падбрустворнымі нішамі і бліндажамі. Амаль на ўсім працягу пярэдняга краю абароны былі дротавыя загароды і мінныя палі. Усе дарогі замініраваны, а масты на іх падрыхтаваны да ўзрыву. На найбольш важных напрамках стаялі дзоты, бронекаўпакі і закапаныя ў зямлю падбітыя танкі.

Найбольшая сістэма абароны апаясвала Віцебск. Усе цагляныя будынкі на ўскраінах былі прыстасаваны да абароны і злучаліся між сабой хадамі сувязі. На дахах былі кулямётныя і мінамётныя гнёзды, паміж дамамі стаялі замаскаваныя гарматы. У праціўніка была значная колькасць артылерыі. Усяго перад нашым фронтам было выстаўлена каля трохсот ствалоў артылерыі, 12 шасціствольных мінамётаў, 18 установак кідальных апаратаў. Пяхотныя дывізіі на плацдарме ўмацоўваліся двума артылерыйскімі палкамі з рэзерва нямецкага вярхоўнага Галоўнакамандавання.



Трэба сказаць, што суадносіны сіл і сродкаў у нас і ў праціўніка да пачатку наступлення былі амаль што роўныя. Гэта, безумоўна, прымушала наша камандаванне творча падысці да падрыхтоўкі і правядзення аперацыі. Шукаючы новыя, найбольш эфектыўныя стратэгічныя прыёмы і метады, мы прынялі рашэнне прымяніць у наступленні двухэшалоннае аператыўнае пастраенне.

Задача прарыву абароны праціўніка ўскладвалася на 5-ы стралковы корпус пад камандаваннем генерал-маёра І. С. Бязуглага. Корпус быў умацаваны танкавай брыгадай і двума танка-самаходнымі палкамі. На іх участку згуртоўвалася большасць штатнай і прыданай артылерыі, у тым ліку артылерыйскія палкі і 120-мм мінамёты дывізій другога эшалона.

Сканцэнтраваўшы галоўныя сілы на вузкім 6-кіламетравым участку, мы стварылі спрыяльныя ўмовы для нанясення галоўнага ўдару. Згодна нашай задумы, на трэці дзень наступлення асноўныя сілы арміі павінны былі нанесці ўдар на поўнач і на паўночны захад, выйсці да ракі Заходняя Дзвіна, злучыцца з войскамі 43-й арміі і акружыць асноўныя сілы праціўніка, размешчаныя ў Віцебскім раёне. А ў наступныя два дні—хутка расчляніць і разграміць акружаную варожую групіроўку.



На паўднёвым захадзе Віцебска каля вёскі Тарэлкі ішоў жорсткі бой. Кулямётчык, гвардыі старшына Мікалай Міхайлавіч Качанаў уварваўся на бронетранспарцёры ў вёску і адбіў 18 салдат свайго палка. Старшына ўзброіў іх, і, рынуўшыся ў бой, яны занялі важны рубеж. За гэты подзвіг на грудзях Мікалая Качанава побач з ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам «Славы» і медалем «За адвагу» паявіўся яшчэ адзін ордэн «Славы».

Камандаванне аддало асаблівую ўвагу дасканалай разведцы абаранляльных рубяжоў праціўніка, яго агнявых сродкаў,назіральных і камандных пунктаў, а таксама рэзерваў у раёне прарыву.

У перыяд атакі на пярэдні край і ў глыбіню абароны ў справу ўключылася і наша авіяцыя: штурмавікі «апрацоўвалі» пярэдні край, штабы і рэзервы праціўніка. Танкісты павінны былі вырашаць усе задачы разам з пяхотай. Інжынеры і сувязісты, якія самааддана папрацавалі да пачатку бою, атрымалі канкрэтныя заданні па забеспячэнню аперацыі ўсім, што неабходна ў баі. За справу ўзяліся сапёры і разведчыкі.

Як толькі пачалася разведка боем, фашысты адказалі контратакамі. Спачатку дробнымі групамі, а потым сілай да батальёна пры падтрымцы

артылерыі. У ходзе гэтых частых сутычак вывучалася сістэма агню праціўніка, яго метады адбіцця нашых удараў.

Рыхтуючыся да наступлення, Ваенны Савет і палітаддзел арміі звярнулі асаблівую ўвагу на ўзаемадзеянне палітычна-выхаваўчай работы ў часцях і падраздзяленнях. Усюды напярэдадні наступальнай аперацыі прайшлі сходы партыйнага актыву, партыйныя і камсамольскія сходы. Да пачатку наступлення ў нас не было ні адной роты, дзе б не было партыйнай арганізацыі.

Ля пярэдняга краю абароны праціўніка ішла напружаная работа. Байцы, сержанты, афіцэры навучаліся прыёмам наступлення следам за агнявым валам, трэніраваліся, як весці бой у траншэях, пераадольваць водныя перашкоды. Тут жа на вучэбным полі адбываліся партыйныя і камсамольскія сходы, дзе камуністы і камсамольцы бралі на сябе асабістыя заданні. Пра тых, хто заўсёды быў наперадзе, пісалі ў «Маланках», якія выдаваліся ў кожным падраздзяленні.

Перад уручэннем зброі маладым воінам усюды праводзіліся гутаркі, у якіх расказвалася пра ветэранаў вайны, пра баявыя традыцыі. На вопыце мінулых баёў паказвалася, як трэба берагчы зброю. Ва ўсіх траншэях вісеў лозунг: «Баец! Беражы зброю — у гэтым твая сіла і зарука перамогі». Неяк праводзілася гутарка пра абыходжанне са зброяй. Гвардыі чырвонаармеец 91-й Гвардзейскай стралковай дывізіі Смірноў заявіў: «Калі я свой аўтамат праверыў, пачысціў, прывёў у баявую гатоўнасць, я нікога не баюся. Ні адзін вораг не пройдзе ад кулі майго аўтамата!»

Зброя герояў, што загінулі ў баях, уручалася дастойным іх наследнікам. У 61-м Гвардзейскім стралковым палку ваяваў кулямётчык Запарожац. Ён гераічна загінуў у баях. Яго кулямёт быў уручан старшаму сержанту Ахметдзінаву. Прымаючы зброю, Ахметдзінаў пакляўся, што яго разлік памножыць баявую славу загінуўшага героя.

У часцях і падраздзяленнях наладжваліся сустрэчы ветэранаў з новым папаўненнем. Бывалыя воіны дзяліліся з навічкамі сваім вопытам, расказвалі пра тое, як трэба весці траншэйны бой, пераадольваць водныя перашкоды, змагацца з танкамі і г. д.

Вучоба праводзілася на месцы. З гэтай мэтай памочнікі начальнікаў палітаддзелаў дывізій па камсамолу шмат часу праводзілі ў камсамольскіх арганізацыях рот, навучаючы маладых камсоргаў сакратам работы з моладдзю. Вялікую выхаваўчую ролю ў той час адыграла прамова М. І. Калініна, якую ён сказаў на прыёме камсамольскіх работнікаў у Крамлі.

Ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях перад наступленнем прайшлі сходы з парадкам дня: «Нас чакае родная Беларусь». На гэтых сходах актыўна выступалі маладыя воіны. Усе яны заяўлялі: «У баі будзем дзейнічаць па-гвардзейску».

«Я камсамолец, — сказаў у сваім выступленні наводчык мінамёта 2-й роты 279-га Гвардзейскага стралковага палка Мікола Чарных. — Мне ўручана зброя героя-камсамольца Фокіна, які знішчыў 86 фашыстаў. Я клянуся памножыць гэты лік у баі. Не пашкадую жыцця, каб дасягнуць поўнай перамогі над ворагам.

Мікола Чарных, як і ўсе воіны, пры прарыве абароны праціўніка стрымаў сваё слова: ён знішчыў пяць кулямётных кропак і 24-х гітлераўцаў. Ён атрымаў узнагароду — ордэн Славы 3-й ступені.



**Гвардзейцы-артылерысты пад камандаваннем маёра Васіля Елісеевіча Баранава асабліва вызначыліся ў баях на паўднёвым захадзе Віцебска. Гвардыі маёр В. Е. Баранаў атрымлівае ордэн Аляксандра Неўскага з рук камандзіра палка Віктара Мацвеевіча Купіна.**

Перад боем камсамолец Марозаў з 2-й стралковай роты 61-й Гвардзейскай дывізіі заявіў: «Я ўжо тры разы хадзіў у наступленне і, як усе камсамольцы, быў наперадзе. У наступных баях буду змагацца яшчэ лепш».

Калі пачаўся бой, таварыш Марозаў першы пайшоў ў атаку і ў траншэі закалоў двух гітлераўцаў. Пры фарсіраванні ракі Лучосы ён быў паранены, але не пакінуў поля бою, а разам са сваімі сябрамі Асташыным і Міцюковым захапіў у палон пяцярых немцаў.

За некалькі дзён да наступлення гатоўнасць нашай арміі правяраў прадстаўнік Стаўкі галоўнага камандавання маршал А. М. Васілеўскі. Мы разам з камандуючым фронта генерал-палкоўнікам І. Д. Чарняхоўскім сустрэлі маршала на камандным пункце арміі, які знаходзіўся ў васьмістах метрах ад пярэдняга краю. Я падрабязна далажыў план аперацыі — паказаў на мясцовасці, як будзе арганізавана ўзаемадзеянне. Пасля абмену думкамі план быў зацверджан.

Пачалі збірацца назад. Але як? Было зразумела, што вяртацца той самай дарогай, якой ехалі сюды, было рызыкоўна. Бо прыкладна праз дзвetры хвіліны, як мы праехалі адкрыты ўчастак дарогі, сюды паляцелі варожыя снарады. У такой абстаноўцы было вырашана — вяртацца з назіральнага пункта ў аўтамабілі «ГАЗ-47» па шасейцы Орша — Віцебск, якая праходзіла ля пярэдняга краю і толькі на невялікіх участках праглядвалася праціўнікам. Разлік быў просты: немцы ўсю сваю ўвагу сканцэнтравалі на ўжо абстраляным участку і не падумаюць, што на аўтамашыне, побач з пярэднім краем можа ехаць начальства. Мы праехалі ўдачна. Шафёр старшына Рыгор Галавін добра вёў «газік». І маршал А. М. Васілеўскі і генерал І. Д. Чарняхоўскі, падзякаваўшы шафёру, жартавалі з выпадку гэтага ўдалага «манеўру».

Як жа адбываўся прарыў абароны праціўніка?

23-га чэрвеня ў шэсць гадзін раніцы пачаўся магутны артылерыйскі налёт па ўсіх траншэях і пазіцыях на ўсю глыбіню абароны. Агонь быў трапны і дакладны. Асабліва эфектыўны ён быў па варожых батарэях. На першым часе праціўнік спрабаваў адстрэльвацца, але ўжо хутка інтэнсіўнасць яго агню прыкметна знізілася, а потым і амаль зусім спынілася.

Актыўна дзейнічалі ў артылерыйскай падрыхтоўцы танкі і самаходна-артылерыйскія ўстаноўкі. Выйшаўшы на загадзя падрыхтаваныя пазіцыі, яны агнявой наводкай знішчалі цэлі, указаныя ім яшчэ ў ходзе падрыхтоўкі да наступлення.

Стралковыя падраздзяленні пры падтрымцы агню артылерыі, танкаў і самаходных установак імклівым кідком пераадолелі першую і другую траншэі праціўніка. Узаемадзеянне ўсіх элементаў баявога парадку было выключна дакладнае. Дні напружанай вучобы далі свой плён. Салдаты, сержанты, афіцэры вялі бой у высокім тэмпе і паказалі добрую тактычную вывучку.

Загадзя створаныя групы захопу мастоў рухаліся ў баявых парадках батальёнаў першага эшалона і адразу ж пасля прарыву другой траншэі накіраваліся да мастоў і непрыкметна выйшлі да ракі Лучосы. Некаторыя прарваліся на заходні бераг ракі, завязаўшы бой з сапёрамі, што ахоўвалі масты. Гэтыя невялічкія падраздзяленні падтрымліваліся агнём танкаў і самаходак з усходняга берагу.

Як заўсёды, камуністы і камсамольцы наступалі ў першых радах, паказваючы сваім прыкладам узоры адвагі і гераізму.

Усёй арміі стала вядома імя камсорга 1-га сапёрнага батальёна 19-й Гвардзейскай стралковай дывізіі гвардыі лейтэнанта Міхаіла Дружыніна, які з групай салдат захапіў мост на рацэ Лучоса. Рызыкуючы жыццём, ён першы ўскочыў на мост, перарэзаў правады ад фугасаў, закладзеных пад мостам, расстраляў з аўтамата ахову, перабраўся з двума байцамі на другі бераг і ахоўваў мост, адбіваючы атакі праціўніка да падыходу нашых падраздзяленняў.

Камандзір 2-й танкавай роты гвардыі старшы лейтэнант Цымбал і камандзір узвода гвардыі лейтэнант Галакціёнаў першымі выйшлі да шасцідзесяцітоннага моста праз Лучосу і захапілі яго. Камандзіры 1-й батарэі старшы лейтэнант Аўчыннікаў і 2-й батарэі старшы лейтэнант Калібардэн-

ка асабіста размініравалі 24-тонны мост і вывелі батарэі на заходні бераг. У кароткім баі ім удалося захапіць тры спраўныя масты, па якіх адразу ж пачалі перапраўляцца асноўныя сілы 28-й Гвардзейскай танкавай брыгады, самаходныя ўстаноўкі і артылерыя.

Пра тое, як змагаліся нашы слаўныя танкісты, дакладваў у сваім баявым данясенні камандзір брыгады палкоўнік Е. М. Кавалёў. «Нашы танкі, — пісаў ён, — згуртаваліся на зыходных пазіцыях. Яшчэ не закончылася артпадрыхтоўка, а ўжо радыст гвардыі старшы сяржант Сакалоў прыняў загад: «Наперад!» Першай рынулася галаўная машына гвардыі лейтэнанта Галакціёнава. Пераадолеўшы раку, танк выскачыў на бераг, страляючы па траншэях праціўніка. Пад яго гусеніцамі знайшлі сабе магілу многія гітлераўцы. Суправаджаючы пяхоту, танкісты расстралялі дзве варожыя гарматы і кулямётную кропку. Пад вечар уварваліся на чыгуначную станцыю. Хутка ўспыхнуў склад з боепрыпасамі.

Калі падышлі нямецкія «фердынанды», экіпажу стала цяжка. Насоўвалася ноч, канчаліся боепрыпасы. Гітлераўцы з дапамогай «фердынандаў» спрабавалі захапіць танк. Снарадам папсавала гусеніцу. Механік-вадзіцель выйшаў з машыны. Не зважаючы на агонь, ён вырашыў змяніць перабітыя тракі. Працаваў, пакуль немцы не падышлі блізка да машыны.

— Мы ўсе, камуністы, — сказаў камандзір экіпажа Галакціёнаў, — будзем біцца да апошняга!..

У танкістаў заставалася ўсяго некалькі гранат. Немцы былі побач, акружылі машыну, кідаючь гранаты. Падышлі яшчэ бліжэй, некаторыя ўжо ўзбіраліся па брані, да вежы.

— Давай! — крыкнуў Галакціёнаў механіку-вадзіцелю.

Матор зароў, і танк рынуўся з месца, пачаў давіць гітлераўцаў. Адстрэльваючыся, танкісты прабіліся да сваіх.

Інжынерныя падраздзяленні атрымалі магчымасць расшырыць праходы ў мінных палях, памаглі ліквідаваць скопішчы машын і фурманак на дарогах. Стралковыя падраздзяленні, авалодаўшы другой траншэяй, выйшлі на ўсходні бераг Лучосы і ўжо раніцай 23-га чэрвеня пачалі фарсіраваць раку на ўсім фронце. Тым часам артылерыя апрацоўвала трэцюю траншэю. З усходняга берагу дзейнічалі танкі і самаходкі.

Насцігаючы праціўніка, злучэнні 5-га гвардзейскага корпуса імкліва пасоўваліся ў глыбіню варожай абароны. На другі дзень яны захапілі станцыю Замасточча, перарэзаўшы чыгунку Віцебск — Орша. Такім чынам, галоўная паласа абароны была прарвана на ўсю глыбіню, і задача першага дня аперацыі была вырашана.

Поспех быў дасягнуты дзякуючы нечаканасці ўдару, высокаму маральна-палітычнаму стану войск. У тактычных адносінах вельмі важным было тое, што нам удалося захапіць тры спраўныя масты, па якіх хутка здолелі пераправіцца танкі, цяжкая артылерыя, рэзервы. І праціўнік разгубіўся, не здолеў нават часткова затрымаць нашы войскі на такім зручным рубяжы, як рака Лучоса.

Захоплены ў палон камандзір 197-й пяхотнай нямецкай дывізіі палкоўнік Прой пісаў: «Нашы войскі не вытрымалі знішчальных удараў рускіх і пачалі адступаць, не маючы на тое загаду. Рускія насцігалі нас, расчлянялі нашы палкі і наносілі цяжкія страты. Наша становішча пагаршалася з кожнай мінутай. Палкі таялі літаральна на вачах. Салдаты кідалі зброю, транспартныя сродкі, боепрыпасы, ваенную маёмасць і нават асабістую зброю і, як апантаныя, разбягаліся...»

На галоўным напрамку арміі дзейнічалі часці і злучэнні 84-га стралковага корпуса. Адначасова ў наступленне перайшлі і два палкі 262-й стралковай дывізіі. Яны пад прыкрыццём дымавой заслоны ўварваліся ў першыя заслоны праціўніка. У напрамку Віцебска невялікімі атрадамі дзейнічала 158-я стралковая дывізія. Яна к вечару 23-га чэрвеня авалодала важным апорным пунктам на подступах да Віцебска з усходу.

У шэсць гадзін раніцы 24-га чэрвеня 1944 года галоўныя сілы 39-й арміі аднавілі наступленне па ўсім фронце. Акрыленыя дасягнутым поспехам, упэўненыя ў сваіх сілах, воіны пачалі гнаць праціўніка, не даючы яму спыніцца і замацавацца на зручных і загадзя падрыхтаваных рубяжах.

Гвардзейцы 5-га стралковага корпуса яшчэ ў сярэдзіне дня выйшлі на шасейку Віцебск — Астроўна — саўгас «Ходцы», перарэзаўшы шляхі адыходу Віцебскай групіроўкі на паўднёвы захад.

Удала дзейнічалі самаходчыкі і танкісты. К вечару нашы танкі падышлі да шасейкі Віцебск — Гняздзілавічы. Якраз на дарозе была велізарная калона нямецкіх аўтамашын і фурманак, якія спяшаліся выбрацца з катла. Гвардзейцы рынуліся ў атаку.

У гэтым баі цудоўны подзвіг праявіў камандзір танкавай роты гвардыі старшы лейтэнант Кулікоў. Ахопленую полымем машыну камуніст Кулікоў накіраваў на ворага. Камандзір згарэў у танку, загінулі і яго баявыя сябры — члены экіпажа, але да канца выканалі свой абавязак.

К вечару таго ж дня гвардзейцы-пехацінцы выйшлі на паўднёвы бераг Заходняй Дзвіны. Такім чынам, пад канец другога дня наша армія акружыла групіроўку нямецка-фашысцкіх войск у раёне Віцебска.

Застаўся ззаду магутны пояс абарончых збудаванняў. Пачалася пагоня за праціўнікам. Дзень і ноч рухалася пяхота, збіваючы немцаў з прамежкавых рубяжоў. З пяхотай — артылерысты. Па балотах, праз лес прабіралася батарэя, якой камандаваў гвардыі капітан Канстанцін Бабошка. Батарэйцы раніцай прабіліся да месца, дзе сабраліся гітлераўцы. На крутым беразе рэчкі разгарнуліся. Ударылі залпы. Захопленыя знянацку, гітлераўцы не ведалі, куды ўцякаць. Пакуль падаспелі асноўныя сілы, вораг ужо быў выбіты з вёскі.

За час наступлення на рахунку гвардыі капітана Бабошкі стала 14 падбітых нямецкіх танкаў, ён толькі ў адным баі знішчыў звыш 100 фашыстаў. Бясстрашнаму артылерысту было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

25-га чэрвеня 1944 года войскі 39-й арміі ўварваліся ў Віцебск. Разгарэліся ўпартыя вулічныя баі. Над горадам залунаў першы чырвоны сцяг. Яго ўмацаваў на адным з адбітых дамоў камсорг 881-га стралковага палка малодшы лейтэнант Сяргей Якшын. Гэта вестка хутка разнеслася ў палку. За дзве гадзіны бою ў ворага былі адбіты чатыры кварталы, і 16 сцяжкоў залунала на адваяваных будынках.

У баях за Віцебск, як і ў шматлікіх наступальных баях, воіны праявілі масавы гераізм і адвагу. Вось яркі прыклад.

Успыхнуў бой на Смаленскай вуліцы. Сяржант 875-га стралковага палка камсамолец Камолаў апынуўся ў гушчы немцаў. З крыкам «ура!» ён кінуўся на іх, дзесяцярых скасіў аўтаматам, а васьмярых забраў у палон.

## ФОТАЛЕТАПІС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ



Рэйкавая вайна. На ўчастку паміж станцыямі Цімкавічы — Слуцк дзейнічалі партызаны брыгады імя Пархоменкі.

## ФОТАЛЕТАПІС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Прывал на маршы. Брыгада імя Кірава з Пінскага злучэння партызан. Лістапад 1943 года.



Адвёўшы іх на НП, ён з двума байцамі вярнуўся на гэту вуліцу. На адным з будынкаў заўважыў кулямёт і закідаў яго гранатамі, знішчыўшы пяць фашыстаў. Потым, паранены ў баі за мост, ён працягваў змагацца і адным з першых уварваўся на мост, дапамогшы ўратаваць яго ад узрыву.

Такіх прыкладаў было многа. Простыя воіны праяўлялі гераічныя подзвігі. Наперадзе былі камуністы і камсамольцы. Такія, як, напрыклад, камсорг другога батальёна малодшы лейтэнант Антон Жучкін, які сваім прыкладам падняў роту ў атаку.

Настала ноч, але баі за горад не заціхлі. А палове чацвёртай гадзіны 26-га чэрвеня часці 158-й стралковай дывізіі пасля моцнага агнявога налёту фарсіравалі раку Заходняя Дзвіна і ўварваліся ў цэнтр горада. Вельмі важна было захапіць яшчэ не ўзарваны мост праз Заходнюю Дзвіну. За гэту справу ўзяўся сапёрны ўзвод пад камандаваннем сержанта Ф. Блахіна. Уначы сапёры ў кароткім баі знішчылі варту. Фашысты ўсё ж паспелі запаліць бікфордаў шнур, але Блахін разам з яфрэйтарам М. Кузянковым, рызыкуючы жыццём, кінуўся наперад, выцягнуў запалы і абясшкодзіў толавы зарад. Пад мостам аказалася да двух тон узрыўчаткі. Раніцай савецкія танкі і артылерыя памчаліся па ім далей на захад. Сержанту Ф. Блахіну было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На мемарыяльнай дошцы, устаноўленай на мосце пасля вайны, высечаны словы: «Гэты мост 26 чэрвеня 1944 года ў жорсткай схватцы з фашысцкімі акупантамі быў уратаваны ад падрыву групай байцоў Героя Савецкага Саюза Ф. Т. Блахіна».

Пад раніцу 26-га чэрвеня Віцебск быў поўнасцю ачышчаны ад фашыстаў. У ходзе баёў за горад была захоплена вялікая колькасць палонных, ваеннай тэхнікі і 52 склады з рознай ваеннай маёмасцю.

Поспехі салдат, сержантаў, афіцэраў і генералаў былі высока ацэнены партыяй і савецкім урадам. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях у ходзе гэтай аперацыі, урадавыя ўзнагароды атрымалі 11427 чалавек. Двойчы Вярхоўнае Галоўнакамандаванне выносіла падзяку ўсяму асабоваму складу нашай арміі за паспяховыя дзеянні па разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Многія злучэнні і часці арміі былі ўзнагароджаны ордэнамі, большасць злучэнняў і часцей атрымала найменаванне «Віцебскіх».

Было б няправільна бачыць ва ўсім, што зроблена войскамі 39-й арміі ў гэтай аперацыі, нейкія яе асаблівыя заслугі. Гэта адзін з прыкладаў, які сведчыць аб тым, як узрасло ў ходзе вайны воінскае майстэрства, ударная сіла і баявыя магчымасці ўсіх Узброеных Сіл Савецкага Саюза. Улетку 1944 года наша армія была ўжо не тая, якой яна была на пачатку вайны. Значна ўзрасло яе тэхнічнае аснашчэнне, і, самае галоўнае, павысілася ваенная падрыхтоўка нашых салдат і афіцэраў. Яны ўжо добра ведалі свайго ворага і набылі вопыт барацьбы з ім.

# ХЛОПЦУ ТАДЫ БЫЛО ТРЫНАЦЦАЦЬ



9 ліпеня 1941 года Віцебск занялі фашысты. У той жа дзень у горадзе пачаліся арышты, рабункі, расстрэлы. Сотні камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных актывістаў былі кінуты ў турмы, казематы і засценкі.

Трынаццацігадовы навучэнец чыгуначнага вучылішча Васіль Арлоўскі таксама быў схоплен фашыстамі на вуліцы.

— Зольдат, палон, — тыцнуў гітлеравец аўтаматам у грудзі хлопцу.

— Я вучань,—спрабаваў растлумачыць Васіль.

— Нікс гут, зольдат!..

Хлопец апынуўся ў лагеры ў Гарадку. Там ужо было больш трох тысяч савецкіх людзей, сагнаных з горада і вёсак.

«Расстраляюць, гады!» — мільганула думка ў хлопца.

На другі дзень пад дуламі аўтаматаў мнагалюдны натоўп пагналі фашысты ў Бешанковічы. Была нясцерпная гарачыня. Голад і смага мучылі людзей. Многія падалі. Іх тут жа прыстрэльвалі.

Калі ішлі праз адну вёску непадалёку ад Бешанковіч, стары вынес і падаў у натоўп бохан хлеба. Адразу чорныя дулы аўтаматаў нацэліліся на дзеда.

— Што вы робіце, душагубы! — пачулася з натоўпу.

Але фашыст прашыў чаргой з аўтамата і старога і жанчыну, якая ўхапіла бохан.

У Бешанковічах групамі па пяцьдзесят чалавек гітлераўцы ганялі людзей да Дзвіны напіцца вады.

— Трэба ўцякаць! — падзяліўся думкай Васіль са сваім сябрам.

Увечары, ідучы па ваду, яны выкарысталі момант, калі зазяваўся канваір, і ўцяклі.

Васіль Арлоўскі вярнуўся ў Віцебск і пачаў шукаць сваіх таварышаў па вучылішчу.

Ішлі дні, тыдні. Па начах у горадзе нехта раскідваў лістоўкі, нехта прыбіў вартавога, нехта спаліў склад...

— Ёсць, значыць, людзі, якія, рызыкуючы жыццём, дзейнічаюць, — гаварыў Васіль сваім таварышам.

А потым не сцярпеў і ў бацькі запытаўся:

— Што нам рабіць, тата?

— Самі падумайце,— усміхнуўшыся, адказаў бацька.

— А мы ўжо думалі, — ажывіўся сын. — Трэба, каб хто-небудзь у нас быў за старэйшага, намі кіраваў...

Васіль пазнаёміўся з адным ваеннапалонным. Потым з другім. Праз хлопцаў, якія служылі ва ўправе, здабыў пропускі і перадаў іх ваеннапалонным, каб яны маглі ўцячы з лагера.

13 лістапада 1941 года ў дом да Арлоўскіх прыйшлі паліцаі. Накінуліся на Васіля:

— Збірайся!

— Што такое? Каго вы шукаеце?

— Не размаўляць!

І яго адправілі ў турму на Суражскую. Доўга здзекаваліся, яго білі, адлівалі вадою і зноў пыталіся:

— З кім маеш сувязь?

— Нічога я не ведаю.

— Каму перадаваў пропускі?

— Нікому.

— Дзе партызаны?

— Ніякіх партызан я ў вочы не бачыў.

— У гестапа! — быў кароткі прысуд юнаку.

Яго кінулі ў халодны каменны падвал. І зноў білі, катавалі. Нічога не выцягнуўшы з хлопца, яны вымушаны былі яго выпусціць, бо не мелі ніякіх прамых доказаў.

Васіль і яго сябар Уладзімір Казлоўскі па заданню падпольнай камсамольскай групы распаўсюджваюць лістоўкі, наладжваюць дыверсіі.

Падкладзеныя Васілём міны адправілі на той свет не аднаго фашыста.

Сёння Васіль Мікалаевіч Арлоўскі працуе ў Віцебску, аператарам на домабудаўнічым камбінаце. Ён адзін з перадавых байцоў пярэдняга краю сямігодкі.

**Алесь ПОЗНЯК,**
**рэдактар газеты «Віцебскі рабочы».**

Фота **Н. СІВАКОВА.**

# СТАРОНКІ СУРОВАГА ЖЫЦЦЯ

По вечарах у лабараторыі эксперыментальнай фізікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна ярка гарыць святло. За вокнамі шум вячэрняга горада, а тут цішыня. Заклаўшы рукі за спіну, па блішчастым паркеце ходзіць высокі чалавек. Часам ён спыняецца, падсядае да стала, робіць вылічэн-



ні. І зноў ходзіць. Цягнуцца гадзіна за гадзінаю, за вокнамі гусцее змрок, сціхае горад, а Іван Іванавіч Пятроўскі, дацэнт кафедры эксперыментальнай фізікі і электронікі, усё працуе.

У Івана Іванавіча выключная ўлюбёнасць у сваю справу. І працавітасць. Яго навуковыя даследаванні ў тэорыі паўправаднікоў маюць вялікае значэнне для развіцця шмат якіх галін нашай прамысловасці. Па яго падручніку «Элементы электронікі і тэорыі паўправаднікоў» вучацца студэнты.

Іван Іванавіч сваімі лекцыямі ўмее захапіць студэнцкую аўдыторыю. Захапіць не толькі глыбокім веданнем курса, які выкладае, але і непасрэднасцю, шчырасцю. Адкуль такая непасрэднасць? Над гэтым я часам задумваўся, пакуль не здарылася адна нагода.

Мне, яго таварышу па рабоце, неяк давялося быць у Івана Іванавіча на наваселлі. Бралася вясна. У расчыненыя вокны ліўся мяккі вецер, насычаны свежасцю і цеплынёй. Ва ўсіх быў цудоўны настрой.

Адзін з гасцей папрасіў, каб гаспадар сыграў што-небудзь. Прызнацца, я дванаццаць гадоў працаваў разам з Іванам Іванавічам і не ведаў, што ён іграе на баяне.

Перакінуўшыся з сябрамі кароткім, цёплым позіркам, гаспадар узяў у рукі баян і ціха заспяваў:

Ой, полна моя коробушка:
Есть и тол, и шнур, и запал,
Вьется змейкою зазнобушка—
Партизанская тропа...

— Ваня заўсёды іграў і спяваў гэту песню, калі мы збіраліся «на жалезку»,—шапнуў мне сусед.

У той вечар Іван Іванавіч расказваў шмат цікавага пра свае партызанскія будні.

...Калі пачалася вайна, Івану Пятроўскаму—хлопцу з пасёлка Талька—не было семнаццаці гадоў. Пад восень 1941 года ён разам з Алёшам Пармонам, Міколам Кульчыцкім і Іванам Абрамовічам падарваў на станцыі варожы эшалон з гаручым. Гестапаўцы схапілі Алёшу Пармона і павесілі ў пасёлку на тэлеграфным слупе. Але гэта не спалохала юных мсціўцаў.

Не прайшло і тыдня, як Іван Пятроўскі з таварышамі падклаў міну пад чыгуначны мост у Тальцы. Гэта ў знак помсты за Алёшу.

1942 год. Гарачым чэрвеньскім днём Іван Пятроўскі пайшоў у лес, да партызан, у брыгаду «Полымя», з якой трымаў сувязь. І адразу ж папрасіўся, каб назначылі яго падрыўніком.

— А ведаеце, малады чалавек, што падрыўнік памыляецца толькі адзін раз у жыцці?—папярэдзіў хлопца камандзір атрада Яўген Фёдаравіч Філіпскіх.

— Ведаю. Пра гэта думаў. І вырашыў...

Навічка накіравалі ў падрыўную групу Анатоля Матусевіча. Падрыўнікі выплаўлялі тол з боепрыпасаў і рабілі міны. Гэта вельмі тонкая справа, якая патрабавала кемлівасці, дакладнасці, ну, і, вядома, смеласці.

Іван Пятроўскі вельмі хутка навучыўся рабіць націскныя міны. Увесь дзень ён працаваў, не разгінаючыся, а ўвечары, калі згушчалася лясная цемень, браў баян, выходзіў з зямлянкі, прыхінаўся плячуком да дрэва і пачынаў паціху іграць...

...У штабе брыгады сабраліся камандзіры, камісары і падрыўнікі. Іван Пятроўскі прынёс новую міну, якую ён сам сканструяваў.

— Гэта для падрыву эшалонаў,—пачаў ён ціха.—Мы раней падкладвалі пад рэйку міну і цягнулі ад яе шнур. Па шнуру вартавыя часта знаходзілі міну. Гэту міну мы таксама будзем падкладваць пад рэйку, але перад мінай паставім стойку—кавалак дроту ці шомпала—і злучым яе дроцікам з чакой. Пярэднія кола паравоза зрушыць стойку, яно вырве чаку і грымне выбух...

Камбрыг Яўген Фёдаравіч уважліва слухаў Пятроўскага, а калі той скончыў, сказаў:

— Што ж. Трэба правесці выпрабаванне.

Назаўтра ноччу на чатырнаццатым кіламетры ад Пухавіч у цёмнае неба шугануў слуп яркага полымя. Здрыганулася зямля. Гэта трымала экзамен міна Івана Пятроўскага.

Хутка яго метадам падрывалі эшалоны ў многіх партызанскіх брыгадах. Іван Пятроўскі тое лета пусціў пад адхон восем варожых эшалонаў. За баявыя подзвігі ён атрымаў высокую ўзнагароду—ордэн Чырвонага Сцяга.



Іван Пятроўскі. Партрэт напісан партызанам-мастаком Уладзімірам Сухаверхавым.

Быў канец снежня 1942 года. Атрад выступіў ноччу, каб перад раннем уварвацца ў варожы гарнізон, а днём вярнуцца ў лагер. Ішлі баявым парадкам. Уперадзе разведка, на сваіх месцах бакавыя і тылавыя дазоры. Незвычайная ціша ў лесе. Ад яе, здавалася, аж звінела ў вушах. Нібы мёртвыя, шчыльнай сцяною стаялі елкі і хвоі.

Узвод Івана Пятроўскага наступаў, як кажуць, у лоб на гарнізон у Валачанцы. Паводле плана першы ўзвод павінен быў заняць увагу гітлераўцаў, а тым часам два ўзводы, якія пайшлі ў абход, меліся нанесці моцны ўдар па ворагу.

Узвілася чырвоная ракета. У гэты момант усіх нібы віхура падхапіла—партызаны кінуліся ў атаку. Варожыя кулямёты пачалі агрызацца. Фашысты сабралі шмат сіл. Адначасова ў гарнізон уварваліся першы і другі ўзводы. Не прайшло і гадзіны, як гарнізон быў знішчаны. Іван Пятроўскі з поспехам справіўся са сваёй баявой задачай—здаў экзамен на партызанскага камандзіра.

У тую ж зіму здарылася так, што некалькі фашысцкіх палкоў адразу напалі на партызанскую брыгаду. Увесь дзень грымелі гарматы, рваліся снарады, міны, дзесяткі варожых кулямётаў, сотні аўтаматаў абрушылі агонь на брыгаду. Прыйшлося адыходзіць. Партызаны ўзвода, якім камандаваў Іван Пятроўскі, прыкрывалі адыход. Увесь дзень ляжалі яны пад перакрыжавальным агнём варожых кулямётаў

## ФОТАЛЕТАПІС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ



Партызаны ў засадзе.

ФОТАЛЕТАПІС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ



Чэрвеньскі падпольны райком камсамола на пасяджэнні. У цэнтры—сакратар райкома Станіслаў Пілатовіч.

і не далі фашыстам магчымасці прасунуцца ўперад ні на крок. У гэты час брыгада вырвалася з акружэння і зайшла ворагу ў тыл.

На другі дзень пасля ўдала праведзенай аперацыі Іван Пятроўскі быў прыняты кандыдатам у члены партыі.

...Прайшла яшчэ адна нялёгкая ваенная зіма. Вясною Івана Пятроўскага прызначылі памочнікам камісара па камсамолу атрада «Уперад». І гэта падабалася маладым партызанам.

Вясёлы месяц у лесе — красавік. Уранні і ўвечары лес аж звініць ад птушыных спеваў. Аднойчы ў такі вечар Івана Пятроўскага паклікалі ў штаб брыгады, азнаёмілі з планам разгрому паліцэйскага гарнізона ў Ганутаве. На атрад ускладалася задача: зняць вартавых, знішчыць у дзотах і бункерах агнявыя пункты ворага і расчысціць дарогу атраду. Толькі хуткасць магла забяспечыць удачу над ворагам, сілы якога былі ўдвая большыя.

Партызаны прыцемкам выйшлі з лесу. Ля Ганутава кожны ўзвод заняў сваю пазіцыю. Падрыўнікі разам з Іванам Пятроўскім асцярожна папаўзлі да дзотаў. Хутка ўзвілася чырвоная ракета, а потым белая. Адразу з двух бакоў секануў кулямётны агонь. І тут жа грымнулі адзін за другім выбухі. Два варожыя кулямёты змоўклі. Трэці кулямёт і некалькі аўтаматаў ворага абрушылі агонь на другі і трэці ўзводы, якія падрыхтаваліся да атакі.

Настаў крытычны момант. Атака партызан магла б захлынуцца. Але ў гэты момант пачуўся голас:

— За мной! Уперад! — Іван Пятроўскі падняўся на ўвесь рост і кінуўся ў атаку. А за ім — увесь узвод. Партызаны на хаду кідалі гранаты. Узвод прабіўся праз агнявую заслону і ўварваўся ў гарнізон. За ім пайшлі другі і трэці. Праз вокны і дзверы ў споднай бялізне выскоквалі разгубленыя фашысты. Іх знішчалі агнём з аўтаматаў.

Бой заціх толькі пад раніцу. Ганутаўскі гарнізон змоўк назаўсёды.

* * *

Даўно ўжо адгрымелі гарматы, пазарасталі партызанскія сцежкі. Колішнія юнакі ўжо даўно пасталелі. Мінула даўно пара пасталення і ў Івана Іванавіча Пятроўскага. За плячыма — вялікае жыццё. Але ў вольны час не-не ды і прыгадаюцца хвалюючыя старонкі суровага юнацтва.

**Язэп ЗАЗЕКА.**

**ФОТАЛЕТАПІС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ**

**Першыя дні пасля вызвалення ў вёсцы Бытча, на Барысаўшчыне. Ідзе аднаўленне калгаса.**





# У НОВЫМ НАВУКОВЫМ ЦЭНТРЫ

Усё тут нова, молада — і людзі і іх справы. Мне ўспамінаецца час, калі нарадзіўся гэты навуковы цэнтр. Была невялікая група студэнтаў механічнага факультэта Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. І кіраўнік — кандыдат тэхнічных навук Уладзімір Белы.

Маладыя вучоны праяўляў зайздросную цікавасць да новых канструкцыйных матэрыялаў, на аснове палімераў бачыў у іх вялікую будучыню. Неўзабаве было вырашана стварыць лабараторыю тэхнічнай механікі, якую пераўтварылі потым у лабараторыю механікі палімераў Акадэміі навук БССР. Так узнік новы навуковы цэнтр.

Галоўным напрамкам у дзейнасці Гомельскага навукова-даследчага цэнтра з'яўляецца ўсебаковае вывучэнне фізіка-механічных уласцівасцей палімерных матэрыялаў, стварэнне тэарэтычных асноў канструявання і разліку вырабаў з пластмас. Паўстала сур'ёзная за-



**Ля пульта кантролю выпрабавання палімерных зубчатых колаў тэхнік-наладчык Якаў Кананенка.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

**Лабараторыю наведала група вучоных АН СССР на чале з акадэмікам В. А. Каргіным** (злева).

Фота **П. Белавуса.**





Буднікаў. Бой за Дняпро.



С. Іваноў. Перасяленцы.

С. Іваноў. Вясна.



Я. Зайцаў. Парад партызан. 1944 год.





**Лабараторыя тонкапластовых палімерных пакрыццяў. Уладзімір Лосеў і Яўген Пілянкоў сочаць за працэсам пакрыцця.**
Фота **С. Чырэшкіна.**

дача — усебакова вывучыць уплыў розных тэхналагічных фактараў на ўласцівасці матэрыялаў.

Каб уявіць, наколькі вялікі аб'ём гэтых работ, дастаткова сказаць, што ўсе пытанні, звязаныя са стварэннем асноў праектавання абсталявання, з разлікамі пластмасавых дэталей, тэхналогіі перапрацоўкі пластмас у вырабы, неабходна было часта вырашаць толькі дастасоўна да аднаго пэўнага палімернага матэрыялу. А такіх матэрыялаў ужо цяпер многа, і колькасць іх увесь час расце. Гэта паліаміды, шклопластыкі, паліформальдэгіды, паліпрапілен, рэцінакс, палікарбанат, паліэтылен, дрэвапластыкі і іншыя. Прычым кожны з гэтых матэрыялаў валодае цэлым комплексам толькі яму аднаму ўласцівых фізіка-механічных, хімічных, дыэлектрычных і іншых уласцівасцей.

Маладым навуковым супрацоўнікам давялося самім распрацоўваць, канструяваць і вырабляць зусім новае спецыяльнае абсталяванне — выпрабавальныя машыны і стэнды, прыборы і цэлыя агрэгаты для перапрацоўкі пластмас. У той жа час яны сваімі рукамі, не баючыся чарнавой работы, рабілі розныя прыбудовы да невялікіх асноўных памяшканняў, рабілі фундаменты пад створанае імі ж абсталяванне, распрацавалі цэлы комплекс машын. Некаторыя з іх аказаліся прыгоднымі не толькі для ўласных патрэб, але і для перапрацоўкі пластмас ва ўмовах дробнасерыйнай вытворчасці. Сотні прамысловых прадпрыемстваў, навукова-даследчых інстытутаў і розных арганізацый папрасілі тады ў гамяльчан чарцяжы на створаныя імі ўстаноўкі і агрэгаты.

Далейшае даследаванне фізіка-механічных уласцівасцей палімераў прымусіла падумаць над стварэннем новых і мадэрнізацыяй выпрабавальных вымяральных машын, прыбораў і прыстасаванняў. Цяпер, вядома, прыемна гаварыць пра нядаўна створаную ўстаноўку для ліцця, адзначаную на ўсесаюзным конкурсе Ганаровай граматай. А колькі ўклалі ў гэту справу творчых задум і працы яе аўтары — маладыя інжынеры Валянцін Саўкін, Мікалай Клімашэвіч і Эдуард Канавалаў на чале з кіраўніком Уладзімірам Белым.

Буйнагабарытныя дэталі з тэрмапластаў, якія маюць форму цел вярчэння, не ўдавалася зрабіць метадам ліцця пад ціскам. Патрэбен быў новы метад — цэнтрабежнага і цэнтрабежна-вакуумнага ліцця. І вось гэты метад для вырабу рэчаў з пластмас пачаў упершыню ў краіне распрацоўвацца і даследавацца тут. Гамяльчане спраектавалі і зрабілі цэнтрабежную ўстаноўку з гарызантальнай, а потым і вертыкальнай восямі.

Не ўсё, аднак, можна было зрабіць сваімі сіламі. І тады на дапамогу прыходзілі калектывы гомельскіх прамысловых прадпрыемстваў — заводы «Гомсельмаш», станкабудаўнічы імя Кірава, машынабудаўнічы «Рухавік рэвалюцыі» і іншыя. Такая сувязь навукі і вытворчасці была ўзаемавыгадная. З аднаго боку яна памагала вучоным лепш аснасціць аддзел неабходным лабараторным абсталяваннем, падказвала тэматыку тэарэтычных даследаванняў і практычных работ, а з другога — прамысловыя прадпрыемствы, транспарт і будоўлі ўкаранялі дасягненні навукі ў вытворчасць.

Вядома, памагаючы стварыць базу аддзела механікі палімераў, не кожны гаспадарнік разумеў у той час, якую аддачу атрымае прадпрыемства. Гэта адчулася пазней, калі навуковыя супрацоўнікі сталі канструяваць машыны і механізмы, распрацоўваць тэхналогію ператварэння палімерных матэрыялаў і перадаваць іх на прадпрыемствы, памагаючы на месцы ўкараняць пластмасы ў вытворчасць, каб замяняць каляровыя і чорныя металы.

Усё гэта можна падлічыць і назваць канкрэтныя лічбы. А ў якія рамкі ўкласці затраты разумовай працы маладых навуковых работнікаў? У іх неспакойных пошуках бачыш не толькі вынікі навуковых даследаванняў, не проста распрацаваныя машыны, стэнды, прыборы, не проста новую тэхналогію перапрацоўкі палімерных матэрыялаў, а характары людзей, выхаваных у новых умовах.

У аддзеле механікі палімераў свая структура. Над кожнай праблемай працуе асобная група. І ў кожнай групы, у кожнага супрацоўніка ёсць свае пэўныя задачы. А калі знаёмішся з іх творчай працай, то мімволі заўважаеш галоўнае — узаемадапамогу, садружнасць, адзінства дзеянняў, радасць усіх за поспехі аднаго і горыч перажыванняў кожнага за агульную няўдачу.

Многа бяссонных начэй патраціла ў творчых пошуках правільных рашэнняў група супрацоўнікаў па зубчатых перадачах. Тут асабліва праявілася выдатная рыса садружнасці маладых інжынераў і тэхнікаў на чале з Віктарам Старажынскім і Анатолем Свірыдзенкам, Сяргеем Шчарбаковым і Эдуардам Канавалавым, Якавам Кананенкам і іншымі. Яны сапраўды жывуць па прынцыпу маральнага кодэксу будаўніка камунізма — калектывізм і таварыская ўзаемадапамога: адзін за ўсіх, усе за аднаго.

Кожны з іх ішоў сваім творчым шляхам і памагаў таварышу, а ў выніку — вялікае і вельмі важнае дасягненне ў новай навуцы. Тут гутарка ідзе не толькі і не столькі пра замену чорных і каляровых металаў палімерамі, пра эканамічны эфект, а пра даўгавечнасць і надзейнасць тэхнікі. Скарыстанне канструкцыйных палімерных матэрыялаў для вырабу зубчатых колаў па сваёй значнасці выходзіць далёка за рамкі інтарэсаў асобных прадпрыемстваў. Падлічана, што кожны дзень у нашай краіне выпускаецца каля аднаго мільёна зубчатых колаў. На гэта выдаткуецца велізарная колькасць дэфіцытных матэрыялаў. А вось пластмасавыя колы не толькі таннейшыя за металічныя, а і лягчэйшыя, яны могуць працаваць пры ўсякай змазцы і без змазкі, добра паглынаюць вібрацыі і ўдарныя ўздзеянні, больш даўгавечныя за металічныя, асабліва ў хімічна актыўных і абразіўных асяроддзях. Дастаткова замяніць толькі дзесяць працэнтаў агульнай вытворчасці металічных зубчатых колаў пластмасавымі, і ўжо гэта дасць эканамічны эфект у дзесяткі мільёнаў рублёў.



**Мікрафатаграфаванне робіць Пятро Драбышэўскі.**

Ужо зроблена шмат па скарыстанню пластмас для вырабу зубчатых колаў. І важна тое, што гэтыя работы не толькі атрымалі вы-



Над графічным афармленнем чарговай праблемы працуюць Эдуард Канавалаў і Анатоль Красоўскі.

сокую ацэнку ў Камітэце па вынаходніцтвах і адкрыццях, але ўжо знайшлі і практычнае выкарыстанне. Эфектыўнасць палімераў у ланцуговых перадачах цяпер добра вядома многім прадпрыемствам краіны. Напрыклад, на заводзе «Гомсельмаш» адна пластмасавая зорачка замяніла складаны вузел металічных дэталей. У апошні час тут праходзяць выпрабаванні ролікі з палікапролактаму і паліфармальдэгіду. Папярэднія падлікі паказваюць, што ўкараненне дэталей з палімераў павінна даць эканамічны эфект у сотні тысяч рублёў.

Вельмі перспектыўная работа аддзела па шырокаму скарыстанню пластмас як тонкапластовых пакрыццяў, здольных надаваць вырабам з розных матэрыялаў новыя ўласцівасці. Гэту важную праблему ўпарта і настойліва вырашаюць маладыя спецыялісты: Раман Рута, Леанід Мірановіч, Алег Юркевіч, Уладзімір Лосеў, Нінэль Дзерваед, Дзіяна Кунцэвіч і іншыя.

Многія вырабы з тонкапластовымі пакрыццямі далі добрыя вынікі ў станкабудаванні і суднабудаванні, машынабудаванні і іншых галінах прамысловасці і транспарту. Прымяненне тонкапластовых палімерных пакрыццяў для аховы ад каразіі злучальных фланцаў жалезабетонных труб, якія знаходзяцца ў агрэсіўных асяроддзях, сэканоміць у дзяржаўным маштабе многія мільёны рублёў.

У маладым навуковым цэнтры нарадзілася даследаванне фізіка-механічных уласцівасцей дрэвапластыкаў, вывучэнне і ўдасканаленне тэхналогіі вытворчасці і ўкараненне іх у прамысловасць. Маладыя інжынеры Уладзімір Аненкаў і Мікалай Якіменка сканструявалі, зрабілі і зманціравалі цэлы комплекс абсталявання па драўнінных пластыках. Многа памагалі ў гэтым мясцовыя прадпрыемствы. Цяпер група ўжо мае шырокія сувязі з навуковымі цэнтрамі краіны, прамысловымі прадпрыемствамі і вядзе вялікую работу па ўкараненню дрэвапластыкаў у вытворчасць.

Ужо сёння ў Гомель у малады навукова-даследчы цэнтр ідуць просьбы і запатрабаванні з Масквы і Ленінграда, Мінска і Кіева, Рыгі і Тбілісі, Хабараўска і Адэсы, Іркуцка і Харкава, Чалябінска і Ерэвана...

Вельмі заманлівыя перспектывы чакаюць маладых энтузіястаў — шырэй адкрыць дзверы новаму ў цудоўны свет будучыні.

**Яфім ЖУКОЎСКІ.**

# СОНЦА ПАДОРЫЦЬ СВЯТЛО

**Фотарэпартаж**

Валерка прынёс некалькі малюнкаў. Сярод іх — хатка на курыных ножках. Але гэта не копія васняцоўскай. Тэму народнай казкі Валерка вырашыў па-свойму. Можа ў сэнсе майстэрства малюнак і не вельмі ўдаўся. Але затое якая бязмежная фантазія юнага мастака!

А вось зімовы пейзаж: дрэва, усё ў лёгкім інеі, яркі блакіт неба...

— Толькі з сонцам у мяне ніяк не ладзіцца,— уздыхае Валерка.

— А хіба цяжка знайсці для яго месца ў гэтай блакітнай прасторы?

У мастакоў-прафесіяналаў такія пытанні выклікаюць паблажлівую ўсмешку.

Валерка ж толькі ўздыхнуў, насупіў свае рыжаватыя бровы і сказаў:

— Сонца на небе — гэта можна паказаць... А мне ж хочацца, каб яно не плыло па моры блакіту, а было ва ўсім малюнку: у сняжынках, на галінках дрэва, у самім небе...

Так хлопчык раптам разгаварыўся, горача, усхвалявана. І тыя самыя сонечныя іскрынкі, якія ён хацеў узяць для свайго малюнка, замільгалі ў яго вачах залатым россыпам.

...Жыў хлопчык у лясным краі. Слухаў птушыны перасвіст, мяккае шапаценне сасновых шапак, любаваўся прыгажосцю беластволых бяроз. Недалёка скрозь зеляніну густога алешніку праглядвала рачулка. Раздымеш галінкі з клейкімі лісточкамі, і памкнецца да цябе лясная вада, усёй сінявой сваёй падступіцца да тваіх ног.

Аднойчы хлопчык дастаў з сумкі аркуш паперы, каляровыя алоўкі, сеў ля пянька і прыняўся маляваць.

Ніхто яму не перашкаджаў. Сябры ў гэты час футбольны мяч ганялі. Калі яны вярнуліся, малюнак ужо быў гатовы.

— Як сапраўдная! — у захапленні прамовіў адзін з іх, убачыўшы на маленькім кавалку ватмана сінюю гладзь ракі.

Другі сказаў:

— Ты ж мастак...

У хлопчыка сарамліва запунсавелі шчокі.

Яго радавалі словы сяброў.

Дома бацька павесіў малюнак на самым відным месцы:

— Малайчына!

Вечарам сусед на агеньчык зайшоў.



Юныя цымбалісты — Віця Міхальчук, Ніна Навіцкая і Таня Агейчык.

Доўга малюнак разглядаў, а пасля параіў:

— Аддаў бы ты, Сцяпанавіч, свайго хлапчука ў спецыяльную школу. Вельмі ўжо ахвочы ён у цябе да малявання... Як ні сустрэну яго, дык абавязкова ў руках — папера, алоўкі...

Валера Жарнасек і яго сябры па класу часта наведваюць мастацкі музей.





Паслухаць ігру Іры Косаравай заўсёды збіраюцца яе сябры.

Мікалаю Сцяпанавічу Жарнасеку было прыемна пачуць такое. Ён і сам, гледзячы на сынавы работы, не раз думаў аб тых школах, дзе вучаць дзяцей маляваць.



Толькі думы заставаліся думамі. Каб вырашыць пытанне аб паступленні сына ў мастацкую школу, трэба было ехаць за 50 кіламетраў у раённы цэнтр. А ў Мікалая Сцяпанавіча кожная гадзіна была ўлічана: сям'я вялікая — што ні дзень, то новыя клопаты.

Прыехаў неяк у Любатаўшчыну работнік Барысаўскага райана. У мясцовай школе якраз у той дзень экспанаваліся работы юных умельцаў. Былі сярод іх і Валеркавы малюнкі. Агледзеўшы выстаўку, прыезджы паспяшыў да Жарнасекаў.

— Даўно трэба было хлопчыка ў спецыяльную школу накіраваць.

А Мікалай Сцяпанавіч разводзіў рукамі:

— Не было часу гэтым займацца...

— А вы хацелі б, каб сын ваш вучыўся маляваць? — настойваў прадстаўнік з раёна.

— Вядома,— голас у Мікалая Сцяпанавіча стаў чамусьці разгубленым.— Які ж бацька не хоча дабра свайму сыну...

Аддзел народнай асветы Барысаўскага раёна накіраваў Валерыя Жарнасека ў Мінскі спецыяльны дзіцячы дом музычна-мастацкага выхавання.

...Будынак гэты не з тых, што кідаюцца ў вочы. Невялікі, усяго на два паверхі, стаіць ён у двары жылога дома, што па вуліцы Леніна.

— Так яно нават і лепш,— гаворыць педагог-выхавацель Ніна Андрэеўна Палавінкіна.— Юным музыкантам, спевакам, мастакам спакой і цішыня патрэбны.

У дзіцячым доме шэсцьдзесят два выхаванцы. Самаму малодшаму — восем гадоў, самаму старэйшаму—шаснаццаць. Тут дзве групы: выяўленчага мастацтва і музыкі. Юныя музыканты займаюцца па класу фартэп'яна, скрыпкі, арфы, баяна, народных інструментаў.

Кожны дзень у Валеркі па-свойму цікавы. Учора хадзіў на «натуру»: маляваў будынак 42-й сярэдняй школы. Сёння пабываў у мастацкім музеі, а заўтра разам з сябрамі збіраецца да рабочых завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Там, на заводзе выхаванцы дома наладжваюць для дарослых выстаўку сваіх работ.

Пакажуць сваё ўмельства рабочым і тыя, хто займаецца ў музычнай групе. У праграме канцэрта — выступленне юнай піяністкі Іры Косаравай.

Маленькая рука асцярожна кладзе на стол малюнак. У цёмнай горнай цясніне серабрыцца магутная рака. Цесна ёй. Цяжкія валуны сціскаюць бурны паток з усіх бакоў. І рака хоча вырвацца з каменнага рэчышча. Хоча быць такой жа свабоднай, як той арол, што распасцёр крылы ля *самых белых воблакаў*.

Перанесці б гэтую хлапечую фантазію на палатно вялікае дый паказаць рабочым завода ў той час, *калі* Іра будзе выконваць для іх п'есы Шуберта! Можа тады яшчэ больш выразна яны адчулі б *значнасць гэтага дома*, дзе пасябравалі маленькая піяністка і вялікі Шуберт, юны скульптар і непаўторны Канёнкаў, Валерка Жарнасек і жывапіс.

Хлопчык запрашае вас у госці. Ён гатовы паказаць кожнаму свой дом.

Вось першы пакой. Клас юных скрыпачоў. Гучыць мелодыя Паганіні. Люда Сталіцына авалодвае таямніцамі ігры на скрыпцы.

А калі ззаду застаецца яшчэ адна музычная сцяжынка, можна гадзіну-другую адвесці і кулінарыі.

— Люда такі пірог прыгатаваць можа — пальчыкі абліжаш! — усміхаецца Валерка.

— На кухні ў нас кожны сілы спрабуе,— не згаджаецца дзяўчынка.— Стараемся самі сябе абслугоўваць... Сёння хачу вячэрай смачнай пачаставаць лялечнікаў нашых... Яны ж спектакль у 42-й школе ставяць. Неўзабаве вярнуцца павінны...

Люда Сталіцына добра іграе на скрыпцы...
...і старанна дзяжурыць на кухні.



Напэўна, няма ў Мінску ніводнай школы, дзе б не выступаў лялечны тэатр дзіцячага дома. Спектаклі яго заўсёды падабаюцца маленькім мінчанам.

Побач з рэпетыцыйнай залай лялечнага тэатра клас, дзе гаспадары — юныя баяністы. Трэці год вучыцца іграць на баяне Валя Шапар. Музыка стала неад'емнай часцінкай жыцця дачкі калгасніцы.

Трэці год вучыцца і Федзя Каржаневіч. Прыехаў хлопчык у Мінск з далёкай палескай вёскі Пінкавічы. Адпачываў летась у піянерскім лагеры «Артэк». І там маленькага спевака з Беларусі назвалі «палескім салаўём». За лепшае выкананне песні яго ўзнагародзілі залатым артэкаўскім медалем.



Тэатрам лялек у дзіцячым доме кіруе яго выхаванец Алег Садоўскі.

Вопытныя выкладчыкі кіруюць выхаваннем юных талентаў. Кансерваторыя, музычнае вучылішча, тэатральна-мастацкі інстытут — клапатлівыя шэфы дзіцячага дома. Многія з яго выхаванцаў сталі студэнтамі гэтых навучальных устаноў. Будучыя спевакі, музыканты, мастакі не забываюць сваіх малодшых таварышаў.

Радуецца Валерка сябрам уважлівым. Жмурыць вочы ва ўсмешцы. Здзейсніцца мара! Сонца абавязкова падорыць сваё святло яго малюнкам!

**Аляксандр КІЙРАНЕН.**

**Фота С. ЧЫРЭШКІНА.**

Федзеву радасць — артэкаўскі медаль — падзяляюць усе дзетдомаўцы.





ПОШУКІ, АДКРЫЦЦІ...

# БІЁЛАГІ МЯНЯЮЦЬ КРЫЛЫ

За нейкую гадзіну я перасякаю ўсе кантыненты. Гэта не кіно. Пад нагамі травы, над галавою — дзівосныя дрэвы з лісцем самай мудрагелістай формы, з насеннем то ў каробачках, то ў стручках, то ў пушыстых белых камячках. Ад гэтай разнастайнасці пачынае кружыцца галава, і ўсё звальваецца ў адну кучу пад назвай «экзотыка». Я іду па ўсіх кантынентах зямнога шара, мяне забаўляе тое, што за некалькі секунд я магу трапіць з Амерыкі ў Еўропу — трэба толькі перайсці дарогу, уздоўж якой расце высокі цёмна-зялёны яловы «паркан».

Іду бясконцай алеяй батанічнага саду. Экзатычныя клёны паблісківаюць срэбрам свайго лісця. Вось шырокая адкрытая прастора. Шапоча пад ветрам кукуруза. Каля яе людзі ў белых халатах. Гэта вучоныя. Нядаўна ў часопісе «Прырода» я прачытаў паведамленне, што выведзены нейкі новы міжлінейны гібрыд кукурузы. Гэта тут, у нас, у аддзеле генетыкі Акадэміі навук БССР.

Я прабіраюся лабірынтам кукурузных просек і бачу невысокую маладую жанчыну. Яна ашчадна трымае ў руках кіяхі, піша нешта ў тоўсты журнал, а пасля глядзіць на мяне насмешлівымі чорнымі вачыма. Гэта так нечакана.

— Сам бог паслаў! — усміхаецца яна і дае мне журнал і аловак. Я бяру ўсё гэта і саджуся на перакуленае вядро. Пішу лічбы. Гадзіну, другую. Я пазнаю чарнавую работу вучонага. Гнуткія пальцы жанчыны бегаюць па кіяхах, яна лічыць рады зерняў па шырыні, вышыні, прыкладвае лінейку — тры, дваццаць шэсць, потым кідае яшчэ словы: крамністая, зубавідная, чырвоная, поўная. Я шкадую, што побач няма электронна-вылічальнай машыны. Паўзы паміж тым момантам, калі адзін кіях ляціць у вядро, а з кучы бярэцца наступны, такія кароткія, што я паспяваю даведацца нямнсгае. Людміла Таруціна. Матэматык. Хто?.. Матэматык? Некалькі імгненняў прайшло ў роздуме, пакуль я асэнсоўваў гэты адказ. Міжлінейны гібрыд... Яшчэ многа. Кожны дзень. А зімою? Лічым. Цэлую зіму? Ага. А што лічыце? Выключаем уплыў знешніх умоў, глебы і клімату. Чыстая гетэрозісная маса.

Звязваю ўсё ў адно. Гэта толькі для кукурузы! А колькі ж давялося лічыць Карлу Лінею і яго паслядоўнікам, пакуль яны «падлічылі» ўсё жыццё на зямным шары, расклалі па відах, сямействах, класах? Там быў хаос. А тут проста і ясна — кукуруза...



Шырокія далягляды адкрыты перад навукай. У спрэчках супрацоўнікаў аддзела Ларысы Камінскай, Усевалада Борматава, Аляксандра Анохіна, Уладзіміра Саўчанкі з акадэмікам Мікалаем Васільевічам Турбіным (другі справа) нараджаецца ісціна.

— Я нічога ў ёй не разумею. Я ўмею толькі лічыць. Зараз прыйдзе Хатылёва, Любоў Уладзіміраўна...

Я недаверліва гляджу на матэматыка. Вочы ў яе сур'ёзныя, і ў голасе нібы пагроза.

Я ведаю многа пра кукурузу, значна больш, чым пра экзатычныя дрэвы ў батанічным садзе. Ведаю яшчэ з дзяцінства. У вялізных чыгунах парыліся кіяхі. Маці сцэджвала ваду, і над чыгуном плавала апетытная пара. Быў крохкі кукурузны хлеб. А ў Мексіцы ёсць мастак Рывера, ён робіць гіганцкія фрэскі на сценах дамоў, кукуруза ў яго выходзіць, як нейкі цуд. Там яе завуць — маіс. І пякуць маісавыя ляпёшкі. Гэткі бог Маіс. І яшчэ я ведаю з плакатаў: тры пуды кукурузы даюць пуд сала, і яшчэ ведаю — сам бачыў: у многіх нашых калгасах кукуруза расце дрэнна і амаль зусім не дае кіяхоў.

Любоў Уладзіміраўна паяўляецца нечакана. На яе твары ветлівая ўсмешка.

— Вы хочаце даведацца больш падрабязна пра кукурузу?

Яна на хвіліну змаўкае, становіцца сур'ёзная. Твар у яе быццам авеяны гарачымі стэпавымі вятрамі. Пазней, калі я гаварыў з загадчыкам аддзела акадэмікам Мікалаем Васільевічам Турбіным, ён сказаў пра яе як пра фанатыка свaёй справы.



## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Першыя ўзмацняльнікі святла, або **лазеры**, прыстасаваныя для атрымання магутных, вострanакіраваных пучкоў святла, з'явіліся некалькі гадоў таму. Але яны маюць ужо шырокае прымяненне. Зусім нядаўна прамень святла, які выходзіць з лазера, выкарысталі для прасвідроўвання адтулін у **алмазных** пласцінках.

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Акула, у адрозненне ад іншых рыб, не мае плавальнага пухіра, і таму, каб не пайсці на дно, ёй даводзіцца бесперапынна махаць хвастaвым плаўніком.



Інжынер Мікалай Ніжнік і кандыдат ветэрынарных навук Мікалай Троіцкі за даследаваннямі.

— Вы, пэўна, чулі...

Гэтыя першыя словы былі адзіныя, якія можна было зразумець. Потым мы хадзілі па кукурузных просеках, я глядзеў на неба, на дрэвы батанічнага саду і імкнуўся зразумець, якая сіла прымусіла ўсё гэта перайначыцца. Мне ўсё больш і больш здавалася, што я недзе за мяжой, што з чужой мовы мне зразумелы толькі інтэрнацыянальныя словы.

Простыя кукурузныя сцябліны ператварыліся ў нешта на дзіва складанае. І гэта пераўтварэнне адбывалася лёгка, быццам у фокусніка, у якога ў пустой клетцы раптам паяўляецца жывы голуб. Гетэразіготы, гомазіготы, локусы, алельныя і неалельныя ўзаемадзеянні, рэцэсіўныя і дамінантныя гены, праблемы выраўненасці і камбінацыйных спалучэнняў...

Любоў Уладзіміраўна расказала яшчэ пра адзін спосаб, які чалавек прыдумаў для таго, каб перахітрыць прыроду.

Прырода на зямным шары не вельмі шчодрая. Дакладней кажучы, мы не навучыліся яшчэ браць ад яе ўсё, што яна можа даць. З усяго, што даюць зялёныя расліны, мы выкарыстоўваем здзіўляюча мала. Амаль 100 працэнтаў раслін гінуць нявыкарыстанымі! Вучоныя падлічылі: каб людзі жылі ніштавата, на кожнага патрэбен гектар пасеваў. А цяпер на чалавека прыпадае толькі паўгектара. Павялічваць пасевы часам немагчыма, часам вельмі цяжка, таму трэба рацыянальна выкарыстоўваць тыя землі, якія ўжо асвоены. І вось, каб зямля давала высокі ўраджай, чалавек прыдумвае розныя спосабы. Тут перш за ўсё ўгнаенні і новая агратэхніка. Але гэтага недастаткова.

— А калі прусака добра карміць — ці стане ён велічынёю з вала? — пытае бязногі хлопчык у «Дзяцінстве» Горкага. Усе ведаюць адказ на гэтае пытанне. Але вучоныя для таго і існуюць на свеце, каб правяраць навукай правільнасць розных жыццёвых з'яў. Яны ўсумніліся ў праўдзе тых, хто адмоўна ставіўся да пераўтварэння прусака ў вала. Яны пачалі рабіць розныя эксперыменты. І ўсё больш і больш пераконваліся, што «прусак» не заўсёды застаецца «прусаком». Калі не ў «вала», дык, ва ўсякім выпадку, у нешта іншае ён ператвараецца.

50 тысяч гадоў пайшло на тое, каб павялічыць вагу зерня пшаніцы ў два разы. Наступныя 30 гадоў пайшлі на тое, каб гэтае павялічанае зерне павялічыць яшчэ ў два разы. Хуткасць навуковага эксперыменту ў наш час у параўнанні са старажытнасцю ўзрасла амаль у дзве тысячы разоў! Павялічыць у два разы зерне пшаніцы ўдалося не з дапамогай штучнага адбору, як гэта ўвесь час рабілі людзі, а з дапамогаю рэчыва калхіцыну.

А цяпер з'явілася яшчэ атамнае абпраменьванне. Паток нейтронаў урываецца ў жывую клетку і, нібы меч, сячэ направа і налева. Шмат клетак гіне, але ёсць і такія, якія робяцца надзвычай жыццядзейнымі. Так былі выведзены высокаўрадлівыя штамы грыбка пеніцыліну, біяміцыну.

А яшчэ людзі прыдумалі стымулятары росту. Ёсць хвароба рысу — ён становіцца гіганцкім, гэта завецца «шаленствам». Аказваецца, гэтую хваробу выклікае рэчыва гіберылін, выдзеленае грыбком, што пасяляецца на рысе. Цяпер лабараторыі і цэлыя інстытуты шукаюць рэчывы, якія садзейнічалі б надзвычай хуткаму і магутнаму росту раслін.

І вось яшчэ адзін спосаб павелічэння ўраджайнасці: міжлінейная гібрыдызацыя. Яна дае прыбаўку ўраджаю працэнтаў на сорак. У Балгарыі па гэтаму метаду разводзяць памідоры, у ЗША — кукурузу, спрабуюць яго ўжыць і ў птушкагадоўлі.

— Мы бяром інцухты, робім іх гомазіготнымі, даводзім да выраўненасці — у тым ліку і па камбінацыйных здольнасцях, ствараем міжлінейныя, а потым здвоеныя міжлінейныя гібрыды...

Перакладаецца гэтая «вобразная» мова так. Звычайна, усе расліны апыляюцца адна ад другой. Для іх нармальнай жыццядзейнасці трэба, каб пылок адной трапіў на рыльца кветкі другой. Гэта робяць вецер, пчолы, насякомыя. А што, калі праводзіць самаапыленне: на рыльца наносіць пылок, які вырас на кветцы гэтай жа расліны? Выходзіць, што жыта праз некалькі год гіне. Кукуруза паводзіць сябе інакш. Яна з кожным годам мізарнее. Самаапыленне робяць некалькі гадоў. Гэта называецца весці лінію, альбо інцухт. Імкнуцца адбіраць найбольш буйныя расліны, і дабіваюцца, каб усе расліны, што выраслі з аднаго кіяха, былі аднолькавыя — выраўненыя. Потым дзве лініі скрыжоўваюць паміж сабою. І тут адбываецца цуд. Ураджай павялічваецца разы ў паўтара. Гэты цуд называецца гетэрозіс. Такім метадам выведзены міжлінейныя гібрыды «Мінскі 1, 2, 3, 4». Яны даюць ад 40 да 60 цэнтнераў зерня з гектара, іх кіяхі выспяваюць за час нашага кароткага лета. Гэтая кукуруза перадаецца калгасам.

Мы ідзём з Любоўю Уладзіміраўнай кукурузнымі прасекамі. Кукуруза гіганцкая, карлікавая, зубавідная, з адным кіяхом, з двума. Любоў Уладзіміраўна



Трыплоідныя формы цукровых буракоў турбуюць аспірантку Ганну Шчарбакову.

прызнаецца ў сваёй замілаванасці да гэтых зялёных шырокіх лістоў. Тут і яе пестуны — калі яна гаворыць пра іх, у вачах яе з'яўляецца асаблівы бляск. Такія вочы бываюць толькі ў маці, калі яна расказвае пра сваё дзіця.

Мне ўвесь час не дае спакою пытанне аб прыродзе розных «цудаў», якія выклікаюцца атамным абпраменьваннем, калхіцынам, стымулятарамі росту, скрыжаваннем ліній. Чаму адбываюцца «выбухі» ўраджайнасці? І я задаю гэтае пытанне. І атрымліваю разгорнуты адказ, які можна назваць універсітэцкай лекцыяй. Любоў Уладзіміраўна тлумачыць:

— Нашу работу з кукурузай мы разглядаем, як падрыхтоўчую стадыю да сур'ёзных навуковых даследаванняў. Гэта матэрыял, на якім мы будзем вывучаць прыроду гетэрозіса, гомазіготнасці, стэрыльнасці, фертыльнасці. Кукуруза для нас — як для медыкаў белыя мышы, на якіх вывучаюць рак. Добра вывучыўшы агратэхніку, міжлінейны гібрыд можа вывесці і піянерская дружына, а мы павінны ісці ў глыбіні, апускацца на малекулярны ўзровень, там ляжыць адгадка. Важна зразумець прыроду расліны, і тады, магчыма, мы будзем кіраваць яе жыццём з дапамогай хімічных рэчываў...

«Чыстая» біялогія ў тлумачэнні мно-

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Шкілет карпа налічвае 4386 костак, тады як у чалавека іх усяго 212 (уключаючы і 32 зубы).

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ

У Каліфорніі ў гарачых крыніцах, тэмпература якіх дасягае часамі 50 градусаў, жыве рыба пад назвай **луканія.** Сваячцы луканіі **далії**, якая жыве ў водах Чукоткі, такія ўмовы, мякка кажучы, не спадабаліся б. У яе зусім іншы тэмпературны густ: з надыходам зімовых халадоў яна ўмярзае ў лёд і так, у спячцы, праводзіць зіму.



гіх працэсаў жыцця расліны і, значыць, у разумным, свядомым уздзеянні на яе, аказалася бяссільнай. Усё ляжыць у глыбінях, якія яшчэ недаступны няўзброенаму воку чалавека. І гэтыя глыбіні, нягледзячы на тое, што там існуе ідэальны парадак і дакладнае ўзаемадзеянне, здаюцца цяпер нам хаосам, як дрымучы першабытны лес, дрэвы якога ўпершыню бачыць чалавек. Туды яшчэ не забраўся сучасны Карл Ліней і не забіў жалезныя калкі з таблічкамі супраць кожнай экзатычнай з'явы. І перш чым туды забярэцца Карл Ліней, патрэбна яшчэ ўважліва прыгледзецца да кожнага новага «дрэва», апісаць яго...

На малекулярны ўзровень!

Гэтыя словы сталі крылатымі ў «чыстых» біёлагаў, у якіх слабымі сталі іх уласныя крылы, што так надзейна служылі ім тысячы гадоў.

— Так, пераходзім на малекулярны ўзровень,— гаворыць Юры Нікольскі, высокі, тонкі, рухавы малады чалавек, кандыдат навук. Ён дзесяць гадоў займаўся калхіцынавай методыкай. Цяпер ён абклаўся тоўстымі кнігамі, якія ўяўляюць сабой сумесь хіміі, фізікі і біялогіі. Займаецца на другім курсе фізічнага факультэта, на вячэрнім аддзяленні.

— Там матэматыкі многа. Спачатку яна здаецца непатрэбнай. А потым, глядзіш,— усё прыдалося...

Іншы раз ён адрываецца ад сваіх тоўстых фізіка-хіміка-біёлага-матэматычных кніг і ў захапленні ўскліквае, пабліскваючы шкельцамі сваіх тоўстых акуляраў і паднімаючы ўгару руку з растапыранымі пальцамі:

— Разумееш, пры перадачы энергіі ў расліне электроны бягуць па вітамінна лесвіцы, як у паўправадніках!

— Так, пераходзім на малекулярны ўзровень — гаворыць пасля Юры Анна Мікалаеўна Палілава. Яна кіруе цікавай работай, звязанай з кукурузай. На адным з этапаў вывядзення міжлінейнага гібрыда трэба дамагчыся, каб адна з ліній стала стэрыльнай, гэта значыць, каб мужчынскія суквецці не давалі пылок. І гэта з'ява перадаецца не па бацькоўскай лініі, а па мацярынскай, не ў ядры, а ў цытаплазме клеткі.

Тут пачынаюцца праблемы спадчыннасці.

— У нас у аддзеле ёсць хімічная лабараторыя,— гаворыць Анна Мікалаеўна.— Нашы біёлагі вучацца праводзіць там аналізы, яны становяцца хімікамі. Там працуе і наш першы біяхімік. Можам зайсці.

Мы трапляем у вялікі светлы пакой, застаўлены прабіркамі, колбамі, змеевікамі. Царства хімікаў.

Тут даследуюць глыбіні расліны, тут спрабуюць пранікнуць у самае заманлівае, якое мяжуе з цудам — у механізм спадчыннасці.

У гэтых глыбінях «чыстая» біялогія знікае, тут непадзельна ўладараць законы хіміі і фізікі, і на гэтым, на малекулярным узроўні, адбываюцца складаныя працэсы, дзякуючы якім расліны зеляняюць на зямным шары многа мільёнаў гадоў, а людзі могуць хадзіць, радавацца, думаць, упэўненыя ў тым, што ні заўтра, ні паслязаўтра не спыніцца наш імклівы рух у будучыню. І пачатак усіх пачаткаў, тая крыніца, з якой выцякае агромністая рака жыцця,— маленькая клетачка мікраскапічных памераў. Усё жывое пачынаецца з адной клетачкі. Калі расшыфраваць усе веды, каманды, указанні і іншае, што заключана ў гэтай клетцы, перавесці на нашы чалавечыя словы — выйдзе вялізны шматтомны збор твораў. Выцягнутыя ў адну лінію, «словы», што запісаны ў клетцы, раўняюцца па сваёй даўжыні дыяметру Сонца.

Фантастыка! Тут, у гэтых глыбінях, адгадка ўсіх працэсаў, што адбываюцца ў раслінах і жывёлах. Вось чаму «чыстыя» біёлагі мяняюць свае крылы на новыя, пераходзяць на малекулярны ўзровень і становяцца малекулярнымі біёлагамі, біяхімікамі, біяфізікамі. Пра іх будзе размова пасля.

**Віктар ГОВАР.**





## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ

У Інстытуце атамнай энергіі ў аддзеле, якім кіруе выхаванец Беларускага дзяржаўнага універсітэта акадэмік Леў Андрэевіч Арцімовіч, створана ўнікальная ўстаноўка. Вучоным удалося ўтрымаць плазму пры тэмпературы 40 мільёнаў градусаў на працягу некалькіх доляў секунды. Гэты вынік моцна наблізіў нас да жаданай мэты — кіравання тэрмаядзернай рэакцыяй, каб даць чалавецтву невычарпальную крыніцу энергіі.



# ІМЯ, ВЕРНУТАЕ НАРОДУ

**Да 70-годдзя з дня нараджэння Я. Гамарніка**



Старэйшае пакаленне савецкіх людзей добра памятае адданага салдата рэвалюцыі Яна Барысавіча Гамарніка. Нарадзіўся ён у беднай сям'і канторскага служачага ў Жытоміры. Маленства і юнацкія гады правёў у Адэсе. Тут у 1905 годзе адзінаццацігадовым хлапчуком на сваё вочы пабачыў барыкадныя баі рабочых і чырвоны сцяг рэвалюцыйнага «Пацёмкіна».

Ян Гамарнік пачаў наведваць падпольныя гурткі яшчэ будучы гімназістам. Калі яму споўнілася семнаццаць год, ён трапіў у паліцэйскія спісы «небяспечных вальнадумцаў». У 1916 годзе студэнт Кіеўскага універсітэта Ян Гамарнік уступае ў рады РСДРП.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі Ян Барысавіч узначаліў Кіеўскі камітэт РСДРП(б). Рабочыя Кіева разам з усім расійскім пралетарыятам пад кіраўніцтвам бальшавікоў рыхтаваліся да звяржэння ўлады буржуазіі. Праз два дні пасля таго як грымнулі залпы «Аўроры» ў Петраградзе бальшавікі Кіева аб'явілі аб пераходзе ўлады ў рукі рэвалюцыйнага камітэта, куды быў выбраны і Ян Барысавіч Гамарнік.

У ноч на 29 кастрычніка 1917 года атрады контррэвалюцыі акружылі будынак, дзе змяшчаліся органы Савецкай улады Кіева, і арыштавалі членаў бальшавіцкага выканкома. Гамарніку і яго сябрам пагражала шыбеніца. Ды не драмалі ў гэты час бальшавікі, якія засталіся на волі. 30 кастрычніка яны ўзнялі рабочых Кіева на ўсеагульную забастоўку, якая перарасла ў паўстанне. Рабочыя перамаглі, і Гамарнік з таварышамі апынуўся на свабодзе.

Цэнтральная рада зноў сцягнула ў горад адданыя ёй войскі і абвясціла аб стварэнні буржуазнай украінскай народнай рэспублікі. У той час многія працоўныя яшчэ верылі ў шчодрыя абяцанні рады. Кіеўскія бальшавікі на чале з Гамарнікам адразу ж уключыліся ў барацьбу за масы; яны выкрывалі буржуазных нацыяналістаў.

У студзені 1918 года савецкія войскі вызвалілі Кіеў, і Цэнтральная рада была нізрынута. Тады контррэвалюцыянеры заклікалі на дапамогу міжнародную буржуазію — нямецкіх і аўстравенгерскіх імперыялістаў. Рабоча-сялянскі ўрад з Кіева вымушаны быў пераехаць у Палтаву, потым у Екацярынаслаў і Таганрог.

У гэты суровы час пачалася падрыхтоўка да арганізацыйнага афармлення кампартыі Украіны. 19 красавіка ў Таганрозе на нарадзе прадстаўнікоў абласных партыйных арганізацый было створана арганізацыйнае бюро па падрыхтоўцы з'езда КП(б)У. У бюро ўвайшлі А. Бубнаў, С. Касіор, Я. Гамарнік і іншыя. 5 ліпеня 1918 года I з'езд камуністычнай партыі Украіны абвясціў аб стварэнні КП(б)У. Делегацыю з'езда напярэдадні яго адкрыцця прыняў У. І. Ленін. Гэта была першая сустрэча Гамарніка з Уладзімірам Ільічом.

Пасля II з'езда КП(б)У, які праходзіў у кастрычніку 1918 года, становішча яшчэ больш ускладнілася. На поўдні Украіны высадзілася англа-французская эскадра, пятлюраўскі ўрад заключыў з Францыяй дагавор. Эканоміка краіны аддавалася на разграбленне замежным імперыялістам.

У гэты час Я. Гамарнік разам з П. Дыбенкам накіроўваецца ў Крым для арга-

нізацыі там партыйнага падполля. Пазней яны ўспаміналі, што самай моцнай зброяй у барацьбе супраць англа-французскіх імперыялістаў былі «не гарматы, кулямёты і вінтоўкі, а злабадзённыя бальшавіцкія лістоўкі на англійскай, французскай і грэчаскай мовах», якія выкрывалі імперыялістычныя намеры, заклікалі салдат і матросаў выканаць братні інтэрнацыянальны абавязак у адносінах да пралетарыята краіны Саветаў.

Падпольная работа бальшавікоў зрабіла сваё. Пад моцным націскам Чырвонай Арміі, партызанскага і паўстанцкага руху 14 снежня 1918 года гетман Скарападскі адрокся ад улады і збег у Берлін.

Блок буржуазна-нацыяналістычных партый стварыў так званую Дырэкторыю на чале з Віннічэнкам і Пятлюрай, якая адкрыта праводзіла антысавецкую палітыку. У сувязі з цяжкім становішчам у Чырвоную Армію для ўмацавання там дысцыпліны былі кінуты лепшыя сілы партыі. Ян Гамарнік быў назначаны ў 12-ю армію ваенным камісарам Паўднёвай групы войск.

У лютым 1920 года пасля канчатковага разгрому дзянікінцаў Ян Барысавіч выбіраецца старшынёй Адэскага губкома партыі, а ў ліпені таго ж года—старшынёй Кіеўскага губкома партыі і губрэўкома. Ён гаварыў, звяртаючыся да рабочых: «На новым фронце — фронце працы — мы пераможам толькі тады, калі мы да яго паставімся гэтак жа сур'ёзна, як да фронту ваеннага».

У 1923 годзе партыя накіравала Яна Гамарніка на Далёкі Усход, дзе ён працаваў старшынёй Прыморскага губвыканкома, старшынёй рэўкома Далёкаўсходняга края, сакратаром крайкома ВКП(б).

У канцы 1928 года Ян Барысавіч Гамарнік прыехаў у Беларусь. Яго дзейнасць на пасадзе першага сакратара ЦК КП Беларусі была вельмі плённая. Гэта быў час, калі пачалося выкананне першай пяцігодкі: у Гомелі будаваўся завод сельскагаспадарчага машынабудавання, у Бабруйску — дрэваапрацоўчы камбінат, у Віцебску і Мінску—швейныя фабрыкі... Я. Гамарнік нямала зрабіў, каб накіраваць развіццё прамысловасці па шляху больш поўнага выкарыстання мясцовай сыравіны і энергетычных рэсурсаў Беларусі, у прыватнасці, торфу як паліва для прамысловасці. Партыйная арганізацыя рэспублікі ў гэты час дамаглася першых сур'ёзных поспехаў у сацыялістычным пераўтварэнні сельскай гаспадаркі.

У пачатку 1930 года Ян Барысавіч быў назначаны начальнікам Палітупраўлення Чырвонай Арміі, а праз паўгода — намеснікам Народнага камісара абароны СССР. Яго дзейнасць на гэтых пасадах праходзіла ў той час, калі ішло тэхнічнае пераўзбраенне арміі: шпарка развівалася авіяцыя, танкавыя войскі, новымі відамі тэхнікі аснашчаліся пяхота і артылерыя. Гамарнік узначальваў спецыяльную камісію па ўмацаванню абароназдольнасці Далёкага Усходу.

Узначальваючы больш за 7 гадоў партыйна-палітычны апарат Узброеных Сіл, ён унёс значны ўклад у тэарэтычную распрацоўку праблем будучай вайны на новай матэрыяльна-тэхнічнай аснове. За заслугі перад Радзімай ён быў узнагароджаны ордэнамі Леніна і Чырвонага Сцягу. Гэты чалавек невычэрпнай творчай ініцыятывы і кіпучай энергіі часта марыў аб тым часе, калі ў нашай краіне шырока разгорнецца стваральная праца па будаўніцтву шчаслівага камуністычнага грамадства. У адной з сваіх прамоў ён гаварыў: «На нашым шляху яшчэ шмат цяжкасцей, шмат перашкод, класавых баёў, але нам усё гэта не страшна, перамога нам забяспечана, гісторыя за нас».

Гістарычны XX з'езд КПСС разам з іншымі вярнуў народу і чэснае імя Яна Барысавіча Гамарніка.

**Іосіф ХАЎРАТОВІЧ.**

# СВЕДКА ТРАГІЧНЫХ ПАДЗЕЙ

**Да стагоддзя з дня нараджэння С. В. ІВАНОВА**

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР экспануецца невялікая карціна «Перасяленцы».

Па высмяглым стэпу, пад нясцерпна гарачым сонцам рухаецца сялянскі абоз. Коні цягнуць вазы з мізэрным хатнім набыткам і змардаванымі старымі. Маладзейшыя ідуць пешшу. Што прымусіла іх пакінуць абжыты кут? Што чакае іх наперадзе? Гэтыя пытанні ўпершыню ў гісторыі рускага выяўленчага мастацтва паставіў Сяргей Васільевіч Іваноў — мастак-дэмакрат, пясняр рускага пралетарыята і сялянства.

Не належачы ні да якой палітычнай партыі, ён, аднак, ненавідзеў самадзяржаўе і лічыў сваім грамадзянскім абавязкам паказваць гаротнае становішча прыгнечанага народа.

У канцы 80-х гадоў С. Іваноў задумаў серыю карцін, якія б паслядоўна раскрывалі асноўныя этапы «перасяленцтва», выкліканага памешчыцкай рэформай у царскай Расіі. Сотні кіламетраў прайшоў мастак з сялянамі, якія кіраваліся ў Сібір, шукаючы вольныя землі. Шмат людзей загінула ў дарозе. Іваноў сам быў сведкам трагічнай пагібелі аднаго з іх. Гэтая падзея і была пакладзена мастаком у аснову палатна пад назваю «У дарозе. Смерць перасяленца».



**У дарозе. Смерць перасяленца (1889).**

Селянін ляжыць ля самай дарогі. Яго твар і скрыжаваныя на грудзях рукі старанна прыкрыты ручніком, а зверху паложан злінялы абраз. Памёр карміцель сям'і, пакінуўшы жонку і дзіця бездапаможнымі і адзінокімі. У роспачы ўпала на зямлю ўдава. Яе маленькая дачка невідушчымі вачанятамі пазірае на памёршага бацьку. Яе тварык пачарнеў пад промнямі бязлітаснага сонца, ён сведчыць аб доўгім, цяжкім шляху, пройдзеным перасяленцамі. Жаўтаваты каларыт карціны ўзмацняе ўражанне нясцерпнай гарачыні, якая ператварыла стэп у выпаленую пустэчу. На фоне бязвоблачнага неба адразу кідаюцца ў вочы аглоблі воза, узнятыя ўверх, як быццам рукі, якія заклікаюць аб дапамозе. Але яе чакаць няма адкуль...

Гэтая карціна — вынік глыбокага роздуму мастака, яна поўна і пераканаўча раскрывае лёс сялянства ў царскай Расіі. На страшэнны голад і эпідэміі 1889—1892 гадоў Іваноў адклікнуўся палотнамі «Смерць селяніна ад голаду», «Баба капае магілу» і іншымі.

Аднак мастак бачыў не толькі гора сялян, але і іхнія спробы процідзейнічаць уладам. Карціна «Бунт на вёсцы» ўпершыню ў айчынным жывапісу адлюстравала вызваленчы рух рускіх сялян у канцы XIX стагоддзя. Сялянскія і студэнцкія хваляванні 80-х — 90-х гадоў, а таксама рост рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыята выклікалі жорсткія расправы царскіх катаў над лепшымі прадстаўнікамі народа. Грамадзянскі абавязак мастака заклікаў Іванова паказаць турэмны рэжым самаўладства Расіі. У гэтыя гады ён стварыў карціны, эцюды і малюнкі з жыцця арыштантаў і катаржан, якіх назіраў у перасыльных турмах і астрогах. Многія з гэтых прац не захаваліся, таму што пад уплывам жорсткіх наскокаў рэакцыйнай крытыкі мастак часам вымушаны быў знішчаць свае творы. Пісаць палотны, якія б выкрывалі жудасныя з'явы тагачаснай рэчаіснасці, стала зусім немагчыма ва ўмовах паліцэйскай цэнзуры таго часу.



**Прыезд іншаземцаў у Маскву XVII стагоддзя (1901).**

З 1895 года пачынаецца новы этап творчасці мастака. Іваноў звяртаецца да рускай гісторыі, якая заўсёды цікавіла яго. Адной з самых значных прац гэтага перыяду была карціна «Прыезд іншаземцаў у Маскву XVII стагоддзя». Крытыка вітала мастака, разглядаючы гэты твор як адмаўленне ад сацыяльных праблем. Але недальнабачныя цаніцелі мастацтва пралічыліся. Змест карціны быў шчыльна звязаны з тагачаснай рэчаіснасцю.

У канцы XIX стагоддзя іншаземцы пры падтрымцы самадзяржаўных улад захапілі ў свае рукі важнейшыя галіны гаспадаркі краіны. Іваноў ненавідзеў засілле іншаземцаў, што здзекаваліся з нацыянальных звычак, насміхаліся над рускай культурай і традыцыямі невядомага для іх народа.

Даўно мінулая эпоха, жыццё і характары людзей XVII стагоддзя адлюстраваны ў карціне з уласцівай Іванову праўдзівасцю. Дзея адбываецца на маскоўскай вуліцы, моцна занесенай снегам. З кібіткі вылазіць чужаземец у незвычайнай для масквічоў вопратцы і ў вялізным берэце. Ва ўсёй ягонай паставе, надменным твары з бародкай клінком выразна бачны пагардліва-высакамерныя адносіны да жыхароў «варварскай» краіны, у якой ён мае намер добра папасвіцца. Незвычайны выгляд чужаземца прыцягвае ўвагу прахожых. Дзяўчына ў чырвонай хустцы, ад здзіўлення прыўзняўшы нават бровы, крадком пазірае на заморскіх гасцей. Яе бацька з вязанкай абаранкаў у руцэ боязна азіраецца, спяшаючыся хутчэй адвесці маладую дачку далей ад «паганага вока».



**Расстрэл (1905).**

У карціне многа фігур, але ўмелая кампазіцыя дазволіла мастаку стварыць адчуванне прасторы і глыбіні далягляду. Цудоўна напісаны зімовы пейзаж з імглістым небам, на фоне якога бачна драўляная царкаўка, напалову занесеная гурбамі снегу.

У параўнанні з папярэднімі працамі прыкметна змяняюцца каларыт і манера пісьма Іванова. Гарачыя промні летняга сонца саступаюць месца роўнаму рассеянаму святлу зімовага дня. Дэталізацыя змяняецца абагуленай трактоўкай формы, якая, аднак, захоўвае сваю строгую акрэсленасць.

Палотны на гістарычныя тэмы не былі, аднак, адзінымі ў творчасці мастака 900-х гадоў. Яны былі прызначаны для выставак. Для сябе ж Іваноў пісаў творы, якія ў той час нельга было паказваць. Яны адлюстроўвалі падзеі рэвалюцыйнай барацьбы 1905 года. У карцінах, эскізах і малюнках мастак паказаў «Уцёкі дырэктара з фабрыкі ў часе стачкі», «Забастоўку», «Мітынг 17 кастрычніка 1905 года», «Аўдыторыю Маскоўскага ўніверсітэта, ператвораную ў лазарэт у ноч з 20 на 21 кастрычніка 1905 года», «Праводзіны зняволеных», «Расстрэл».

У невялікай па памерах карціне «Расстрэл» столькі думак і пачуцця, што яна ўспрымаецца як рэквіем загінуўшым у рэвалюцыйнай барацьбе 1905 года. Добра выбраны мастаком пункт назірання зверху дазваляе гледачу ахапіць позіркам шырокую гарадскую плошчу, на якой адбываецца трагедыя. Справа на плошчу ўваходзіць натоўп дэманстрантаў з чырвонымі палотнішчамі сцягоў, злева выстраілася шарэнга салдат. Рулі іхніх вінтовак ахутаны дымам стрэлаў. А ў цэнтры карціны — першыя ахвяры жудаснага зладзейства. Перапуджаны стралянінай маленькі сабачка на ўсе ногі бяжыць праз плошчу, што падзяляе два непрымірымыя лагеры — барацьбітоў за свабоду і асляпленую сілу самаўладства. Адмовіўшыся ад некалькіх фігур забітых дэманстрантаў і аб'яднаўшы сілуэты дамоў на заднім плане, мастак дамогся манументальнасці выразнасці. Касыя промні заходзячага сонца ствараюць моцныя кантрасты святла і ценю, што спрые разуменню драматычнай напружанасці моманту.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў Сяргей Васільевіч Іваноў быў сярод нямногіх, хто прадаўжаў дэмакратычныя традыцыі рускага рэалістычнага жывапісу. Змест твораў С. Іванова і ягоны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях тых гадоў — яркае сведчанне адносін мастака да рэвалюцыі. Іваноў быў цалкам на баку пакутаўшага народа, на баку тых, каму і была прысвечана самаадданая праца ўсяго ягонага жыцця.

**Ірына НАЗІМАВА.**







# ЗБРОЯЙ І ПЕСНЯЙ

**Гэтыя кнігі выдавалі партызаны**

«Калі гавораць гарматы — маўчаць музы». Можа гэты крылаты выраз і адпавядаў рэчаіснасці ў які-небудзь далёкі перыяд гісторыі. Што ж датычыцца часу Вялікай Айчыннай вайны нашага народа супраць фашысцкіх захопнікаў, дык паэтычнае слова, песня, сатырычны куплет, частушка, фельетон знаходзіліся на ўзбраенні нашых воінаў і партызан, як і вінтоўка, кулямёт ці граната.

Франтавікі і партызаны любілі паэтычныя творы, у якіх адлюстроўвалася жывая рэчаіснасць, услаўляліся мужныя подзвігі. Колькі разоў бывала так, што сёння адбыўся бой з ворагам, а назаўтра пра гэты бой у атрадзе спявалася песня, і аўтарам яе быў свой таварыш, партызан, які разам у усімі ўдзельнічаў у гэтым баі.

У архівах і музеях нашай рэспублікі захоўваюцца друкаваныя і рукапісныя кніжачкі, брашуркі, сшыткі, у якіх нас і сёння кранаюць шчырыя, палымяныя радкі, што ў свой час хвалявалі сэрцы партызан, клікалі іх на мужныя подзвігі.

Вось твор невядомага аўтара «Ён пазнаў Беларусь», у якім з'едліва высмейваецца імкненне фашыстаў пакарыць беларускую зямлю:

Карл, задраўшы нос высока,
Ў Беларусь ішоў, як пан.
Але выбіў яму вока
Каля Мінска партызан.

І куды б фашыст ні сунуўся, ці пад Оршу ці на Гомельшчыну, — усюды партызаны не давалі яму літасці.

Так на сцежках і дарогах,
Там дзе толькі пабылі,
Трацяць фрыцы рукі, ногі
На савецкай на зямлі.

Партызанскай брыгадай імя Флегантава, якая дзейнічала ў Брэсцкай вобласці, быў сабраны і выдадзены ў сваёй друкарні зборнік вершаў на беларускай і рускай мовах. Увагу прыцягваюць вершы вядомай партызанскай паэтэсы Лііі Лясной «Крывавае нашэсце», «Мсціўцы», «Голас з палону», у якіх апавядаецца пра пакуты ў фашысцкім палоне, пра непакорнасць савецкіх людзей і гераічную барацьбу:

Заявілі мсціўцы: «Вораг
Будзе пакараны».
І пайшлі, вінтоўкі ўзяўшы,
У лес партызаны.
Б'юць фашыстаў на дарозе,
Б'юць у гарнізонах,
Б'юць у дзотах, б'юць на блоках,
Б'юць у эшалонах.
І нідзе чужынцам лютым
Не даюць спакою,
Усюды іх караюць мужна
Грознаю рукою.

Шырока вядомымі ў партызанскіх атрадах былі песні на матыў «Кацюшы». У іх расказвалася пра баявыя справы слаўных партызанскіх разведчыц, якія бясстрашна хадзілі ў варожы тыл, пранікалі ў нямецкія гарнізоны, раскідвалі лістоўкі, мініравалі склады, паравозы, знішчалі фашысцкіх катаў.

У песні «Партызан», якая спявалася на матыў «Крутится, вертится шар голубой», раскрываецца драматычная гісторыя кахання юнака-партызана і дзяўчыны Олі. Гэтая песня была шырока вядома сярод партызан Віцебшчыны. Тут жа нараджаліся новыя песні і вершы пра легендарнага народнага героя Канстанціна Заслонава.

Некалькі рукапісных зборнікаў партызанскай творчасці падрыхтавалі да выдання Віцебскі і Вілейскі падпольныя абкомы камсамола. Гэтыя зборнікі засталіся ненадрукаванымі, бо, напэўна, час апярэдзіў намеры партызан: фашысты былі выгнаны з нашай зямлі і партызаны вярнуліся да мірнай стваральнай працы. Да выдання былі падрыхтаваны апавяданні, аўтарамі якіх з'яўляюцца партызаны і партызанкі, камандзіры і палітработнікі. Партызан У. Дуброўскі напісаў аповесць «Жараўцы» — пра баявыя дзеянні партызанскага атрада «Смерць фашызму», якім камандаваў камуніст Жараў.

У кастрычніку 1943 года Асіповіцкім райкомам камсамола быў выдадзены зборнік апавяданняў, аўтарам якіх з'яўляецца сакратар РК ЛКСМБ Уладзімір Кулікоў. Няхай гэтыя апавяданні недасканалыя ў літаратурных адносінах, іх нельга і цяпер чытаць без хвалявання, яны ўражваюць суровай праўдай жыцця, багаццем фактычнага матэрыялу. У апавяданні «Ім тут не быць», напрыклад, падаецца гісторыя расправы фашыстаў над камсамолкай Нінай Межынай, якая мужна перанесла катаванні ворага, але не выдала сваіх таварышаў-партызан.

Песні, паэмы, частушкі, апавяданні, гумарэскі, якія ствараліся ў партызанскіх атрадах, станавіліся вядомымі ва ўсіх кутках беларускай зямлі. Іх, як лістоўкі, распаўсюджвалі партызанскія сувязныя, скідвалі ў тыле ворага нашы самалёты. Яны адыгрывалі сваю вялікую ролю ў згуртаванні ўсяго народа на барацьбу з ворагам.

Сёння, гартаючы старонкі зборнікаў партызанскай творчасці, мы ставімся да іх з павагай, пашанай, як да грознай зброі, якая ў свой час моцна біла па ворагу, як да помніка духоўнага жыцця народа-змагара ў суровую гадзіну выпрабавання.

**Валянціна ІВАНОЎСКАЯ.**

# ШЧАСЛІВАГА ПЛАВАННЯ!..

**Яўген Каршукоў. У дарогу. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1963.**

Гэты невялічкі зборнік апавяданняў і гумарэсак мае сціплую, непрэтэнцыёзную назву — «У дарогу». Другі на месцы маладога аўтара можа прыдумаў бы што-небудзь сімвалічна-туманнае, каб здзівіць чытача, прымусіць яго ў прадчуванні нечага незвычайнага дрыжачай рукой узяць з прылаўка ці паліцы кніжку. Яўген Каршу-

коў проста як бы запрашае чытача ў падарожжа са сваімі героямі.

Адгортваем першыя старонкі зборніка.

«Параход зварочвае да берагу і, сцішыўшы ход, асцярожна напаўзае носам на пясок... Пясок шоргае аб жалеза, за кармой чуюцца слабыя ўсплёскі. Жвавы падлетак прабягае па палубе. Каля капітанскай рубкі яго спыняе рулявы».




Зноў тое ж уражанне: проста, сцісла, непрэтэнцыёзна...

Падлетак Максім працуе на параходзе матросам. Яшчэ зусім нядаўна ён хадзіў у школу, вудзіў рыбу, ганяў мяч. Але нечакана прыйшло няшчасце: памерла маці і ён застаўся адзін. Тады прыехаў дзядзька, забраў Максіма ў горад і ўладкаваў на параходзе матросам. Так пачалося ў хлопца новае жыццё.

З лёгкай усмешкай пісьменнік расказвае пра падлетка-матроса, якому так хочацца быць падобным на дарослых. Мы бачым Максіма ў даўгаватым, не па росту, бушлаце, у старой шапцы з залатой цэшкай. Вось ён стаіць і непрыкметна для сябе, высока, якраз як капітан, падымае галаву. Вось ён пагардліва глядзіць на дзяўчынку, якая нясмела ступае па трапу, і не вытрымлівае: «Па-апрашу хутчэй, грамадзянка. Вунь людзі яшчэ чакаюць...»

Мы як бы чуем гэты наўмысна грубаваты галасок падлетка, які ўяўляе сябе дарослым і якога хлебам не кармі, а дай трошкі пакрысавацца. Такая дакладнасць дэталей і шчырасць інтанацый глыбока ўздзейнічае на чытача, ствараючы ілюзію сапраўднага жыцця.

На палубу ўслед за дзяўчынкай узбягаюць два хлапчукі, з якімі Максімка калісьці рыбачыў і сябраваў. Пісьменнік накіроўвае нашу ўвагу на тыя факты ва ўзаемаадносінах паміж хлопчыкамі, якія найбольш яскрава падкрэсліваюць характэрнае ў дзецях. Юныя рыбаловы глядзяць з павагай і зайздрасцю на колішняга таварыша, бо кожны з іх марыць стаць матросам і падарожнічаць. Таму яны так усхвалявана ловяць кожнае яго слова і з зайздрасцю глядзяць на цяльняшку, што бялее пад бушлатам. А Максім? Ён спаважна вітаецца з імі, па-даросламу жмурыць вочы і жартуе з іх няўмельства лавіць рыбу, з перавагай старэйшага паказвае сваю каюту, «такую ж, як і ў капітана».

І толькі калі хлапчукі пачалі расказваць пра вясковыя навіны, Максім забывае пра сваю «дарослаcць» і слухае з прагнай цікавасцю. Потым, калі сябры сходзяць з парахода, юны матрос доўга, са смуткам глядзіць ім услед. З твару ў яго «знікае ўся напускная сур'ёзнасць, ён робіцца да жалю прастадушным... Максім з болем адчувае, што ад яго вось зараз адышло нешта такое блізкае, такое харошае і светлае, як гэтая ціхая, бясхмарная чэрвеньская раніца. Адышло і не вернецца...»

Апавяданне «Плыў параход» — адно з самых цікавых у зборніку — характарызуе маладога пісьменніка з лепшага боку. Адчуваецца, што Яўген Каршукоў — назіральны чалавек, умее адбіраць лаканічныя і трапныя дэталі, можа зазірнуць у запаветныя тайнікі душы. Ён стараецца больш паказваць, чымся расказваць, і хоць шмат чаго недагаворвае, але чытач па лёгкіх контурных штрыхах сам дапаўняе характарыстыку герояў, бо ў падтэксце гэтыя штрыхі нясуць добрую нагрузку.

Яўген Каршукоў любіць ставіць герояў сваіх апавяданняў у такія абставіны, у якіх найбольш поўна выяўляюцца іх характары.

Да сваіх ужо старых маці і бацькі аднойчы вечарам нечакана прыехала дачка. Прыехала не адна, а з малым дзіцем, і нават не захацела сказаць, хто даводзіцца бацькам малому: відаць, нейкі прайдзісвет абманіў дзяўчыну. Бацька,



абражаны і пакрыўджаны, гоніць дачку з дому: «Хай пераначуе і выбіраецца!»

Стары даўно думаў пра добрага зяця і не раз гаварыў суседзям: «Хату трэба ладзіць, падрубы мяняць... Я ўжо не здолею. Хай зяцёк... яму тут жыць!» «А тут на табе — што нарабілася...»

Ноччу, калі ў хаце ўсе паснулі, стары ўстае і ціхенька ідзе да ложка, дзе спіць унук. «Што ён хоча рабіць?» — у трывозе падхапілася старая. Жах у яе душы раптам змяніўся здзіўленнем: пальцы старога асцярожна, ласкава папраўлялі коўдрачку.

Пад раніцу стары ўстаў раней за ўсіх, распаліў грубку, бо ў хаце стала холадна. Жанчына, «радасна ўсміхаючыся, прыслухалася: на двары ўсё яшчэ раздаваліся глухія ўдары сякеры — ён калоў дровы. Тыя самыя дровы, што гарэлі ў грубцы, ад якіх ішло гэтае цяпло!»

Некалі Чэхаў пісаў, што пісьменніку не абавязкова займацца ў сваіх творах нудным маралізатарствам, для яго больш важна — правільна паставіць пытанне, а чытач сам разбярэцца, што да чаго. Нам здаецца, што лепшыя апавяданні Яўгена Каршукова якраз і вызначаюцца правільнай пастаноўкай пытанняў і маральна-этычных праблем, якія ён хоча вырашыць.

У зборніку маладога пісьменніка, акрамя «сур'ёзных», змешчаны і гумарыстычна-сатырычныя творы. Прычым, іх — большасць. Героі гэтых твораў — прыстасаванцы, хапугі, бюракраты — людзі, якія ганьбяць высокае званне савецкага чалавека.

У невялічкай гумарэсцы «Мой знаёмы» аўтар высмейвае сквапнасць мешчаніна, які марыць аб тым часе, калі ўсюды ўсё будзе бясплатна: «Вось, кажуць, праз дваццаць год жыццё настане...»

У мяккай гумарыстычнай манеры напісана і апавяданне «Сатырыкі». Мы з цікавасцю чакаем развязкі камічнай сітуацыі: каго ж усё-такі будуць крытыкаваць сатырыкі ў насценнай газеце «Аса»? З аднымі не хочуць псаваць добрых адносін, другія — кіруючыя работнікі, нельга падрываць іх аўтарытэт. Нарэшце, «сатырыкі» знайшлі выхад — рашылі пакрытыкаваць старога вартаўніка, хоць ён ні ў чым не вінаваты. А каб улагодзіць яго, паабяцалі ў наступным квартале выдаць яму прэмію. «Бог з вамі, крытыкуйце, не прывыкаць. Баба мяне бадай што кожны дзень крытыкуе, і — нічога. Пяты дзесятак цярплю...» — згаджаецца вартаўнік, хітра апусціўшы вочы.

Гумар маладога пісьменніка светлы, жыццярадасны, але ў ім няма і крошкі прымірэння з тымі, супраць каго ён накіраваны. У голасе пісьменніка чытач адчувае гнеўныя, сатырычныя ноткі. І наогул, у апавяданнях пісьменніка гумар і сатыра даволі шчыльна пераплятаюцца паміж сабою.

Хочацца сказаць і сакраментальнае «але», без якога абыходзіцца рэдка хто з рэцэнзентаў. Некаторым гумарэскам Я. Каршукова не стае яркіх гумарыстычных фарбаў («Паспяшыўся», «Артыст» і іншыя), некаторым — значнасці думкі: сатырычныя і гумарыстычныя стрэлы пісьменнік часам накіроўвае па цэлях зусім нязначных.

Ёсць у Каршукова два апавяданні — «Маці» і «У дарогу». У іх ён паспрабаваў намаляваць вобраз маці. Але псіхалагічнага адкрыцця пісьменнік не зрабіў. Маці ў абодвух апавяданнях, амаль як дзве кроплі вады, падобны між сабой. Здарылася гэта таму, што аўтар не надаў ім характэрных індывідуальных рыс. У творах паўтараюцца нават некаторыя дэталі. Калі ў першым апавяданні маці марыць аб тым, што яе сын ажэніцца з Марынкай, то ў другім яна адпраўляе сына да Марыйкі. Розніца невялікая! Як і ў першым, так і ў другім апавяданні гарыць на стале лямпа з падкручаным кнотам, а за печкай надакучліва турчыць цвыркун. Адным словам, адчуваецца, што пісьменнік у гэтым выпадку ішоў не ад глыбокіх жыццёвых наглядanняў, а ад літаратурнай схемы. У выніку ў абодвух апавяданнях вобраз маці выпісан у нейкім традыцыйным плане.

Маладому пісьменніку яшчэ часам не стае глыбокага філасофскага асэнсавання жыцця. Такое патрабаванне яму можа здацца залішне шырокім і неканкрэтным. Сапраўды, скажа чытач, паспрабуй даць філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці ў маленькім апавяданні памерам у 2 — 3 старонкі? Але ж

ці ў памеры справа? Мы ведаем з гісторыі літаратуры шмат прыкладаў ёмкасці невялічкіх апавяданняў, дзе малая форма напоўнена вялікім зместам. Справа тут у іншым. Ёсць усе падставы чакаць ад гэтага здольнага аўтара, што ён у сваім творчым развіцці пойдзе па шляху больш шырокага псіхалагічна-насычанага паказу жыцця. І тады героі яго твораў не будуць носьбітамі нейкай адной рысы, адмоўнай ці станоўчай, а будуць паўнакроўнымі людзьмі, шматграннымі літаратурнымі тыпамі.

І яшчэ. Хацелася б, каб Яўген Каршукоў у сваёй творчай практыцы больш прытрымліваўся традыцый свайго лепшага апавядання «Плыў параход». Няхай жа літаратурны параход маладога аўтара плыве ў вялікі, бурлівы акіян жыцця, не ведаючы прыпынкаў і меляў драбнатэм'я.

**Вечаслаў КУЦЭНКА.**

# КНІГА ЛЮБВІ І ГНЕВУ

**Віталь Вольскі. Афрыканскае падарожжа. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1963.**




У наш час рэактыўных хуткасцей вельмі зручна падарожнічаць на самалёце. Усяго некалькі гадзін — і вы на другім канцы Зямлі. Толькі сапраўдныя падарожнікі чамусьці выбіраюць іншыя сродкі перасоўвання. Ну што ўбачыш пад крылом самалёта? Вось яны і падарожнічаюць на цеплаходзе і аўтамабілі, у лодцы, на плыце і нават пешкі. Для гэтых цікаўных і нястомных людзей падарожжа, як аб гэтым добра сказаў аўтар славутага «Фрэгата «Палады», не проста забава, а вынік старанңай падрыхтоўкі, высокай назіральнасці, творчага ўяўлення і высакароднай ідэі. Ці не таму мы так зачытваемся кнігамі Смуула і Салаухіна, Зікмунда і Ганзелкі, Бамбара і Хейердала.

І для нашага земляка, пісьменніка Віталя Вольскага, які таксама вельмі любіць вандраваць, кожнае падарожжа — гэта не толькі імкненне самому ўбачыць чужыя краіны, але, — і гэта, бадай, галоўнае, — шчырае жаданне расказаць аб іх сваім сябрам-чытачам. Яркае сведчанне гэтага — яго апошняе падарожжа ў краіны Заходняй Афрыкі, вынікам якога з'явілася кніга «Афрыканскае падарожжа». Напісаная ў жанры дарожных нататак, яна адрасавана юным чытачам, але можна з поўнай падставай сказаць, што гэтую кнігу з няменшай цікавасцю прачытаюць і дарослыя.

Геаграфічны маршрут паездкі толькі знешне служыць пісьменніку сюжэтам. Мы не толькі ідзём і едзем разам з ім па невядомых краінах, але і трымаемся маршруту яго думкі. Вось гэтая аўтарская думка, якая ўвесь час знаходзіцца ў развіцці, і складае сапраўдную аснову твора.

Аўтар многіх цікавых краязнаўчых кніг, добры знаўца і сябар прыроды, Віталь Вольскі і ў гэтым падарожжы застаўся верны сабе. У яго апісаннях багатай фауны і флоры Афрыкі заўсёды зліты два пачаткі — выяўленчы і пазнавальны.

Вось аўтар упершыню знаёміцца з афрыканскай саваннай. Сярод сухой жоўта-бурай травы ўзвышаюцца славутыя баабабы — вузлаватыя, прысадзістыя дрэвы з тоўстымі, магутнымі стваламі. Яны так апісаны аўтарам, што чытач быццам на свае вочы бачыць гэтыя дрэвы-асілкі. І разам з тым, мы даведваемся, што ў многіх старых баабабаў ствол унутры пусты, што часам у такім дупле, адкрытым зверху, збіраецца дажджавая вада і захоўваецца ўнутры дрэва, як у вялізнай бочцы. Афрыканцы п'юць гэтую ваду і сцвярджаюць, што яна карысная для здароўя, бо настойваецца на соках дрэва. З драўніны баабабаў робяць дошкі, а таксама гаспадарчае начынне, з валокнаў кары — вяроўкі і струны для музычных інструментаў, лісты баабаба ўжываюцца і як прыправа да розных нацыянальных страў і як лекі ў народнай медыцыне. Нездарма пасля абвяшчэння незалежнасці баабаб стаў сімвалам Рэспублікі Сенегал.

З гэтай кнігі мы не толькі і не столькі даведваемся пра багатую прыроду Афрыкі, колькі пра яе людзей, пра тых, хто, скінуўшы ярмо каланіялізму, будуе новае жыццё.

Аўтар глядзеў на Афрыку вачыма сапраўднага, шчырага друга. Ён уважлівы да гістарычных асаблівасцей жыцця народа, поўны павагі да яго культуры і першых самастойных эканамічных дасягненняў. Перад намі праходзяць людзі Сенегала, Берага Слановай Косці, Гвінеі.

Дасціпна і проста расказвае Віталь Вольскі пра свае шматлікія сустрэчы і знаёмствы з мясцовымі жыхарамі. Усюды ён умее прыкмеціць цікавыя дэталі традыцыйнага побыту і нацыянальнага характару. Разам з тым, аўтар заўважае і такія дэталі, якія сведчаць аб нечым новым у жыцці афрыканцаў. На мітуслівым, вясёлым Кірмашы ў сталіцы Сенегала — Дакары ён убачыў жанчыну, на плацці якой замест традыцыйнага арнаменту намаляваны літары «А, Б» і г. д., а таксама лічбы «2+2=4». Карыстаючыся тканінай замест падручніка, можна засвоіць алфавіт і адначасова азнаёміцца з пачаткавай арыфметыкай.

У порце Канакры аўтар сустрэў маладога рабочага. На яго кашулі ў цэнтры вялікай пяціканцовай зоркі быў партрэт Патрыса Лумумбы, героя і пакутніка новай Афрыкі. Гэта, — піша аўтар, — характэрная праява салідарнасці афрыканскіх народаў, якія змагаюцца за вызваленне сваіх краін з-пад улады каланізатараў.

Праз усё падарожжа па краінах былой французскай Заходняй Афрыкі аўтара кнігі не пакідае думка аб драпежнай сутнасці каланіялізму. Ён усюды бачыць разбураную гаспадарку, што засталася ў спадчыну ад былых гаспадароў. Яго запіскі — гэта кніга любві і гневу. Любві да чорнага чалавека, учарашняга раба, які ўзняў галаву, выпрастаў магутныя плечы і адчувае сябе сапраўдным гаспадаром сваёй цудоўнай і багатай зямлі; гневу да тых, хто на працягу стагоддзяў прыгнятаў афрыканскія народы.

У кнізе Віталя Вольскага прыкметы знешняга аблічча краіны ці народа не існуюць асобна ад сацыяльнай характарыстыкі. Ён бачыць, што знешні каларыт Абіджана — сталіцы Берага Слановай Косці — больш афрыканскі ў параўнанні з Дакарам, які нагадвае гарады арабскіх краін. Але, разам з тым, ён прыкмячае, што багатыя афрыканцы, фабрыканты, плантатары і купцы жывуць адным жыццём з багатымі еўрапейцамі. Афрыканскія інтэлігенты і служачыя трымаюцца разам з інтэлігентамі і служачымі еўрапейскага паходжання. Тут жыхары дзеляцца не па расавых і нацыянальных адзнаках, а па сацыяльных. Сталіца Сенегала Дакар, — піша аўтар, — гэта «горад кантрастаў, прадукт нездаровага, ненармальнага аднабаковага развіцця каланіяльнай эканомікі». Калі цэнтр яго зіхаціць чысцінёй тратуараў і бляскам шкляных вітрын, то на ўскраінах, у старых афрыканскіх кварталах, вуліцы, тратуары брудныя, засмечаныя. А ў Канакры нават перад самымі прыгожымі сучаснымі будынкамі няма тратуараў. Клапаціцца аб іх

французскія ўлады не лічылі патрэбным: абыдуцца чорныя і без тратуараў, іх босыя ногі прывыклі да гарачага пяску і каменняў.

Пасля абвяшчэння незалежнасці еўрапейцы пакінулі Афрыку. Усё, што засталося ад панавання каланізатараў, гэта — ўбачанае аўтарам у Гвінеі зборышча знятых бронзавых помнікаў былым правіцелям краіны. На пяску, нібы мерцвякі, валяліся зрынутыя бюсты французскіх губернатараў, генералаў, чыноўнікаў. «Што ж, — усклікае аўтар, — папанавалі на чужой зямлі і досыць! Ляжыце цяпер на сметніку!»

У гарадах незалежных афрыканскіх краін цяпер пастаўлены іншыя помнікі. На адной з плошчаў Абіджана ўзвышаецца помнік-абеліск афрыканскай жанчыне, устаноўлены ў Дзень маці, які адзначаецца тут штогод. У Канакры на Плошчы герояў вызвалення ад каланіялізму ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў выглядзе невысокай сцяны. На сцяне па ўсім фасадзе — надпіс чорнымі літарамі: «Рэспубліка Гвінеі ўсім пакутнікам каланіялізму».

На дапамогу маладым афрыканскім рэспублікам прыйшлі сацыялістычныя краіны. Савецкія спецыялісты памагаюць маладой дзяржаве Гвінеі наладжваць народную гаспадарку, рыхтаваць маладыя кваліфікаваныя кадры.

На вуліцах гвінейскай сталіцы часта можна ўбачыць вялізныя грузавікі маркі «МАЗ» з серабрыстай фігуркай зубра на радыятары. Працуюць на палях Гвінеі і другія нашы добрыя знаёмыя — трактары «Беларусь». У дзяржаўным універмагу «Нафайя» разам з гвінейскімі цукеркамі прадаюць беларускае згушчанае малако з Рагачова, украінскі цукар, чэхаславацкі абутак, польскія тканіны.

«...Жывецца гвінейцам пакуль што не вельмі лёгка, — піша аўтар. — Але я ніколі не бачыў тут на тварах выразу трывогі, смутку ці заклапочанасці. Галовы ва ўсіх высока ўзняты, вочы — цікаўныя, адкрытыя насустрач усяму свету, позірк упэўнены... Усе адчуваюць сябе гаспадарамі, бо ведаюць: усё, што існуе на гэтай зямлі, і сама гэта зямля, належыць цяпер народу».

Дарожныя запіскі Віталя Вольскага «Афрыканскае падарожжа», напісаныя ў лепшых традыцыях навукова-папулярнай прозы, аформленыя з добрым мастацкім густам, выклікаюць пачуццё ўдзячнасці да аўтара і ўсіх, хто памагаў яму выдаць гэтую добрую і патрэбную кнігу.

**Уладзімір ЛАЎРОЎ.**

# ДАСЛЕДАВАННЕ МАЛАДОГА ТЭАТРАЗНАЎЦА

**С. А. Пятровіч. Народны артыст БССР Е. А. Міровіч. Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1963.**

На паліцах кнігарань з'явілася невялічкая кніжачка маладога тэатразнаўца Сяргея Пятровіча, прысвечаная выдатнаму дзеячу беларускай сцэны народнаму артысту БССР Еўсцігнею Афінагенавічу Міровічу.

Я меў шчасце часта сустракацца, гутарыць і разам працаваць з гэтым цудоўным чалавекам, настаўнікам і сябрам. Е. А. Міровіч быў адным з першых мастацкіх кіраўнікоў тэатра імя Янкі Купалы, стваральнікам не толькі яго першых спектакляў, але і выхавальнікам першых акцёраў — У. Крыловіча, Б. Платонава, У. Уладамірскага, Л. Ржэцкай, І. Ждановіч, Г. Грыгоніса, Г. Глебава, В. Пола. Э. Шапко, першых драматургаў, мастакоў, музыкаў, бутафораў і нават рабочых сцэны.




Творчы і жыццёвы шлях Еўсцігнея Афінагенавіча змястоўны, яркі і багаты. Немагчыма адарваць Міровіча-драматурга, ад Міровіча - рэжысёра, акцёра і педагога. Гэты чалавек сапраўды любіў мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве. Гэтага ён патрабаваў і ад сваіх вучняў, сяброў.

У кнізе С. Пятровіча я сустрэў іменна такога Міровіча. У першым раздзеле кнігі мы знаёмімся з юнацкімі гадамі «Сцешы», яго першымі крокамі на самадзейнай сцэне, а потым і ў прафесіянальным Інтымным і Ліцейным тэатрах Пецярбурга.

Аўтар расказвае пра першыя драматычныя творы Еўсцігнея Міровіча, невядомыя нашым чытачам і гледачам. Міровіч напісаў да 40 п'ес. Асаблівым поспехам карысталіся ў дарэвалюцыйным тэатры яго сатырычныя творы «Графіня Эльвіра», «Тэатр купца Япішкіна» і «Вова прыстасаваўся».

Пра камедыю «Вова прыстасаваўся» ўпамінаецца ў паэме Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін»:

> Вокруг него
> его подхалимы —
> патриоты —
> приспособились Вовы —
> пишут,
> руки предавшие вымыв:
> — Рабочий,
> дерись
> до последней крови!

Крылатымі сталі словы «тэатр Япішкіна». У гэтым тэатры паказвалі адразу: «Шчаслівую Аркадзію» ў 10 серыях за адзін вечар, з Максам Ліндэрам і Прэнсам! Драму, камедыю, оперу, балет... Адным словам, усё — за 20 капеек, а ў дадатак — «Галошы і паліто можна не скідаць».

Пра Міровіча, які іграў у сваёй п'есе купца Япішкіна, часопіс «Театр и искусство» ў 1914 годзе пісаў, што ён «выдатна іграў з усімі бытавымі падрабязнасцямі і трапна падкрэсленымі рысачкамі».

У другім раздзеле кнігі расказваецца пра творчую дзейнасць Міровіча, як першага мастацкага кіраўніка тэатра імя Янкі Купалы, таленавітага пастаноўшчыка спектакляў, сапраўднага настаўніка і шчырага сябра творчай моладзі.

Е. А. Міровіч шчыра клапаціўся пра стварэнне беларускага нацыянальнага рэжысёра. Ён ставіць п'есу Міхася Чарота «На Купалле», сам піша, а потым многа працуе над пастаноўкай сваіх п'ес «Машэка» і «Кастусь Каліноўскі». У рабоце над гэтымі пастаноўкамі Міровіч-рэжысёр часта дапаўняў Міровіча-драматурга.

Асноўным творчым прынцыпам Міровіча была жыццёвая праўда. Рэжысёрскаму почырку Міровіча ўласціва ансамблевасць спектакля, дзе пачэсную ролю адыгрываюць масавыя народныя сцэны. «Без школы масавых сцэн не можа быць сапраўднага акцёра», — гаварыў Міровіч. Змагаючыся за ансамбль і калектыўную творчасць тэатра, ён, як ніхто, умеў знайсці ключ да сэрца кожнага акцёра, раскрыць яго індывідуальныя творчыя асаблівасці.

Аб тым, што аўтар кнігі ўмее вобразна і эмацыянальна прааналізаваць творчую працу драматурга і рэжысёра, яскрава гаворыць раздзел — «У барацьбе за сучасны рэпертуар». У гэтым раздзеле паказана работа Міровіча над спектаклем «Мяцеж» паводле Д. Фурманава, над п'есамі «Кар'ера таварыша Брызгаліна» і «Перамога», аўтарам і пастаноўшчыкам якіх, як вядома, быў сам Міровіч.

Многа працаваў Еўсцігней Афінагенавіч з маладым тады драматургам Яўгенам Рамановічам над п'есай «Мост», з ваенурачом Дзмітрыем Курдзіным над яго першым драматургічным творам «Між-

бур'е» і асабліва з рабочым Рыгорам Кобецам над п'есай «Гута». Уважлівая і старанная творчая праца старэйшага майстра сцэны з маладымі аўтарамі была надзвычай плённая і карысная. П'еса «Мост» прайшла сотні разоў на сцэне Купалаўскага тэатра і тэатраў Украіны. Спектаклі «Міжбур'е» і «Гута» ўбачылі святло рампы на алімпіядзе тэатраў народаў СССР у Маскве і атрымалі высокую ацэнку журы.

Пры ўсёй сваёй улюбёнасці ў Міровіча аўтар кнігі не забывае і пра творчыя памылкі, якія выявіліся ў фармалістычнай трактоўцы спектакляў «Мешчанін у дваранстве» Мальера і «Чырвоная маска» Луначарскага.

Значна слабей, чым папярэднія, напісаны апошні раздзел кнігі — «Выхаванне творчай моладзі». Выключэннем можа быць хіба расказ аб рабоце Міровіча ў Гомельскім тэатры над спектаклем «Даходнае месца» А. Астроўскага і ў Тэатры юнага гледача над «Цудоўнай дудкай» В. Вольскага.

Шкада, што ў кнізе ні слова не сказана аб праграмным спектаклі «Як гартавалася сталь», пастаўленым Е. Міровічам разам з маладым рэжысёрам-дэбютантам Ю. Палічынецкім. Вельмі бегла ўпамінаецца і пра другія спектаклі, пастаўленыя Міровічам на сцэне даваеннага Тэатра юнага гледача. А між тым, у Міровіча не было прахадных спектакляў. Кожны яго новы спектакль з'яўляўся своеасаблівай школай для акцёраў і новым словам для гледачоў. У Тэатры юнага гледача, як і раней у Тэатры Янкі Купалы, Міровіч быў не толькі рэжысёрам-пастаноўшчыкам, а і душой калектыву, настаўнікам і выхавальнікам. На яго рэпетыцыі прыходзілі ўсе акцёры — занятыя і не занятыя.

Аўтару кнігі варта было б расказаць і пра творчыя сустрэчы Міровіча з народным паэтам Я. Купалам у час работы над п'есай «Машэка» (Міровіч заўсёды з прыемнасцю ўспамінаў пра гэтыя сустрэчы), а таксама павесці больш грунтоўную гаворку пра ўплыў Станіслаўскага на творчую практыку Міровіча і развіццё беларускага нацыянальнага тэатра.

Але, як кажуць, усё гэта не засланяе ў кнізе безумоўных яе вартасцей, бо яна дае правільнае ўяўленне аб жыцці і творчасці аднаго з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра, які ўнёс свой плённы ўклад у скарбніцу сацыялістычнага мастацтва.

**Уладзімір СТЭЛЬМАХ.**

# ТАЙНА ХЛУСНІ

**У. Ядаў. Тайна хлусні. Заметкі пра тэорыі і метады буржуазнай прапаганды. Дзяржпалітвыдат. Масква, 1963.**

Замест звычайнай рэкламы зубных шчотак, сігарэт і зубной пасты газета «Нью-Йорк геральд трыбюн» пачала рэкламаваць... часопіс «Лайф». Што за прычына?

Прычына вельмі простая. Часопіс «Лайф» прыступіў (каторы раз!) да публікацыі серыі антыкамуністычных артыкулаў, першы з якіх зусім сур'ёзна сцвярджае, што Маркс разглядаў сваю тэорыю, як «эрзац-рэлігію», другі расказвае пра «агрэсіўнасць» Савецкага Саюза, трэці прапануе павялічваць ваенны бюджэт і праводзіць больш жорсткую «палітыку стрымлівання», палітыку «на грані вайны».

А вось адзін з нумароў часопіса «Харперс мэгэзін» са спецыяльна анансаваным дадаткам пад назвай «Стан рускага духу», які заняў цэлыя 50 старонак. Мэта дадатку — паказаць «такія аспекты Расіі, якія звычайна застаюцца ўтоенымі ад заходняга свету», раскрыць «тайнікі рускай душы».




Даследаваннем «аспектаў» і «тайнікоў» заняўся спрактыкаваны ў антысавецкім паклёпе член рускага даследчага цэнтра пры Горвардскім універсітэце прафесар Р. Пайца. Аднак ён не змог прыдумаць нічога больш арыгінальнага, як яшчэ раз паўтарыць даўно абрыдлыя простым амерыканцам антыкамуністычныя сцверджанні пра «нетрываласць савецкага ладу», якімі суцяшаюць адзін аднаго старыя рускія белаэмігранты ва ўсіх шынках Амерыкі.

На тых жа старонках «Лайфа», якія расхвальвае «Нью-Йорк геральд трыбюн», выступіла і нейкая пані Маркуша Фішар. Ураджэнка Расіі, як прадставіла яе рэдакцыя, вельмі «дакладна» і «аб'ектыўна» раскрыла «таямніцы душ»... рускіх бабулек, якім у Расіі не астаецца нічога іншага, як няньчыць унукаў і быць служанкамі ў доме сваіх дарослых дзяцей. Трэба меркаваць, што сцверджанні пані Фішар былі б больш верагодныя, калі б яна не «прапусціла» некаторыя вельмі істотныя дэталі, як, напрыклад, тое, што ў СССР існуе самая дасканалая ў свеце пенсійная сістэма, што ў Краіне Саветаў дзіцячыя сады і яслі абслугоўваюць больш за 2,5 мільёна дзяцей.

Пра гэтыя і іншыя метады сучаснай буржуазнай прапаганды цікава расказваецца ў кнізе дацэнта Ленінградскага ўніверсітэта У. Ядава «Тайна хлусні».

Сучасны імперыялізм апынуўся ў становішчы безнадзейнага ідэалагічнага банкрута. «Вакуум ідэй» і па сённяшні дзень не перастае трывожыць духоўных лідэраў «вольнага свету». І ці не таму былы віцэ-прэзідэнт ЗША Ніксан скардзіцца на «адсутнасць мэты», а Людвіг Эрхард, яшчэ калі быў бонскім віцэ-канцлерам, загаварыў аб неабходнасці «выставіць нешта ў працівагу савецкай ідэалогіі».

«Хто дасць ідэі Амерыцы? Хто можа так праўдзіва і ярка ўказаць нам мэту нашай нацыі, каб амерыканскі народ усрыняў гэтую мэту і пайшоў да яе? — пісаў член спецыяльнай прэзідэнцкай камісіі ў ЗША прафесар Росітэр. — У нас няма Маркса, няма настаўніка, якога шанавалі б як першую крыніцу».

Не маючы ўласных прагрэсіўных ідэй, буржуазная прапаганда злосна паклёпнічае на сацыялізм, заадно прыхарошваючы стары, струхлелы капіталізм.

Глыбока і доказна выкрывае У. Ядаў буржуазныя міфы пра «народнасць капіталізму», пра нібыта здзейсненую ў Злучаных Штатах Амерыкі «капіталістычную рэвалюцыю», сутнасць якой заключаецца ў тым, што на змену ўладальніку капіталу — эксплуататару прыйшоў менэджэр, г. зн. прафесіянал-упраўляючы, і капіталізм дзіўным чынам ператварыўся ў нейкае грамадства «эканамічнага гуманізму».

Уся гэтая наўмысная хлусня «падмацоўваецца» нечуванай шуміхай пра «народныя акцыі», уладальнікі якіх нібыта становяцца «раўнапраўнымі партнёрамі» вялікага гаспадара, маленькімі капіталістамі. Але што такое акцыя ў 10 або нават 100 долараў, набытая рабочым або служачым, у параўнанні з той колькасцю акцый, якою валодаюць буйнейшыя прамыслоўцы і землеўласнікі, пытаецца аўтар. І тут жа адказвае: кропля ў моры! Адна толькі сям'я Дзюпонаў мае акцыянерны капітал, што ў 10 разоў перавышае кошт акцый, якімі валодаюць усе рабочыя Амерыкі.

Буржуазныя ідэолагі Захаду

ўзмоцнена займаюцца пытаннямі вывучэння метадаў і прыёмаў прапаганды. Большасць з іх бачыць шлях яе ўдасканалення ў вывучэнні спадчыны Гебельса. Так, прафесар Л. Доўб спецыяльна даследаваў асабісты архіў нямецкага доктара хлусні і напісаў кнігу, у якой падрабязна выклаў усе 19 прынцыпаў фашысцкай прапаганды.

Яшчэ далей у сваіх пошуках пайшоў нейкі Э. Марцін. Ён «выдаў» фразу, якая прэтэндуе на афарызм: «Асветнік церпіць паражэнне, пакуль ён не разварушыць розум, а прапагандыст — пакуль не закаламуціць яго».

Вельмі цікавы раздзел кнігі «фабрыка хлусні і амаралізму», у якім расказваецца пра велізарны прапагандысцкі апарат буржуазнага свету. Галоўная зброя сучаснай буржуазнай прапаганды, піша аўтар, гэта масавы перыядычны друк, радыё, тэлебачанне, кіно, — усё тое, што амерыканскія сацыёлагі аб'яднаді пад агульнай назвай прэса. Слова «прэса» як назоўнік у англійскай мове азначае «друк», а ў якасці дзеяслова (дзеянне) — «націскаць», «душыць», «навязваць». Каб уявіць сабе ўсю магутнасць буржуазнай прапаганды, дастаткова паглядзець хоць бы на адну дэталь гэтага «націскнога» апарата — газету «Нью-Йорк таймс», звязаную з банкам Лімэнаў, а праз яго — з домам Моргanaў.

На выданне толькі гэтай газеты выдаткоўваецца больш за 2 500 вагонаў паперы ў год. Нядзельныя выпускі яе маюць больш чым мільённы тыраж і аб'ём — 100 старонак. Штодзённы выпуск газеты абыходзіцца ў 200 — 300 тысяч, нядзельны — да паўмільёна долараў.

«Сумесь рэкламы і сенсацыйных навін, якія скажаюць праўду, «коміксы» і паўпарнаграфічныя ілюстрацыі, дэтэктыўныя гісторыі і судовыя справаздачы, свецкая хроніка і падрабязнае апісанне жыцця тых, хто стаіць на чале ўлады, гараскопы, тэндэнцыйныя каментарыі палітычных падзей, паклёпы на прагрэсіўныя арганізацыі — такое аблічча масавай буржуазнай прэсы, — піша У. Ядаў. — Буржуазная прапаганда стварыла міф пра тое, што сенсацыйнасць прэсы — «вынік нізкіх густаў публікі». На самай справе, падобнае аблічча газеты створана намаганнямі буржуазных ідэолагаў і цалкам адпавядае інтарэсам манапалістаў».

Галоўнейшы з афіцыйных органаў амерыканскай прапаганды — Інфармацыйнае агенцтва Злучаных Штатаў (ЮСІА). У агенцтве налічваецца 111 тысяч супрацоўнікаў, 230 зарубежных інфармацыйных цэнтраў, 111 перыферыйных місій у 94 краінах свету. Гадавы бюджэт ЮСІА перавышае 100 мільёнаў долараў, не лічачы фінансавай падтрымкі буйных прадпрыймальнікаў. У распараджэнні ЮСІА — радыёстанцыя «Голас Амерыкі», перадатчыкі якой ёсць на ўсіх мацерыках. Радыёстанцыя трансліруе свае далёка не аб'ектыўныя, часта наўмысна паклёпніцкія перадачы на 37 мовах амаль кругласутачна. Перадачы «Голасу Амерыкі» трансліруюцца таксама мясцовымі радыёстанцыямі 75 буржуазных краін.

Апрача афіцыйных органаў імперыялістычнай прапаганды, дзейнасць якіх адносіцца да «белай» (адкрытай) прапаганды, існуе яшчэ так званая «шэрая» або нават «чорная» прапаганда, якая лічыцца найбольш эфектыўнай.

Галоўнае кіраўніцтва «шэрай» і «чорнай» прапагандай ажыццяўляе «Камітэт барацьбы за вольную Еўропу», або, як яго называюць, арганізацыя «Крыжовы паход за волю». Асноўны прапагандысцкі рупар камітэта — радыёстанцыя «Вольная Еўропа». За кошт асігнаванняў амерыканскага кангрэсу «Вольная Еўропа» набыла 200 тысяч радыёапаратаў для нелегальнага размяшчэння ў сацыялістычных краінах. У якасці супрацоўнікаў «Вольнай Еўропы» падабраны белаэмігранты, якія кругласутачна працуюць над складаннем правакацыйных антыкамуністычных праграм.

Яшчэ больш брудную антысавецкую і антыкамуністычную прапаганду вядзе радыёстанцыя «Вызваленне», якая знаходзіцца пад ведамам «Амерыканскага камітэта барацьбы за вызваленне ад бальшавізма». Камітэт — галоўны пастаўшчык шпіёнскіх кадраў, якія праходзяць спецыяльную падрыхтоўку ў Цэнтральным разведвальным упраўленні ЗША. Радыёстанцыя супрацоўнічае з фашысцкімі арганізацыямі. Амаль на 40 працэнтаў праграмы «Вызваленне» складаюцца з агульнай для ўсіх каналаў антысавецкай выдумкі, на 30 — з антысаветчыны, якую спецыяльна рыхтуюць для кожнай савецкай рэспублікі, і на 30 — з праграм «Голасу Амерыкі» і іншых радыёстанцый, што вядуць «халодную вайну» ў эфіры.

«Ліхтар для ідыётаў» — такім эпітэтам ахрысцілі амерыканцы тэлевізар. Хлусня, антысавецкі паклёп, рэклама, прапаведзь забойстваў і амаралізму дсягнулі ў амерыканскім тэлебачанні фантастычных маштабаў. «Многія адукаваныя людзі мяркуюць, — пісаў Дж. Марцін, — што тэлебачанне можа зрабіць з нас ідыётаў і разбурыць амерыканскую культуру».

За адзін тыдзень, як сведчыць амерыканскі даследчык Сміт, які тры гады вывучаў праграмы нью-йоркскіх тэлецэнтраў, нью-йоркскія тэлегледачы ўбачылі 7 060 актаў гвалту; кожны школьнік ЗША, які дасягнуў 13 год, паспеў прагледзець па тэлевізару падрабязнасці 13 тысяч забойстваў.

Пропаведзі садызму, жорсткасці, сексуальнай разбэшчанасці служыць і буржуазнае кіно. Галівуд спецыялізуецца ў асноўным на вытворчасці фільмаў-жахаў. «чорных фільмаў», фільмаў пра «Захад», гангстэрскіх.

«Лагічнае прадаўжэнне традыцый гангстэрскіх фільмаў, фільмаў-жахаў і дэтэктываў, — піша У. Ядаў, — «чорны фільм», які ўвабраў у сябе ўсё, што ёсць самага горшага. Тут няма двух лагераў — дабра і зла, што прысутнічалі ў фільмах пра гангстэраў... У «чорным фільме» ахвяра злачынства заўсёды падазроная асоба, гераіня абавязкова заганная, часта наркаманка, галоўная дзеючая асоба, як правіла, вар'ят.

Усё ў буржуазным кіно і тэлебачанні накіравана на свядомае разбэшчванне псіхікі гледачоў, дзесяткаў мільёнаў гледачоў, якім год за годам ўводзяць атруту, здольную атруціць самы здаровы арганізм.

На подкуп грамадскай думкі таўстасумы выкідваюць мільёны. І хоць шчодра аплочаная буржуазная прапаганда не дае жаданага эфекту, нельга недаацэньваць таго, чаго яна дасягае.

Адной з галоўных задач ідэйна-выхаваўчай работы партыі ў сучасных умовах, як сказана ў пастанове чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС, з'яўляецца выхаванне новага чалавека, павышэнне палітычнай пільнасці, разгорнутае наступленне супраць імперыялістычнай ідэалогіі, супраць перажыткаў мінулага ў свядомасці людзей. Глыбей усвядоміць значэнне гэтых задач мільёнам савецкіх людзей, асабліва моладзі, і памагае кніга У. Ядава «Тайна хлусні».

**Васіль СУДНІКОВІЧ,**
**старшы інспектар Белкнігагандлю.**

...Камісія французскай Акадэміі навук працавала над складаннем энцыклапедычнага слоўніка. У залу, дзе адбывалася пасяджэнне, зайшоў славуты натураліст Кюўе.

— Рад вас бачыць, пан Кюўе,— сказаў адзін з сарака членаў камісіі.— Мы толькі што згадзіліся на такое тлумачэнне аднаго цяжкага слова: «Рак — невялікая чырвоная рыба, якая ходзіць задам наперад». Тлумачэнне гэтае цалкам нас задавальняе, але ўсё ж мы хацелі б пачуць і вашу аўтарытэтную думку.

— Цудоўна, панове! — сказаў Кюўе.— Аднак дазвольце зрабіць невялікую заўвагу, абапіраючыся на навуку аб прыродзе. Справа ў тым, што рак не рыба, ён не чырвоны і не ходзіць задам наперад. За выключэннем усяго гэтага ваша вызначэнне — цудоўнае.

* * *

...Місіс Эдзі Хал, старанная хатняя гаспадыня з Юньонвіля (ЗША), адчыніла халадзільнік. Яна хацела ўзяць курыцу і прыгатаваць булён, а на другое — ячню з беконам. І як жа яна здзівілася, калі ў халадзільніку знайшла засмажаных курэй, звараныя яйкі і тушаны салат. Місіс ушчыкнула сябе. Не, не сон... Але як жа гэта зразумець? Яна ж добра памятае,што, ідучы на работу, паклала ў халадзільнік тры сырыя курыцы, два дзесяткі свежых яек і зялёны салат!..

Сталася так, што ў халадзільніку пагаспадарыла маланка і ператварыла яго ў электрычную печ.

* * *

...У беднага мастака з Паўднёвага Ціроля, які жыў у сярэдзіне XVIII стагоддзя, не было грошай, каб купіць палатно. Нудзячыся без работы ў пыльнай майстэрні, ён звярнуў увагу на густое павуцінне ў цёмным кутку. І тут жа прыйшло ў галаву незвычайнае рашэнне—пісаць на «палатне», сатканым павуком. Мастак намачыў павуцінне малаком, даў высахнуць, а потым бекасавымі пер'ямі, замест пэндзля, стаў наносіць акварэльныя фарбы па задуманаму малюнку. Атрымалася надзвычай пяшчотная мініяцюра. Частка яе не была пакрыта фарбамі — гэта падкрэслівала незвычайнасць «палатна». Гэтыя дзіўныя творы мастацтва і сёння ўпрыгожваюць экспазіцыі многіх карцінных галерэй Заходняй Еўропы.

* * *

...Гейнэ гутарыў з сябрам пра сваіх сваякоў. Аднаго з іх, дзядзьку-банкіра, ён яўна недалюбліваў.

— Мая маці, — гаварыў Гейнэ,— любіла мастацкую літаратуру, і я стаў паэтам. А маці майго дзядзькі захаплялася «Прыгодамі разбойніка Картуша», і з майго дзядзькі атрымаўся банкір.

* * *

...Адзін амерыканскі мільянер, купіўшы карціну ў вядомага англійскага мастака Тэрнера, даведаўся, што той гэтую карціну коштам у сто фунтаў стэрлінгаў пісаў усяго дзве гадзіны. Пакупнік пакрыўдзіўся і падаў у суд на Тэрнера за ашуканства.

Старшыня суда запытаўся ў мастака:

— Скажыце, колькі ж вы, прыкладна, працавалі над гэтай карцінай?

Тэрнер адказаў:

— Усё жыццё і яшчэ дзве гадзіны!

* * *

...У геніяльнага італьянскага скульптара, жывапісца, архітэктара і паэта эпохі Адраджэння Буанароці Мікеланджэла запыталіся, навошта ён намаляваў правіцеля Фларэнцыі Медзічы прыгажуном, калі той у сапраўднасці быў гарбаты.

Мастак адказаў:

— А хто будзе гэта ведаць праз 500 год?..

* * *

...Адзін амерыканскі пісьменнік (Марк Твэн не называе прозвішча) прызнаўся:

— Я займаюся літаратурнай працай дзесяць гадоў і толькі на адзінаццатым годзе зразумеў, што ў мяне няма ніякага таленту...

— І ты, вядома, пасля гэтага кінуў пісаць? — запытаўся Марк Твэн.

— Што ты!.. Я ў той час быў вельмі ўжо славуты.






*Для аматараў фатаграфіі*
*№ 6, чэрвень 1964.*

## ВЯЛІКАЕ ІМГНЕННЕ

Гэта слова аб маіх сябрах, аб людзях неспакойнай будзённай, на першы погляд, непрыкметнай працы. З фатакорамі штодзень сустракаемся мы, разгортваючы раніцай газету ці часопіс. На кожнай старонцы — адбіткі жыцця, у рэчышчы якога нашыя думкі, намеры, трывогі. Мы часта захапляемся гэтымі адбіткамі і вельмі рэдка згадваем тых, хто дабіраўся на край свету, каб буйным планам паказаць хвалюючую падзею дня.

Наведваючы музеі, гартаючы фотаархівы, бачыш гераічную работу карэспандэнтаў-франтавікоў Міхаіла Ананьіна і Аляксандра Дзітлава, Уладзіміра Дагаева і Уладзіміра Лупейкі, Васіля Аркашова і Уладзіміра Вяхоткі. З таго незабыўнага суровага часу ў кожнага з майстроў захаваўся свой архіў, а больш дакладна — запаветны запас. Мне пашчасціла, я дакрануўся да недатыкальнага запасу і хачу даць кароткае тлумачэнне некалькіх фотаздымкаў ваенных гадоў.

Самы даўні з іх зроблены ў сорак першым. 28 чэрвеня. Мястэчка Бобр. Наводчык зенітнага кулямёта камсамолец І. А. Чараднічэнка. За першыя шэсць дзён вайны ён збіў чатыры фашысцкія самалёты.

Васіль Аркашоў, запаліўшы хітрынкі ў вачах, бывае, спытаецца:

— А ці не ішлі вы ў час адступлення праз Бобр?

— Ну...

— Страшная была бамбёжка?

— Здаецца, не...

— Адрасуйце дзякуй не богу, а «майму» Чараднічэнку — паветраныя піраты дужа баяліся яго...





Юны разведчык Паўлоўскі. Уладзімір Лупейка, былы партызан, успамінае:

— Бяда прыйшла ў хату Паўлоўскіх вясной сорак трэцяга. Арыштавалі бацьку, маці, сына. Бацьку і маці забілі гітлераўцы. Хлопчыку ўдалося ўцячы з-пад расстрэлу. Так ён трапіў у партызанскі атрад імя Чарняка, які знаходзіўся ў Старасельскім лесе



поблізу Брэста. Маленькі Паўлоўскі стаў адважным разведчыкам. Шкада, не помню ягонага імя...

У Мінску па вуліцы Янкі Купалы часта можна спаткаць паважную заслужаную пенсіянерку. Цяжка сягоння паверыць, што гэта, менавіта, яна — Аляксандра Іванаўна Федасюк. Толькі ўсяго дваццаць адзін год мінуў. Такою тады Валодзя Лупейка пабачыў яе — гераіню дзівінскіх і антопальскіх лясоў, члена Брэсцкага падпольнага абкома партыі.



Паглядзіце на волата! Ён носіць цэлы арсенал. Таксама з атрада імя Чарняка. Але тут Лупейка не толькі імя, нават прозвішча не помніць. Можа, чытачы памогуць нам у гэтай справе. А можа — бываюць жа шчаслівыя выпадкі! — і сам герой адгукнецца, пазнае сваю баявую маладосць, сустрэўшыся з ёю на старонках часопіса.

Аляксандр Дзітлаў здымаў вайну метафарычна. Як мастак. У гэтым сэнсе яму можа пазайздросціць шмат хто з франтавых кінаапаратараў. Вось





перад намі даўняя яго работа. Самотна журыцца ў цёмных сенцах, плача з гора галодная, хворая маці ў Магілёве. Нашы прыйшлі, а дзе ж яны, яе родныя сыночкі?..

Жалезная крушня нямецкіх касак. Пэўна і там, у Германіі, плачуць маткі па сынах, кінутых у пекла вайны і згарэўшых у страшным агні...

І вось — грымотная цішыня пераможнага мая. «Мы з Берліна!» Дадому, дахаты! Слава — на грудзях; у выцвілых ранцах — мір, здабыты крывёю. Лепшых адзнак і прыкмет не адшукаеш для глыбокага чалавечага вобліку Перамогі!

З пачуццём удзячнасці называем мы простыя імёны тых, хто захаваў для нас вялікае імгненне незабыўнага гераічнага часу.

**Анатоль ВЯЛЮГІН.**





# ПАДВОДЗІМ ВЫНІКІ ДЫСКУСІІ

А. ПАК (студэнт): Я думаю, што Людміла Арсенка назвала свой здымак «Клапатлівы тата». Бацька, нягледзячы на занятасць, узяў на калені любімага сына і займаецца сваёй справай. Дзіця, якое, фактычна, займае ў здымку цэнтральнае месца, не з'яўляецца галоўнай дзеючай асобай. Кампазіцыйны цэнтр здымка — рукі і сшытак. Такое вырашэнне кадра мне здаецца вельмі выйгрышнае.

На жаль, працуючы над здымкам, аўтар не скарыстаў усе магчымасці зрабіць яго лепш. Наколькі я ведаю, дома звычайна займаюцца без пінжака. (Па адзенню дзіцяці можна меркаваць, што ў пакоі была нармальная тэмпература!) А тое, што бацька перад здыманнем апрануў пінжак, выдае інсцэніроўку. Гэта — фальшывы клопат аб «прыгожай знешнасці». Прыкра, што святло неахайнае і сшытак перасвечаны. Думаю, што і кадраваць трэба было інакш. Злева і справа варта было б зрэзаць палоскі шырынёй па сантыметру, зверху ж не хапае прыкладна 0,5 см.

Вельмі прыемна, што Людміла Арсенка ўзялася за такую ўдзячную тэму, як праслаўленне клапатлівых татаў. Калі б ацаніць яе работу па пяцібальнай сістэме, то я за гэты здымак паставіў бы чацвёрку, можа з невялікім мінусам.

## У КАДРЫ І ЗА КАДРАМ

Фотаздымак ствараецца перш за ўсё дзеля зместу. Вельмі важна, што паказана на здымку, як пабудавана адлюстраванне, наколькі зразумела і дакладна раскрыў аўтар сваю асноўную думку, рэалізаваў тэму. Для гэтага ў фатаграфіі выкарыстоўваюцца многія творчыя прыёмы. Адным з іх з'яўляецца паказ цэлага праз частку. Гэты прыём выкарыстала і Людміла Арсенка ў сваёй рабоце, прапанаванай чытачам для дыскусіі ў першым выпуску нашага фотаклуба («Маладосць», № 3). Большасць удзельнікаў дыскусіі так і зразумелі гэту работу і ў сваіх выказваннях пашыраюць межы бачнага кадра.

Бачная частка кадра — рукі бацькі, канспект і дзіця. Але ёсць яшчэ і нябачная, куды мы ў думках пераносімся. Там мы «бачым» маладога бацьку, які імкнецца павышаць свае веды. Ён сядзіць у зацемненым пакоі за сталом, які асветлен настольнай лямпай. Ён трымае на каленях сваё дзіця, бо маці, відаць, занята гаспадаркай ці працуе. Мы адразу пераносімся ў абставіны звычайнай савецкай сям'і, дзе ўсе працуюць і вучацца. І нездарма амаль усе, хто прыняў удзел у нашай дыскусіі, далі такія назвы здымку: «Пазнанне свету», «Завочнік», «Студэнт», «Хутка сесія». І аўтар назвала свой здымак: «Бывае, мы займаемся так...»

Больш за ўсё выклікала спрэчак пытанне, як кадраваць здымак. Некаторыя кажуць, што дарэмна «зрэзана» частка галавы дзіцяці (Л. Плоткін). Іншыя, наадварот, падкрэсліваюць, што такая кадроўка памагае мацней выявіць думку аўтара. Большасць жа сышліся на тым, што ў кадроўцы здымка нічога нельга ні дадаць, ні адняць. І гэта сапраўды так. У кадры захавана адпаведная зместу раўнавага.

Адзін з недахопаў здымка — непрадуманасць асвятлення. Не адчуваецца накіраванасць святла ад настольнай лямпы. Надта раўназначна асветлены рука, сшытак і дзіця. І правільна піша Аляксандр Калупаеў: «...надта расслабленае святло. Ад настольнай лямпы святло павінна быць кантраснае».

Здымак Людмілы Арсенка цікавы, і можна згадзіцца з думкаю большасці ўдзельнікаў дыскусіі, якія ацэньваюць гэту работу як добрую.

Рэдакцыя спадзяецца, што і ў далейшым нашы фотааматары будуць прысылаць спрэчныя здымкі для дыскусій і прымаць актыўны ўдзел у іх абмеркаванні.

І. САЛАВЕЙЧЫК.

**Ад рэдакцыйнага савета фотаклуба «Маладосць»:**

за найбольш грунтоўны разбор здымка Людмілы Арсенка школьнік з г. Рэчыцы Аляксандр Калупаеў узнагароджваецца памятным падарункам (альбом «Майстры савецкай фатаграфіі») і арыгіналам здымка з аўтографам.








Т. Ананьіна. Людміла Барысёнак — хімік Гродзенскага азотнатукавага.

# ВІНШУЕМ З ПОСПЕХАМ

Пяты раз адбываецца вышэйшы фатаграфічны форум краіны. Пяты раз выносіць сваё рашэнне Усесаюзны камітэт па арганізацыі мастацкіх фотавыставак «Сямігодка ў дзеянні». У гэтым годзе дваццаць адзін беларускі аўтар удастоен гонару паказаць свае работы ў Маскве. Беларуская калекцыя складаецца з сарака фатаграфій, у тым ліку — дванаццаць каляровых. Гэта бясспрэчны поспех! Варта нагадаць, што на Усесаюзнай выстаўцы 1960 года наша рэспубліка была прадстаўлена... усяго адной фатаграфіяй.

Сярод тых, хто прынёс у гэтым годзе поспех калектыву беларускіх фотамастакоў, многа імён маладых аўтараў: Тамара Ананьіна, Валянцін Ждановіч, Юры Іваноў, Георгі Меншыкаў, Віктар Траскуноў. Гэтыя людзі маладыя не толькі ўзростам, але і па свайму «фатаграфічнаму стажу». Побач з імі паспяхова «трасянулі старыной» і такія вопытныя майстры, як Канстанцін Якубовіч, Яфім Ліўшыц, Павел Нікіцін, Ілья Берлін, Давід Прэс і іншыя.

На стэндах Беларускай ССР выстаўлены работы ў розных жанрах. Разам яны дастаткова поўна раскрываюць шматграннае жыццё рэспублікі, перадаюць працоўную настырнасць нашага народа.








І. Доннікаў (Гомель). Шляхі-дарогі.

# РОДНЫ КРАЙ



В. Ждановіч (Мінск). Дарога праз бор.

Хіба ж каго-небудзь могуць не прывабіць зялёныя лясныя закуткі роднага краю?!

Хіба ж могуць не зачараваць чыйнебудзь позірк такія маляўнічыя краявіды?

Апынуўшыся на скрыжаванні гэтых прасёлачных дарог, заўсёды спынішся ў роздуме: па якой з іх найсці далей — адна вядзе ў сасновы бор, другая — да цяністай дубровы...

Па вузкай сцяжынцы, што пратаптана ўзбоч дарогі, вернешся назад... Прысядзеш на валуне непадалёк ад ніцай бярозы — і залюбуешся бярозавым гаем. Як беланогія дзяўчаты, стоўпіліся на ўскраі яго маладыя бярозы ў сваіх зялёных шаўковых сукенках.

Зірнеш на гонкія сосны, што маячаць на даляглядзе, — і міжвольна ўспомніш:

> Ой бярозы ды сосны —
> Партызанскія сёстры,
> Вас ніколі ў жыцці не забыць!

Ніколі не забыць «Лясную песню» і егеру Бярэзінскага запаведніка. Пасля праліўнога дажджу ён ідзе па дарозе, аглядаючы свае ўладанні, прыгожае лясное царства.

Шмат кучаравых бяроз і гонкіх сосен зглуміў на пні люты вораг. Нямала іх, звязаных дротам, чужынец вывез на платформах і спаліў штабялямі разам з людзьмі, што гадавалі і вартавалі наша нацыянальнае багацце.



А. Камарсў (Мазыр). Раніца на Убарці.

Але ж яшчэ больш гордых і выносных бяроз і сосен моцна трымалася за родную зямлю, засланяючы партызан ад варожых куль.

На месцы былых баёў, на сонечных палянах і выжарынах дружна пайшоў у рост лясны маладняк.

На густым лісці блішчаць буйныя дажджавыя кроплі.

Ажыў Бярэзінскі запаведнік, дзе не надта смела ступала нага фашысцкіх акупантаў, бо за кожным дрэвам тут можна было сустрэць народнага мсціўца.

Так было і ў лясных гушчарах глыбокага Палесся. З поўдня, з братняй Украіны, міма Лельчыц і далей на поўнач, у паўнаводную Прыпяць павольна нясе свае хвалі плыткая Убарць. Каля травяністых берагоў, на водмелях, люстраная паверхня яе заслана шырокім лісцем белых гарлачыкаў. Суцэльнай сцяной абступілі рэчку зараснікі дубняку і алешніку.

Не абняць хараства, якое пануе над маляўнічым возерам Свіцязь.

Нібыта рыбная луска, ад сонечных промняў заіскрылася рабізна азёрнай паверхні.

Як дзве дзяўчыны, якія, узяўшыся за рукі, наважыліся акунуцца ў азёрныя хвалі, застылі ў нерашучасці гэтыя красуні-бярозы.

Адны, убачыўшы цёмныя крапінкі на белым целе бярозак, прыгадаюць радзімкі на плячах каханай, а другія, глянуўшы на ружаватую бяросту, успомняць забінтаваныя рукі баявых сяброў.

А колькі яшчэ любых сэрцу прыгожых мясцін нашага краю чакаюць пільнага вока фотааматара!

Надышоў час летніх падарожжаў. Хай у вашых вандроўках па рэспубліцы стане верным сябрам фотаапарат і запісная кніжка.

Жадаем удачы, сябры!

Мікола АЎРАМЧЫК.



У. Калеснік (Брэст). Над Свіцяззю.

# ГОЛАС АМАТАРАЎ

### АГЛЯД ПІСЬМАЎ

Кожны дзень паштальёны дастаўляюць у рэдакцыю «Маладосці» пакеты з адзнакамі «Для фотаклуба». Аматары фатаграфіі адразу ж горача адгукнуліся на стварэнне гэтага новага аддзела ў часопісе.

«Паважаная рэдакцыя!

Вельмі многа ў нашай рэспубліцы фотаамататараў, якія дзейнічаюць стыхійна, разрознена, і ваш пачэсны абавязак — накіраваць іхнія разрозненыя інтарэсы ў адзінае магутнае рэчышча фатаграфічнага мастацтва, якое з кожным годам захапляе моладзь усё больш і больш...»

Так пачаў пісьмо магілёўскі фотааматар, электраслесар **Аляксандр Мартынаў.** У пацверджанне сваіх слоў ён прыслаў некалькі здымкаў, адзін з якіх апублікаваны ў гэтым нумары часопіса.

Большасць аўтараў пісьмаў з крыўдай адзначаюць няўвагу да фатаграфічнай творчасці з боку кіраўнікоў культурна-асветных устаноў. Праўда, пасля апублікавання артыкула А. Зайцава «Кожны чацвер» (у красавіцкім выпуску «Фотаклуба») з'явіліся і першыя паведамленні пра некаторыя зрухі ў арганізацыі фотаамататарства.

Аб першых кроках аб'яднання фотаамататараў г. Мазыра напісаў **Анатоль Камароў.**

«Мы хочам развіваць нашу творчасць калектыўна і па меры сіл ставіць яе на службу грамадству,— піша А. Камароў.— Многія з нас і цяпер з'яўляюцца пастаяннымі аўтарамі газеты «Камуніст Палесся», але мы разумеем, што гэта толькі пачатак. Нам трэба многаму вучыцца!

На гарадскім сходзе фотаамататараў было вырашана стварыць фотасекцыю. Вопытны мастацтвазнаўца выкладчык педагагічнага інстытута П. П. Нікіфараў узяў на сябе правядзенне раду заняткаў, але... Дзе яны могуць праходзіць? У склад якой арганізацыі павінна ўвайсці фотасекцыя?.. Пакуль што мы знаходзімся на становішчы «дзікіх». Гарадскі аддзел культуры як быццам праяўляе некаторую цікавасць да развіцця фатаграфічнай творчасці, але рэальнай дапамогі нам не аказвае.

Для таго каб даказаць сваю карыснасць, наша самазваная секцыя вырашыла на грамадскіх асновах весці фоталетапіс Мазыра. Пры ўдзеле работнікаў рэдакцыі газеты «Камуніст Палесся» будзем перыядычна выстаўляць у горадзе стэнды з фатаграфіямі...»

Жаданне прысвяціць сваю творчасць грамадскім інтарэсам — характэрная рыса фотаамататарскага руху. Многія пішуць аб выхаваўчым значэнні фатаграфіі, аб яе ўплыве на мастацкія запатрабаванні моладзі. Вельмі цікавыя думкі і факты з гэтага поваду паведаміў нам настаўнік з вёскі Моталь (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці) **Рудольф Мерсан:**

«Бадай, я не памылюся, калі скажу, што няма такой школы, дзе б не рабілася спроба стварыць фотагурток, дзе б не аказалася энтузіястаў-фотаамататараў. Але гурткоў, у якіх дзеці захапляліся б фатаграфіяй па-сапраўднаму і лічылі б яе творчасцю, на жаль, вельмі мала. Чаму ж так атрымліваецца? Відаць, з-за няправільнай арганізацыі заняткаў. У большасці выпадкаў кіраўнік ставіць толькі прасцейшую задачу — навучыць фатаграфічным працэсам. Зразумела, без умення валодаць фотаапаратам і без ведання элементарных лабараторных прыёмаў абысціся нельга, але ж гэта не простае рамяство! Захапіць фотаамататара можа толькі творчасць.

Мне здаецца, што адной з нашых агульных задач з'яўляецца распрацоўка методыкі заняткаў фатаграфіяй у школах. Фатаграфія можа і павінна быць адным са сродкаў эстэтычнага выхавання чалавека. Калі гэты сродак выкарыстаць на пачатку развіцця інтэлекту, ён дасць самы моцны вынік. На жаль, ніхто гэтым усур'ёз не займаецца...»

Р. Мерсан паведамляе ў пісьме і пра першыя вопыты арганізацыі творчага фотагуртка, пра тое, як фатаграфія адкрыла перад сельскімі дзецьмі хараство роднага краю, якога яны раней не заўважалі. «Творчасць дзяцей, нават на першых кроках, аказалася не такой ужо слабай, як прадказвалі скептыкі. Мы стварылі першую фотагазету, якая адразу ж дала матэрыял для вялікіх размоў. Змешчаныя ў ёй здымкі — не сухое пратакольнае ўзнаўленне рэчаіснасці, а асабістыя адносіны школьнікаў да падзей, якія яны назіралі... Удасканальваць тэхнічныя прыёмы мы будзем не перш за ўсё, а паралельна з развіццём творчых запатрабаванняў».

Гэтае паведамленне прыйшло з палескай вёскі. Бясспрэчна, клопаты сельскага настаўніка пра творчыя абставіны ў школьных гуртках знойдуць водгук. Нельга пакінуць без увагі і пісьмо **В. Харлінскага,** маладога рабочага з Бабруйска.

Вось што ён піша:

«Я займаюся фатаграфіяй пяць гадоў. Стаўлюся да яе, як да магчымасці выказаць свае адносіны да навакольнага, адлюстраваць вобразы людзей, якія мяне ўразілі, цікавыя жыццёвыя сітуацыі. Па прафесіі я электратэхнік. Люблю сваю справу. Але выхад творчых імкненняў знаходжу ў фатаграфіі. Аднак на шляху ўдасканалення маёй (ды і не толькі маёй) творчасці стаіць немалая перашкода. У нас, у Бабруйску, няма ні фотаклуба, ні гуртка, які б працаваў сур'ёзна. Пакуль работнікі культасветустаноў яшчэ не звярнулі сваёй увагі на фотаамататараў.

Мне, напрыклад, вельмі хочацца прыняць удзел у фатаграфічных выстаўках. А як гэта зрабіць? У каго пракансультаваць здымкі? У каго атрымаць параду па кадроўцы, па друкаванню?.. Гэтыя і многія іншыя пытанні хвалююць у Бабруйску, вядома, не толькі мяне. Памажыце атрымаць на іх адказ».

Заканчваючы агляд некаторых пісьмаў фотаамататараў, мы спадзяемся, што ў самым хуткім часе будзем мець магчымасць апублікаваць адказ не толькі на пытанні В. Харлінскага. Адказ на агульнае вялікае пытанне: **якімі шляхамі будзе развівацца ў нашай рэспубліцы фатаграфічная творчасць!** — мы чакаем ад Міністэрства культуры Беларускай ССР. Разам з тым мы чакаем і новых пісьмаў чытачоў з паведамленнямі аб жыцці фотагурткоў і фотаклубаў, з прапановамі аб формах наладжвання фотаамататарскай творчасці.

### ФАТАГРАФІЧНЫЯ КУР'ЁЗЫ

«Фотография». **Спецыяльнае рэвю мастацкай і прыкладной фатаграфіі ЧССР.**



ДАСЦІПНЫ БАНКІР. Арыгінальную аб'яву прыдумалі ў нью-йоркскім банку «Мэхетэн банк». У адным з часопісаў была змешчана фатаграфія новага філіялу банка, прычым твары прахожых, якія трапілі ў кадр, былі выбелены. Тэкст пад здымкам гаварыў: «Прыходзьце да нас у касцюме, у якім мы сфатаграфавалі вас. Калі ваша асоба пацвердзіцца, мы падорым вам ашчадную кніжку з 25 доларамі».

САПЕРНІКІ. Ужо больш ста гадоў таму назад фатаграфія стала сур'ёзным сапернікам партрэтнага жывапісу. А скульптура працягвала існаваць без якой-небудзь канкурэнцыі. Да гэтага часу яе канкурэнцыя не больш, чым кур'ёз. Але хто ведае, што будзе праз некалькі гадоў... Макдональд Райд у сваім ателье ў Мейфайр здымае «выдатных людзей» новым спосабам. Чалавека саджаюць на 30 секунд у зубаўрачэбнае крэсла, якое павольна верціцца вакол восі. Пры гэтым чалавека здымае тэлевізійная камера. Адлюстровак пераводзіцца на перфараваную стужку, падвяргаецца дакладнаму разліку, у адпаведнасці з якім машына апрацоўвае гіпсавы блок. Машына здольна перадаць кожны выгіб і кожную маршчынку на твары, але пры ўсім гэтым гатоваму партрэту не хапае жыцця. Настае чарга скульптара, які павінен дакончыць партрэт. Потым злепак пакрываецца металам і — твор мастацтва гатовы. Макдональд Райд любіць падкрэсліваць мастацкі характар сваёй работы, але нядаўна пайшла чутка, што ён збіраецца прапанаваць свае вынаходніцтва абутковым фабрыкам для вырабу калодак.





І. Казлоў (Мінск). Прадзільшчыца Вольга Шутава з Брэсцкага дывановага.

Г. Емяльянчыкаў (Гомель). Цікаўныя.

# НАШ КОНКУРС



М. Палкін (Мазыр). Стары рыбак.





А. Мартынаў (Магілёў). Снеданак.



**СТВОРАН РЭДАКЦЫЙНЫ САВЕТ ФОТАКЛУБА «МАЛАДОСЦЬ».**

**У ЯГО ЎВАЙШЛІ:** Віталь **БАРАНОЎСКІ** — фотакарэспандэнт Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, **Янка БРЫЛЬ** — пісьменнік, **Вадзім БУЯНАЎ** — нам. загадчыка аддзела ЦК ЛКСМБ, **Уладзімір ГУГЕЛЬ** — зборшчык Мінскага радыёзавода, **Аляксандр ДЗІТЛАЎ** — старшыня фотасекцыі Саюза журналістаў БССР, **Аляксандр ЗАЙЦАЎ** — старшыня Мінскага гарадскога фотакінаклуба, **Ігар ПРЫЕЗЖАЎ** — інжынер-канструктар па фотаапаратуры, начальнік СКБ Беларускага саўнаргаса, **Ісак САЛАВЕЙЧЫК** — майстар Мінскага гарадскога прафтэхнічнага вучылішча № 32.



СТАРТЫ І ФІНІШЫ

# ПОЧЫРК МІНСКАГА ТАНДЭМА



Мустыгін ударыў па варотах.

Як вядома, сярод трыццаці трох лепшых футбалістаў краіны, спіс якіх быў апублікаваны напрадвесні, ёсць і імёны нашых беларускіх майстроў — цэнтральных нападаючых мінскага «Дынама» Міхаіла Мустыгіна і Эдуарда Малафеева.

Спартыўныя аглядальнікі і спецыялісты не скупяцца на пахвалу ў іх адрас. Так, трэнер зборнай каманды Савецкага Саюза, заслужаны майстар спорту Канстанцін Бескаў нядаўна заявіў: «Цяпер, прыгадваючы гульню іспанскай зборнай, я лаўлю сябе на думцы, аб тым, што яна па сваёй манеры нагадвае мне лепшыя гульні мінскага «Дынама» ў мінулым годзе». А каманда ж Іспаніі — адна з мацнейшых у свеце!

«Таксама, як гуляюць бразільскія майстры, цяпер спрабуе гуляць цэнтральная пара нападаючых мінскага «Дынама» — Міхаіл Мустыгін і Эдуард Малафееў. Іх почырк у гульні вельмі падобны на почырк пары Пеле — Куціньё, хаця мінчанам пакуль яшчэ і бракуе віртуознасці бразільцаў». Гэтак гаварыў адзін з лепшых абаронцаў у савецкім футболе Анатоль Круцікаў.

Гісторыя футбола ведае мала прыкладаў, каб за адзін сезон невядомы форвард праходзіў шлях ад запасных да зборнай краіны. А іменна такі шлях Э. Малафеева. Яго партнёр М. Мустыгін — больш вопытны. Ужо два гады назад ён быў сярод самых рэзультатыўных бамбардзіроўшчыкаў, але ніхто не думаў, што ён хутка стане кандыдатам у склад зборнай!

Пару цэнтральных форвардаў часта называюць «тандэмам». Гэты тэрмін запазычаны з веласіпеднага спорту. Як на тандэме — двухмесным веласіпедзе — рашаючую ролю адыгрывае ўзаемаразуменне, поўная ўзгодненасць партнёраў, так і для цэнтральных форвардаў самае важнае — адзінства, пачуццё локця.

Раптоўны ўзлёт дынамаўскага тандэма адбыўся не па шчаслівай выпадковасці. Іх імклівы рост з'явіўся вынікам тых перамен і новых павеваў, якімі цяпер адзначана развіццё айчыннага футбола, і перш за ўсё яго тактычнае пераўзбраенне.

Мінулы год у нашым футболе азнаменаваны рашучым наступам сістэмы «1+4+2+4» на іншыя тактычныя пастраенні. Сярод каманд, якія безумоўна прынялі сучасную сістэму, было і мінскае «Дынама». Самае галоўнае пры гэтай сістэме — гэта пара цэнтральных нападаючых.

Цяпер нападаючых стала на аднаго менш. З аднаго боку, гэтым як бы пагаршаліся ўмовы для вядзення атакі, з другога — адкрываўся прастор для форвардаў. Яны не тоўпіліся на штрафной пляцоўцы, а мелі магчымасць для шырокага і вольнага манеўру. Іменна манеўр стаў галоўным рашаючым метадам цэнтральных нападаючых.

Трэнеры «Дынама» Аляксандр Сявідаў і Анатоль Ягораў праявілі сапраўдную дальнабачнасць. Яны здолелі ўбачыць у двух футбалістах, якія дагэтуль ніколі не выступалі разам, моцна спаяны дуэт. Прычым, у манеры гульні, у спартыўным гусце і схільнасцях Мустыгіна і Малафеева мала агульнага. Але гэта, напэўна, і вырашыла ўсё. Спалучэнне двух, зусім розных індывідуальнасцей і дало цудоўны сплаў, з якога і выкаваўся стрыжань усёй каманды.

Мустыгін і Малафееў сустрэліся ў Мінску пасля доўгай ростані. Абодва — з падмаскоўнай Каломны. Абодва там рабілі першыя крокі, скончылі «пачатковую футбольную школу». А потым адзін апынуўся ў камандзе ЦСКА, другі ў маскоўскім «Спартаку». Мустыгіна спрабавалі выкарыстаць у асноўным складзе, але месца яму там не знайшлі. Малафеева лічылі надзейным, перспектыўным іграком. Яго нават уключылі ў склад юнацкай зборнай краіны, але тым не менш трымалі дублем. Хлопцам жа хацелася гуляць, у поўнай меры праявіць свае магчымасці і здольнасці.

Не адразу, не з першых гульняў прыйшло да Мустыгіна і Малафеева ўзаемаразуменне. Яно зараджалася ў першых кантрольных гульнях на поўдні, а потым мацнела ад матча да матча. Тут велізарную ролю адыгралі давер'е трэнераў і калектыву, з аднаго боку, і працавітасць, старанне саміх футбалістаў, з другога. Малафееву спачатку ніяк не ўдавалася адкрыць асабісты рахунак. Тройчы ён пакідаў поле, не дамогшыся выніку. Зразумела, што настрой ад гэтага не ўзнімаўся. Важна было падтрымаць яго на тым часе, і трэнеры пры дапамозе ўсяго калектыву здолелі зрабіць гэта. Нарэшце, 15 красавіка ў матчы з былымі сваімі аднаклубнікамі — маскоўскімі спартакаўцамі Малафееў забіў свой першы гол. А потым прарвалася. Эдуард упэўнена пасылаў мячы ў вароты праціўніка. У другім кругу, канчаткова паправіўшыся пасля траўмы, на поўную сілу пачаў гуляць Мустыгін. Яго «снайперскія стрэлы» траплялі ў вароты, і іх абаронцам даводзілася рабіць толькі адно — вымаць мяч з сеткі.

Мустыгін і Малафееў па-рознаму шукаюць шляхі да варот. На ўзбраенні ў Мустыгіна такая грозная зброя, як дрыблінг, абводка. Часам ён дзейнічае, здаецца, насуперак логіцы: трэба адрывацца ад абаронцаў, а ён лезе ў самую іх гушчу. Вось тут і ўзнікаюць эпізоды, якіх з нецярпеннем чакаюць на трыбунах. Мустыгін літаральна прадзіраецца праз шчыльны заслон. Ён хітруе, спрытна збівае з тропу абаронцаў, праціскаецца з мячом у такія шчыліны, што іх адразу і не заўважыш. Хуткасць такая, што абаронцу паправіць сваю памылку ўжо няма як. А потым маланкавы, нібы ўкол шпагі, удар па варотах.

Уласна кажучы, майстрам такіх сольных партый Мустыгін быў і раней. Мажліва, сама абстаноўка ў камандзе вымушала яго да гэтага. Тады ў яго не было такіх моцных партнёраў, як цяпер, і ён заставаўся толькі салістам, на яго абавязку было завяршэнне атак нападу.

З прыходам Малафеева і Адамава ў Мустыгіна праявілася новая якасць: уменне вельмі тонка і з разлікам гуляць у пас. Ён цудоўна бачыць усё поле і нечаканымі, дакладнымі перадачамі стварае партнёрам зручныя сітуацыі, выводзіць іх на ўдарныя пазіцыі.

У Малафеева крыху інакшы почырк. Ёсць у лексіконе футбалістаў такі выраз: «прапанаваць сябе». Гэта азначае, што ігрок імкнецца выбіраць па-

Міхаіл Мустыгін і Эдуард Малафееў на стадыёне ў вольны ад гульні час.



зіцыі, зручныя для прыёму мяча, для абвастрэння атакі. Малафееў якраз і вызначаецца сваімі цікавымі прапановамі. Ён заўсёды ў руху. То бяжыць на адзін фланг, то на другі, а то і ў цэнтры здолее адшукаць месца, не прыкрытае абаронцамі. Ён як бы запрашае партнёра: «Дай пас, бачыш, я вольны і гатовы прыняць мяч!»

З іншым футбалістам бывае, што ён «адкрыўся» раз, другі, а партнёр не заўважае. І форвард перастае рухацца з ранейшым запалам. Малафееў не ведае стомы, ён працуе заўзята, кожным сваім рухам прымушае абаронцу зноў і зноў вырашаць тактычныя задачы. Далёка не кожны здатны вытрымаць гэткае доўгае напружанне паядынку. Варта абаронцу хоць на імгненне аслабіць увагу, як Малафееў ужо выкарыстаў гэта, і чакай трапнага ўдару па варотах.

Зімою, насуперак даўнім традыцыям, нашы футбалісты не адпачывалі. Яны адправіліся за акіян, у далёкую Мексіку і прынялі ўдзел у буйным міжнародным турніры. У складзе зборнай клубаў выступалі Мустыгін з Малафеевым.

Усяго ў пяці матчах нападаючыя зборнай забілі 14 галоў. Чатыры з іх прыходзяцца на долю нашага мінскага дуэта. Малафееў разам з Віктарам Панядзельнікам забілі тры галы. І яшчэ адна цікавая дэталь: тройчы саперні́кі *нашай* каманды адкрывалі лік, і заўсёды яго выроўнівалі мінчане — двойчы Малафееў і адзін раз Мустыгін. Думаецца, што гэта не выпадковасць. Нашы хлопцы не прывыклі перакладваць адказнасць на плечы суседа.

Мустыгін і Малафееў не баяцца, як гаворыцца, узяць «гульню на сябе», калі трэба. І не толькі ў спакойнай абстаноўцы, але і ў вострай схватцы, калі гол вельмі патрэбен. Гэта звычка, выпрацаваная ў сваім калектыве, як не трэба лепш спатрэбілася ў зборнай.

У Мексіцы наш «тандэм» прадэманстраваў свае лепшыя якасці. У вароты сапернікаў заляталі галы, якія завяршаліся зладжанымі дзеяннямі мінскай пары. Доўга не змаўкала авацыя на трыбунах універсітэцкага стадыёна ў Мехіка пасля сольнага выступлення Мустыгіна, калі ён прайшоў з мячом ад цэнтра поля да штрафной плошчы, абвёў па дарозе чатырох (!) абаронцаў і нанёс трапны ўдар у вароты мексіканскай каманды «Гвадалахара».

...Неяк незадоўга да пачатку сёлетняга чэмпіяната мне давялося моцна паспрачацца з адным са сваіх калег-журналістаў. Ён пагардліва назваў мінчан «каліфамі на час» і прадракаў, што ім не ўдасца наблізіцца да свайго мінулагодняга выніку.

— Зразумейце,— пераконваў ён мяне,— вашу каманду ўсе ўжо раскусілі. Варта ўзяць мацней за Малафеева і Мустыгіна, як ад нападзення нічога не застанецца...

Маімі абаронцамі і апанентамі аказаліся... самі Мустыгін і Малафееў. Сапраўды, з першых жа матчаў іх *апякалі занадта пільна*. Як відаць, трэнеры нашых сапернікаў прытрымліваюцца такога ж пункту гледжання. Што трэба рабіць, ім было ясна. Але вось як — гэта пытанне засталося без адказу. Колькі ні пільнавалі Малафеева абаронцы «Шынніка» на чале са спрактыкаваным Анатолем Маслёнкіным, ён усё ж прабіўся да варот. Гол!

Пасля матча з «Нафтавікам» адзін з балельшчыкаў сказаў даволі трапна: «Малафееў завёў новую звычку — караць варатароў». На самай справе, варта было варатару «Нафтавіка» Уладзіміру Касянкову зрабіць нязначную на першы погляд памылку, як Малафееў адразу выкарыстаў яе. Мажліва, каб на яго месцы быў хто-небудзь іншы, промах аказаўся б нявыкарыстаным. У Эдуарда выключнае тактычнае чуццё. Ён адчувае, калі выспявае небяспека ля варот сапернікаў і вельмі дакладна вызначае пункт, адкуль трэба нанесці рашучы ўдар. Ён можа раз, другі, трэці выходзіць на ўдарную пазіцыю, ніколі не палянуецца, каб зрабіць яшчэ рывок да варот, не зважаючы на стому. І ўрэшце працавітасць узнагароджваецца перамогай.

А потым лік забітых галоў у новым чэмпіянаце адкрыў і Мустыгін. Прычым, ён здолеў узяць верх над «наследнікам самога Яшына», кутаіскім варатаром Рамазам Урушадзе, які цяпер уключаны ў зборную краіны. Нават Урушадзе не мог стрымаць нечаканага ўдару, зробленага з матэматычнай дакладнасцю ў ніжні кут ля самай штангі.

Футбольны сезон у разгары. Ніхто зараз не скажа, колькі разоў удары Мустыгіна і Малафеева дасягнуць мэты, чым яны парадуюць сваіх шматлікіх прыхільнікаў. Можна не сумнявацца, іх не расчаруе мінскі «тандэм».

...Дружа мой, балельшчык! Бачу, ты сядзіш на трыбуне і не адводзіш вачэй ад скуранога мяча, які гойсае па полі. Паназірай трохі, як гуляюць Мустыгін і Малафееў. Паглядзі, як яны рухаюцца, робяць кідкі. І ты лепш зразумееш, у чым сутнасць і хараство гульні, убачыш смелы і творчы футбол.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**
Фота **Д. Церахава.**





# ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй міжнароднага майстра Аляксея СУЭЦІНА

## КОЛЬКІ ПАРТЫЙ ПАВІНЕН ЗГУЛЯЦЬ ПРЭТЭНДЭНТ НА СУСВЕТНУЮ КАРОНУ

У мінулым годзе вясною шахматная грамадскасць была сведкам атрымання лаўровага вянка новым чэмпіёнам — масквічом Цігранам Петрасянам. Петрасяну тады не было яшчэ і трыццаці чатырох год. Гавораць, што крытычны ўзрост для заваявання звання чэмпіёна свету 35—37 гадоў, мяркуючы, як атрымлівалі гэта званне Х. Р. Капабланка, А. Алёхін, М. Батвіннік. Петрасяну ж у 37-гадовым узросце якраз трэба будзе адстойваць гэтае званне. Падрыхтоўка да гэтага вельмі доўгага «экзамена» (ён цягнецца два месяцы!) пачынаецца амаль што адразу пасля таго, як сціхнуць воплескі новаму чэмпіёну. Спачатку праходзяць нацыянальныя чэмпіянаты, потым занальныя турніры.

Увесь шахматны свет мае дзесяць зон. Шахматныя зоны крыху адрозніваюцца ад звычайных геаграфічных паняццяў. Такія «вялікія» краіны, як Англія, Францыя, Італія, у шахматных адносінах маюць толькі слаўную гісторыю. Наадварот, такія краіны, як Югаславія, Галандыя, Венгрыя, «зоркі першай велічыні». Асобнымі зонамі з'яўляюцца шахматныя арганізацыі Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі. СССР мае чатыры месцы ў міжзанальным турніры, ЗША — тры месцы. Але калі для ЗША гэта больш чым дастаткова — там, апрача Р. Фішара і С. Рашэўскага, няма шахматыстаў сусветнага класа, дык для Савецкага Саюза чатыры месцы толькі самы мінімальны лік. Нават гэтыя чатыры, калі яны застануцца пераможцамі ў міжзанальным турніры, не будуць усе прэтэндэнтамі на гульню з чэмпіёнам свету.

Згодна ўмоў ФІДЭ (Міжнароднай шахматнай федэрацыі), толькі тры прадстаўнікі ад адной краіны маюць права быць у міжзанальным турніры. Вядома, прэзідэнт ФІДЭ шведскі капіталіст Ф. Рогард добра ведае савецкіх гросмайстраў і тое, што можна налічыць мінімум дзесяць здольных прэтэндэнтаў на змаганне за сусветную карону.

Насуперак гэтаму факту, Рогард, наадварот, скардзіцца на «гегемонію савецкіх шахматыстаў», якія як быццам перашкаджаюць развіццю шахмат у капіталістычных краінах. Ён заклікае нашых шахматыстаў у імя будучыні шахмат уступіць свае інтарэсы.

Праўда, пакуль што абмежаваны доступ нашых гросмайстраў да гульні на званне чэмпіёна свету ні разу не памог зарубежным гросмайстрам, як не можа памагчы ніякае штучнае абмежаванне натуральнаму ходу падзей. Да гэтага часу ў турнірах прэтэндэнтаў савецкія гросмайстры дамінуюць заўсёды. За ўсе пасляваенныя гады лепшага выніку з зарубежных шахматыстаў дамогся амерыканец С. Ра-

шэўскі, які ў турніры прэтэндэнтаў 1957 года падзяліў 2—4 месцы з савецкімі гросмайстрамі Д. Бранштэйнам і П. Керасам.

З таго часу адбылося шмат падзей у шахматным жыцці. С. Рашэўскі моцна пастарэў і прытупіў свае шахматныя «зубы». Але іменна цяпер у буржуазным шахматным свеце падняўся сапраўдны ажыятаж. Справа ў тым, што на змену С. Рашэўскаму прыйшоў другі амерыканскі шахматыст, 21-гадовы Роберт Фішар.

Поспехі Р. Фішара ў турнірах у ЗША вельмі красамоўныя: пачынаючы з чатырнаццацігадовага ўзросту ён — нязменны чэмпіён сваёй краіны. Рашэўскі адстае ад яго ва ўсіх турнірах. Цікава тое, што Р. Фішар, яшчэ не паспеўшы, як гавораць, абрасці пер'ем, з першых жа крокаў сваёй шахматнай кар'еры пачаў «абліваць гразёю «старога Сэма» (так завуць у ЗША Рашэўскага). Лепш за ўсё сведчыць пра іхнія ўзаемаадносіны (а магчыма, і пра норавы ў краіне нагул) матч, які быў спынены пры роўным ліку... пасля грандыёзнейшага скандалу паміж гэтымі заакіянскімі «зоркамі».

Р. Фішар не адзначаецца сціпласцю. Але нельга адмовіць яму ў практычнасці. Не выпадкова яго настольнымі кнігамі з'яўляюцца працы нашых шахматыстаў. Ён усюды падкрэслівае, што вучыцца ў савецкіх майстроў. Вядома, ён тут жа з гонарам заяўляе, што блізкі той час, калі ён адбярэ шахматную карону сабе. Але пакуль яго суправаджалі толькі няўдачы і расчараванні. Ён проста-такі па-сапраўднаму плакаў, калі прайграваў нашым гросмайстрам.

Напярэдадні мінулага турніру прэтэндэнтаў 1962 года ў Фішара былі самыя светлыя надзеі, але закончыліся яны новым плачам... праўда, на старонках «Лайфа». Справа ў тым, што Фішар, прайграўшы тры прынцыповыя матчы савецкім шахматыстам (Ц. Петрасяну, Я. Гелеру і В. Карчному пры нічыёй з П. Керасам), ледзь здолеў заняць толькі чацвёртае месца.

Менш за ўсё ён стаў аналізаваць сапраўдныя прычыны сваіх няўдач, а накінуўся на сістэму адборачных спаборніцтваў. Ён заявіў, што турнір прэтэндэнтаў арганізаваны па няправільнаму прынцыпу. Канечне, не заява Фішара, а іншыя меркаванні кіравалі савецкай шахматнай федэрацыяй, калі яна ўносіла некаторыя прапановы аб змене ўмоў адборачных спаборніцтваў. Міжзанальны турнір, праўда, захаваў сваё «статус-кво». А вось турнір прэтэндэнтаў, дзе застаюцца восем лепшых шахматыстаў свету, заменены на матчы прэтэндэнтаў. Спачатку гэта будуць чвэрцьфінальныя сустрэчы, пераможцы якіх сустрэнуцца ў двух паўфіналах. Нарэшце, два паўфіналісты сустрэнуцца ў фінальным паядынку, пераможца якога і будзе мець права сустрэцца ў 1966 годзе з чэмпіёнам свету.

Цяпер 24 пераможцы занальных турніраў вядуць напружаную барацьбу ў Галандыі. Шэсць яго пераможцаў (у тым ліку не больш трох ад адной краіны) і персанальна запрошаныя экс-чэмпіён свету М. Батвіннік і гросмайстар П. Керас (як яго называюць — «вечна другі» ў турнірах прэтэндэнтаў) будуць спаборнічаць у чвэрцьфінале.

Напрошваецца пытанне: колькі ж партый трэба будзе згуляць прэтэндэнту, *каб стаць пераможцам? Для гэтага трэба*, апрача 23 партый міжзанальнага турніру, выйграць яшчэ тры матчы — што складае яшчэ прыкладна *36 партый. І вось, толькі* на самым апошнім, пераможным, этапе трэба прайсці праз полымя, як мінімум, 59 шахматных баёў. Сапраўды, для перамогі — *трэба прайсці і праз агонь і праз ваду!*

Савецкія шахматысты былі сур'ёзна падрыхтаваны да гэтага. Два самыя буйныя спаборніцтвы за апошнія месяцы — фінал XXXI першынства СССР і занальны турнір 1964 года ў Маскве былі пачаткам міжнародных баёў. Спецыялісты сцвярджаюць, што гэты пачатак быў нават сур'ёзнейшым за асноўную частку па цяжкасці, прыгажосці і змястоўнасці партый, сыграных на гэтых спаборніцтвах.

Засталося пяць савецкіх гросмайстраў, якім трэба будзе працягваць барацьбу за сусветную шахматную карону. *Матчы прэтэндэнтаў адбудуцца* на працягу наступнага, 1965 года.

Аматараў шахмат нашай краіны, напэўна, хвалюе пытанне, хто з замежных шахматыстаў найбольш небяспечны для савецкіх гросмайстраў. Мяркуючы па апошніх выніках, безумоўна, найбольш моцным з ліку замежных шахматыстаў быў бы Р. Фішар. Але, як вядома, у самы апошні момант ён адмовіўся ад удзелу ў міжзанальным турніры. У апошнім чэмпіянаце ЗША 1964 года ён набраў рэкордны лік ачкоў — 11 з 11 магчымых! Але адно — чэмпіянаты ЗША і зусім іншае — барацьба на вышэйшым шахматным узроўні. Для такога турніру Фішару яшчэ многаму трэба навучыцца. Галоўнае, тым няўлоўным тонкасцям шахматнай барацьбы, якія пакуль што не запісаны ні ў адным дапаможніку, а пазнаюцца толькі ў жорсткай і самай адказнай гульні. Выказванні Р. Фішара пасля міжзанальнага турніру паказалі, што ён тады не зразумеў сутнасці сваіх няўдач з нашымі карыфеямі шахмат. А ён жа праіграваў, часам, нават не сядаючы за дошку! Р. Фішар, безумоўна, вельмі адораны шахматыст, і яго маладосць — зарука далейшага росту. Але пакуль што нашы лепшыя шахматысты глыбей і больш тонка разбіраюцца ў тонкасцях шахматнай барацьбы. Ва ўсякім разе, будучая барацьба за сусветную шахматную карону будзе вельмі захапляючая і сур'ёзная.

Аматары шахмат цікавяцца, ці будзе М. Батвіннік гуляць у матчы прэтэндэнтаў? Улічваючы яго выдатную фізічную падрыхтоўку (Батвіннік — гэта як бы прыклад таго, што можа зрабіць строгі спартыўны рэжым для чалавека) і велізарны матчавы вопыт, няма падстаў сумнявацца ў тым, што ён зноў пажадае адчуць прыгажосць матчавага хвалявання. Вядома, гэтае пытанне будзе вырашана з часам.

Цяпер у чэмпіёна свету працяглы творчы адпачынак, але ягоная падрыхтоўка да адказнейшага экзамена, па сутнасці, ужо даўно пачалася.

# *НАШ КОНКУРС*

У нумары 1 часопіса за 1964 год быў апублікаваны шахматны эцюд, дзе белыя павінны былі выйграць. Правільныя адказы прыслалі **Г. Грэк** (Мінск) і **С. Шмурадка** (Віцебская вобласць).

Даем рашэнне эцюда: 1. Kpd7! a5, 2. h5 a4, 3. h6 ab, 4. h7 b2, 5. h8Ф b1Ф. 6. Фc8+ Kpa7, 7. Фc7+! і г. д. Але памылкова было б: 1. h5? Kpa6, 2. h6 Kpa5!, 3. h7 a6 пат!

А цяпер прапануем адказаць на наступныя тры пытанні, якія таксама ўваходзяць у наш конкурс:

1. Хто з савецкіх шахматыстаў найбольшы лік разоў прымаў удзел у турнірах прэтэндэнтаў?

2. Паміж якімі двума партнёрамі была сыграна найбольшая колькасць партый у барацьбе за сусветную шахматную карону?

3. Калі быў сыграны першы афіцыйны матч-рэванш на першынство свету па шахматах?

Чакаем вашых адказаў.




БРЫЛЬ Янка — вядомы беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1917 годзе ў г. Адэсе. Дзіцячыя гады і маленства яго прайшлі на Навагрудчыне.

Першую сваю кнігу апавяданняў ён выдаў у 1946 годзе. За гэтыя гады ў выдавецтвах Беларусі, у Маскве, Ленінградзе, Кіеве, краінах народнай дэмакратыі выйшаў не адзін дзесятак кніг з апавяданнямі, аповесцямі, нарысамі пісьменніка. За аповесць «У Забалоцці днее» быў удастоены Дзяржаўнай прэміі. Летась Я. Брыль напісаў раман «Птушкі і гнёзды».

ПЫСІН Аляксей нарадзіўся у 1920 годзе ў вёсцы Высокі Барок на Магілёўшчыне. Да вайны вучыўся ў Мінскім інстытуце журналістыкі. У час вайны знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях. Скончыў у Маскве вышэйшыя літаратурныя курсы і цяпер працуе ў абласной газеце «Магілёўская праўда».

Зборнікі вершаў А. Пысіна — «Наш дзень», «Сіні ранак», «Эхо» (на рускай мове), «Сонечная паводка», «Матылёчкі — матылі».

ДЗМІТРЫЕЎ Генадзь нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Першамайка на Віцебшчыне. Працаваў загадчыкам клуба рабочай моладзі на льнозаводзе, пасля — рабочым на будоўлях Мінска. Цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.



**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Аповесць Леаніда ГАЎРЫЛКІНА «СПЕЛАЕ ЛЕТА».**

**Апавяданні Анатоля ВЯРЦІНСКАГА, Барыса САЧАНКІ.**

**Вершы Артура ВОЛЬСКАГА, Міколы КУСЯНКОВА.**

**Артыкул Івана РАЛЬКО «ПАЭТЫ, ВЕРШЫ, ЧАС».**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: — 93-854 — сакратарыят; 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы; 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 6806 экз. Цана 40 кап.
АТ 05249. Здадзена ў набор 30/IV-64 г. Падпісана да друку 4/VI-64 г. Зак. 222.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.